**НОВЫ ФАРМАТ — 24 СТАРОНКІ**

№26 (959) 3 жніўня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# 1991 25 Жыве Беларусь!

ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

## Ад рэдактара

Ніколі беларусы не жылі так багата і спакойна, як пры незалежнасці. Але не знойдзеш другога такога еўрапейскага народа, які б так мала шанаваў свой вялікі здабытак.

Вы трымаеце ў руках другі нумар «НН» у фармаце месячніка.

Жнівень — у гэтым месяцы спаўняецца 25 гадоў, як Беларусь стала незалежнай.

Страшная памылка ідэолагаў Аляксандра Лукашэнкі і яго самога, што краіна, па вялікім рахунку, ніяк не святкуе гэтай даты.

Калі людзей не прывучаюць шанаваць незалежнасць, у крызісны момант нацыя можа зноў яе страціць выпадкова, па-дурному. Памяці пра вайну недастаткова для фарміравання дзяржаўнага і нацыянальнага пачуцця. У вайну наш народ заплаціў страшную цану, унёс сваю долю ў ліквідацыю нацызму — але застаўся несвабодны. Таму вайна не можа быць адзіным падмуркам гістарычнай памяці.

Пара прызнаць і ўшанаваць тых людзей, якія ў ХХ стагоддзі выступалі за незалежнасць Беларусі.

* * *

Дзеці нараджаюцца ў раддоме. Грамадзяне нараджаюцца ў школе.

Што так і што не так у беларускіх школах? Што павінна змяняцца ў іх, каб Беларусь мацнела і багацела?

Мы далі слова тром бацькам, усе трое — актывісты бацькоўскіх камітэтаў і апякунскіх рад. Ва ўсіх траіх дзеці — выдатнікі. Усе трое з вялікай увагай ставяцца да вучобы сваіх дзяцей. Гавораць Крысціна Вітушка, Алеся Літвіноўская, Зміцер Бабін. **Старонка 4**.

Тэма міжнародных палосаў — яшчэ раз Крым і Данбас. І тое, якія высновы мусіць зрабіць Беларусь з сітуацыі там. **Старонка 14**.

Што датычыць палосаў культуры, то ў гэтым нумары публікуецца ўрывак з новай аповесці Уладзіміра Някляева «Купала і Сталін». **Старонка 20**.

Наша газета і надалей будзе з’яўляцца ў кіёсках у першую сераду кожнага месяца. А анлайн сайт nn.by абнаўляецца ўвесь час, чытайце з камп’ютараў ці тэлефонаў.

Рэд.

# Круцілі два таварышы

Працягваецца захапляльны суд над Япрынцавымі.

У судзе Цэнтральнага раёна Мінска каторы тыдзень працягваецца разгляд рэзананснай справы паводле абвінавачвання ў махлярстве Уладзіміра і Казбека Япрынцавых і Аляксандра Арабяна.

Гэты судовы працэс можна было паказваць у тэлеэфіры замест «Санта-Барбары» — настолькі закручаны ў ім сюжэт і настолькі яркія дзейныя персанажы.

Пра фабулу крымінальнай справы «Наша Ніва» пісала ў папярэднім нумары: Казбек Япрынцаў і ягоны сябар Аляксандр Арабян нібыта абяцалі пастаўкі паліва замежным кампаніям, але свае абавязацельствы не выконвалі. Утварыліся шматмільённыя пазыкі, у тым ліку перад расійскімі «аўтарытэтамі», з якімі ўзяўся разабрацца бацька Казбека, Уладзімір Япрынцаў. Наяўных грошай яму не хапала, і ён расейцам заклаў сваю долю ў «Трайпле» Юрыя Чыжа.

Чыжу гэта дзіка не спадабалася.

Тады Чыж «падбіў» партнёраў Япрынцавых напісаць на яго заяву ў КДБ. Япрынцавых затрымалі. А праз некалькі месяцаў за кратамі апынуўся і сам Чыж...

Хто каму і колькі павінен грошай — разбярэцца суд.

Ці то Чыж выкарыстаў сітуацыю напоўніцу, каб перадзяліць маёмасць. Ці то гэта насамрэч вялікая справа пра калапс і банкруцтва самога Чыжа — гэта журналісты яшчэ мусяць разблытаць. Пакуль тут цяжка сказаць адназначна.

Для гледача, не абазнанага ў асаблівасцях вядзення бізнэсу ў Беларусі, цікавасць уяўляюць яшчэ паводзіны персанажаў у судзе і іх дыялогі між сабой.

### «Ты мне хоць раз патэлефанаваў у рэанімацыю?»

Адносіны Юрыя Чыжа з Уладзімірам Япрынцавым былі цёплыя: доўга жылі на адной пляцоўцы, дзверы ў дзверы, іх дзеці сябравалі. «Я яго за брата лічыў — ён хросны бацька маёй дачкі, я — ягонага сына», — казаў Япрынцаў.

З паказанняў у судзе вынікае, што тандэм Япрынцава і Чыжа працаваў так: Чыж — дзялок,варочае грашыма, але ў прынцыпе чалавек з вёскі і першапачаткова без кантактаў. А Япрынцаў — такі сабе спартовец у законе, чалавек, які жыве «па паняццях», але мае разнастайных сяброў, аднак не мае бізнэсовай жылкі. Вось яны і працавалі — Чыж грошы ганяе, а Япрынцаў прыводзіць кліентаў, якія пад яго чэснае слова даюць грошы. І ўсё ішло нармальна, пакуль Япрынцаў не даў зашмат волі сыну, які, не маючы дзелавога таленту (адны амбіцыі), пачаў браць грошы пад чэснае слова бацькі.

Прыходу ў суд Чыжа чакалі больш за ўсё, бо менавіта ён выглядаў ініцыятарам затрымання колішняга сябра. Як пасля такога глядзець у вочы?

Япрынцаў трымаўся добра, задаваў Чыжу шмат падрыхтаваных пытанняў. А той выглядаў няўпэўненым.

**Япрынцаў:** Ты сам займаў людзям? Табе павінны сёння буйныя сумы?

**Чыж:** Так.

**Япрынцаў:** Дык чаму ты на іх заяву ў КДБ не напісаў? Ім вера ёсць, а мне няма?

Чыж прамаўчаў.

**Япрынцаў:** Скажы, ці былі выпадкі, калі мы не ў час аддавалі грошы?

**Чыж:** Былі, але стараліся своечасова аддаваць.

**Япрынцаў:** На нас хоць раз у КДБ напісаў хто-небудзь?

**Чыж:** Не...

**Япрынцаў:** Пытанне маральнага характару. Ты ведаў, што я пасля таго, як перапісаў сваю долю, трапіў у рэанімацыю?

**Чыж:** Так, ведаў.

**Япрынцаў:** Ты хоць раз мне патэлефанаваў? Спытаў, што здарылася?

**Чыж:** Не, навошта турбаваць у рэанімацыі?

**Япрынцаў:** Зразумела. А было хоць раз, каб ты прыляцеў кудынебудзь і я табе не набраў?

Чыж прамаўчаў.

**Япрынцаў:** Скажы, якія ў нас былі адносіны? Паміж намі, сем’ямі?

**Чыж:** Апошнія тры гады ўжо не такія, як раней.

### «Ёсць рэчы, даражэйшыя за грошы і свабоду»

Пытанні Чыжу задаваў і Казбек Япрынцаў. Пры гэтым не ўпускаў магчымасць прадэманстраваць сваю маральную перавагу.

**Працяг на старонцы 12.**




**На судзе Япрынцаў паўстае такім сабе «спартоўцам у законе».**

## Дзякуй чытачам-мецэнатам

Шчыра дзякуем за ахвяраванні на выхад NN.BY/«Нашай Нівы» праз сістэму АРІП:

Яўгену Раманавічу Н., А. В. Дарму, Анатолю Яўгенавічу К., Андрэю В., спадарам Макс-ч, Bek-ch, N-vi D. Ad-d, Віталю Д., В.Н. Б-л, Н. А. Гр-му, Ryhor A., DK, Mihal Ka., В.А. В-т, Антону Ш., a.b. Kurl-kou, І.М. А-н, Спадару Арл, Андрэю К., З.С. Ізв-вай, Т.М. Шч-кун, В. Л-ка, Н.Б. Мак-лі, Aliaksej, Ю.Ю., Валеру Дзмітрыевічу Т., Сяргею Ш., СВГЦ, Раману Віктаравічу А., С.В. Ж-к, В.Д. Він-ву, А.Я. Л-тка, Паўлу П.

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем Алеся Юркойця** з будучым 45-годдзем! Пабачымся!
Сябры

**Рэпетытар па беларускай мове ў Гродне**
Беларуская мова:
— школьная праграма, сістэматызацыя і паглыбленне ведаў;
— падрыхтоўка да паступлення ў гімназію;
— падрыхтоўка да выпускных экзаменаў і ЦТ;
— дапамога ў выкананні студэнцкіх работ.
Падрабязная інфармацыя пра мяне тут: https://vk.com/topic-125532853_34482543
Вікторыя, viasnovaja.ranica@gmail.com

## Апытанне на nn.by

**Вы сталі зарабляць менш ці больш за апошні год?**

| | | |
|---|---|---|
| Менш | 1366 | 71% |
| Больш | 184 | 10% |
| Столькі сама | 270 | 14% |
| Не скажу | 91 | 5% |

Усяго прагаласавала 1911.

## Самае чытанае на nn.by за ліпень 2016

1 Мінчукі заняліся сэксам пасярод вуліцы — фота

2 У Турцыі правалілася спроба вайсковага перавароту

3 Як «Анлайнер» нязграбна замазваў на здымку бел-чырвона-белы сцяг — фота

4 Скандал у Нацыянальнай бібліятэцы: падлеткі зладзілі спаборніцтвы па даўжыні пляўкоў

5 Суздальцаў абураецца беларускай дэнамінацыяй: «Грошы падобныя да еўра, і на іх няма ні слова па-руску»

6 Беларусь развітваецца з Шараметам — у адным фотаздымку

7 Саша: жыццё пасля пажару. Фотагісторыя Сяргея Гудзіліна пра неймавернае жаданне жыць

8 Мустафа Наем на развітанні з Шараметам: «Лукашэнка праявіў слабасць»

9 Цуд на «Славянскім базары»: Ланская заспявала мужчынскім голасам — відэа

10 У Кіеве ўзарвалі машыну з Паўлам Шараметам



## У наступных выпусках

**Віктар Шукеловіч**
Пані Ідаўская і Зюнечка. Апавяданне

**Андрэй Вашкевіч**
Як у 1924-м правалілася план абвясціць Ашмянскую народную рэспубліку

**Калінінград:**
што было б з Беларуссю, калі б яна была ў складзе РФ

# «Пацерлася фарба»

## Стала вядомай інфармацыя пра падзенне рэактара на Астравецкай АЭС

Цягам апошніх месяцаў будаўніцтва АЭС у Астраўцы суправаджаецца чуткамі пра розныя пазаштатныя сітуацыі: так, увесну ў інтэрнэце з'явіліся фатаграфіі абвалу бетонных канструкцый. Тады Міністэрства энергетыкі патлумачыла, што нічога страшнага там няма, проста памылка пры будоўлі падсобнага памяшкання. Але ўжо летам Сеціва ўскалыхнула іншая навіна: падчас трэніровачнай устаноўкі ўпаў 330-тонны рэактар!

Вышыня называлася розная — ад 2 да 4 метраў. Агучваліся і розныя версіі аварыі. Расійскі забудоўшчык спачатку адмаўляў здарэнне, пасля «разбіраўся», заяўляў пра несур'ёзнасць, пакуль гаворка не зайшла пра спыненне работ і неабходнасць мяняць корпус рэактара.

«Наша Ніва» прыводзіць храналогію развіцця падзей, каб у людзей не было ілюзій наконт таго, як хутка мы даведаемся, калі там не дай бог, штосьці адбудзецца пасля запуску.

### Храналогія

**10 ліпеня**

Штосьці здараецца падчас трэніровачнай устаноўкі рэактара. Па Астраўцы паўзуць чуткі аб падзенні 330-тоннай устаноўкі, невядомыя «людзі ў чорным» бяруць будынак энергаблока пад ахову і нікога туды не пускаюць.

**11 ліпеня**

Некалькі рабочых з АЭС расказваюць мясцоваму актывісту Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалаю Уласевічу пра здарэнне на станцыі. Той вырашае адразу не агучваць інфармацыю, а пачакаць, праверыць.

**12—25 ліпеня**

Падчас збору подпісаў да пікета Уласевіча падыходзяць людзі — не звязаныя паміж сабой, якія як адзін расказваюць пра падзенне рэактара. Уласевіч не да канца давярае чуткам, на што з ім пачынаюць спрачацца: «Дык вы не верыце? Тут усе гэта ведаюць».

Некаторыя рабочыя кажуць, што ў выніку падзення на рэактары з'явілася расколіна. Мікалай вырашае агучыць інфармацыю праз два тыдні пасля здарэння — 25 ліпеня ён піша на сваю старонку ў фэйсбуку ўсё, што ведае, са спасылкай на рабочых АЭС.

Інфармацыю адразу падхопліваюць беларускія незалежныя СМІ.

Цягам лічаных гадзін скандал выходзіць на міжнародны ўзровень — падключаецца літоўская прэса.

Прэс-сакратарка Міністэрства энергетыкі заяўляе, што «інфармацыя дайшла да міністэрства і яна вывучаецца».

**26 ліпеня, раніца**

Генеральны падрадчык будоўлі, расійскі «Атамбудэкспарт», адмаўляе абвінавачанні ў аварыі і публікуе паведамленне, у якім гаворыцца, што «інфармацыя ў інтэрнэце пра нібыта НЗ з пашкоджаннем корпуса рэактара не адпавядае рэчаіснасці. Корпус рэактара знаходзіцца за межамі рэактарнага аддзялення. Генпадрадчык чакае дазволу на правядзенне аперацый па мантажы ад наглядных органаў».

**26 ліпеня, поўдзень**

Міністэрства энергетыкі асцярожна прызнае факт здарэння. У апублікаванай на сайце ведамства заяве ў афіцыяльнай форме паведамляецца пра «пазаштатную сітуацыю».





Корпус рэактара БелАЭС.

«Па інфармацыі генпадрадчыка «Атамбудэкспарт», пазаштатная сітуацыя здарылася на пляцоўцы захавання корпуса рэактара падчас правядзення такелажных работ па яго перасоўванні ў гарызантальную плоскасць», — паведамляе ведамства.

Разам з гэтым сітуацыя даводзіцца да абсурду фразай «беларускі бок запатрабаваў у генпрадрадчыка ўсе неабходныя дакументы і звесткі». Беларусы не ведаюць, што адбываецца на нашай тэрыторыі і просяць расійскага падрадчыка расказаць?

У інтэрнэце расце крытыка дзеянняў беларускага боку.

**26 ліпеня**

Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайце абвінавачвае Беларусь у нежаданні пускаць назіральнікаў і «сыходзе ад адказаў на пытанні бяспекі АЭС».

**27 ліпеня**

Міністэрства энергетыкі паведамляе пра візіт экспертаў МАГАТЭ «з мэтай сумеснай ацэнкі падрыхтоўкі маючай адбыцца місіі МАГАТЭ па разглядзе праектавання пляцоўкі».

**28 ліпеня**

У «Атамбудэкспарце» кажуць, што нічога страшнага не адбылося —проста «пацерлася фарба».

«Пры правядзенні такелажных работ па перасоўванні корпуса рэактара з транспартнага на мантажны лажамент падрапалася фарба. Гэта будоўля. Гэта штатная звычайная сітуацыя. Ну не бывае, каб на будоўлі чагосьці там не было. Я думаю, што гэта можна назваць штатнай сітуацыяй. Гэта не НЗ, не інцыдэнт. Паверце мне, я сяджу ў горадзе-героі Масква. Усё кіраўніцтва тут. Усё абсалютна спакойна, праўда», — кажа прадстаўніца генпадрадчыка для радыё «Свабода».

Эксперты сумняюцца: рэактар занадта важная рэч, і калі ён важыць 330 тон, то нават яго падзенне з 30-сантыметровай вышыні можа мець катастрафічныя наступствы для швоў. Што гаварыць пра 2—4 метры? Фізікі звяртаюць увагу, што на корпус рэактара прыходзіцца асноўная нагрузкі. Нават найменшы дэфект ставіць пад пытанне бяспеку ўсёй АЭС і нашай краіны.

**28 ліпеня, поўдзень**

Урад Літвы ўручае беларускаму амбасадару ноту ў сувязі з інцыдэнтам на беларускай АЭС. Літва звяртаецца па дапамогу да ЕС і пры дапамозе саюза абяцае Беларусі стварыць перашкоды ў працы АЭС, калі пытанні бяспекі будуць ігнаравацца.

**29 ліпеня**

У вечаровым эфіры дзяржаўнага канала АНТ агучваюцца тры пытанні да Міністэрства энергетыкі: «Першае. Чаму падобнае тлумачэнне з'явілася па сканчэнні больш чым двух тыдняў пасля інцыдэнту? Другое. Чаму рэакцыя Мінэнерга адбылася не на сам інцыдэнт, а на паведамленні некаторых інтэрнэт-крыніц? А калі б не было гэтых паведамленняў, то і рэагаваць не трэба? Хто будзе займацца далейшым ходам работ?» — пытаецца вядоўца і кажа, што падрадчык прыехаў і з'ехаў, а беларусам са станцыяй жыць.

Але пытанні застаюцца без адказаў.

**1 жніўня**

Першы намеснік гендырэктара «Расатама» заяўляе пра гатоўнасць замяніць корпус рэактара, «калі гэтага запатрабуе беларускі бок». Разам з тым упершыню ясней агучваецца, што ж здарылася з рэактарам.

«У ноч з 9 на 10 ліпеня адна з субпадрадных арганізацый выконвала аперацыі па перамяшчэнні корпуса рэактара з аднаго лажамента на другі. Ішла яшчэ толькі падрыхтоўка да пад'ёму корпуса рэактара ў энергаблок. Корпус рэактара планавалася перамясціць на адлегласць каля 10 метраў, не змяняючы яго гарызантальнага становішча. Аднак пры страпоўцы субпадрадчыкам былі дапушчаныя адхіленні ад інструкцыі, з-за якіх адбыўся перакос грузу пры яго пад'ёме, і на вышыні каля 4 метраў (пры даўжыні выраба 11 метраў) узнікла няспраўнасць пад'ёмнага крана, з прычыны чаго корпус заставаўся ў падвешаным стане больш за паўгадзіны. Увесь гэты час перакос паступова павялічваўся і ў выніку прывёў да таго, што корпус рэактара праслізнуў па стропах і павіс дыяганальна, дакрануўшыся да зямлі», — такімі фармулёўкамі замянілі слова «ўпаў» у «Расатаме».

**1 жніўня, вечар**

Намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк сказаў, што мантаж корпуса рэактара спынены яшчэ 10 ліпеня — адразу пасля здарэння. Пры гэтым ён адзначыў, што ўсе выдаткі ў выпадку замены корпуса будзе несці расійскі бок. «У гэты час сітуацыю з корпусам рэактара вывучаюць генеральны канструктар ядзернай устаноўкі АКБ «Гідрапрэс», галоўная матэрыялазнаўчая арганізацыя «Расатама» ЦНДІМаш, генеральны праекціроўшчык «НІАЭП», генпадрадчык «Атамбудэкспарт». Матэрыялы перададзеныя замоўцу — РУП «Беларуская АЭС». Пасля вывучэння яны будуць накіраваныя органу рэгулявання — Дзяржатамнагляду», — сказаў Міхадзюк.

На гэтай навіне пра спыненне мантажу рэактара пакуль што прыпынілася эпапея з інцыдэнтам на АЭС, які хтосьці прыхоўваў, як мог, ды ўсё адно не схаваў. Цяпер у інтэрнэце жартуюць, што тым рабочым, якія ўпусцілі рэактар, трэба даць зоркі Герояў Беларусі, бо яны выкрылі раздзяўбайства, што пануе на самай небяспечнай будоўлі ў гісторыі Беларусі.

**Арцём Гарбацэвіч**

Вось тут знаходзіцца Астравецкая АЭС. Граніца Літвы зусім побач.




### Сціcла

**Выбары: усё па-старому**

Абсалютную большасць незалежных кандыдатаў у выбарчыя камісіі не прапусцілі. Гэта значыць, выбары пройдуць па-старому, бо лічыць галасы будуць таксама, як і лічылі на ўсіх выбарах у апошнія гады. «З больш чым з 400 вылучаных у склад камісій уключана толькі 17 чалавек», — расказаў Анатоль Лябедзька пра кандыдатаў з Аб'яднанай грамадзянскай партыі, руху «За свабоду» і хрысціянскіх дэмакратаў.

Апазіцыя ўпэўненая, што выбары фальсіфікуюцца.

«Мы не допушчаныя да працэсу падліку галасоў», — кажа Лябедзька.

Паводле назіранняў лідараў апазіцыі, у камісіі ўвайшлі або работнікі дзяржпрадпрыемстваў — адпаведна, ва ўладаў ёсць рычагі націску на іх, — або тыя, хто «прадэманстраваў сваю мяккую пазіцыю» і каму «складана нават пэўную думку выказаць».

«Выбарчая кампанія цалкам не адпавядае стандартам АБСЕ», — мяркуе старшыня АГП.

**Кітайскія СМІ паведамляюць пра адкрыццё буйнога радовішча калію**

Кітайскае агенцтва «Сіньхуа» перадае, што ў кітайскай правінцыі Цынхай знойдзена буйное радовішча каліійных соляў. Дагэтуль Кітай пакрываў значную частку сваіх патрэб імпартам з Беларусі.

Калі інфармацыя пра новае буйное радовішча ў Кітаі спраўдзіцца, гэта гарантавана выкліча зніжэнне цаны на калій у сярэднетэрміновай перспектыве, якая і так за год зменшылася на 100 даляраў за тону.

**Нацбанк: выведзена з абароту 70% старых грошай**

Паступова ў абароце застануцца толькі новыя рублі.

**АЯ**

# «Кожны вучань мае права на дарэмную адукацыю»

## Падручнікі патроху лепшаюць, але якасць педагагічных кадраў апусцілася да крытычнай

Што так і што не так у беларускіх школах? Мы вырашылі даць слова тром бацькам. Усе трое — актывісты бацькоўскіх камітэтаў і апякунскіх рад школ. Усе трое з вялікай увагай ставяцца да вучобы сваіх дзяцей.

## Крысціна Вітушка: Настаўнікі, якія «будуць старацца вывучыць», мусяць здаць свой дыплом!

Сын Крысціны Вітушкі Мірон у наступным навучальным годзе пойдзе ў сёмы клас. Вучыцца ў беларускамоўнай гімназіі ў Мінску. Крысціна кажа, гэта найлепшае з таго, што даступна. Без ваў-эфекту і без жахлівых гісторый. Але гэта далёка не тое, чаго хацелася б бацькам для свайго сына.

«Пэўны час таму прынялі рашэнне аб скасаванні профільных класаў і спецыялізацыі. У выніку зніклі настаўнікі, якія былі адмыслоўцамі, якія маглі больш глыбока і цікава выкладаць дысцыпліны. І знік інтарэс у дзяцей.

Сёння сярэдняя адукацыя добрая для вучня прыкладна сярэдняга ўзроўню здольнасцяў. У ёй не знаходзяць сабе месца дзеці, якія развіваюцца ў іншым тэмпе.

Для паступлення ў гімназію трэба выканаць матэматычныя заданні, напісаць дыктоўкі па рускай і беларускай мовах. Тое, што пры гэтым дзіця можа не ўмець складна размаўляць ні па-руску, ні па-беларуску — неістотна. Галоўнае, каб яно здолела напісаць дыктоўку. Той жа, хто гаворыць, мае выдатную памяць, фантазію, але з нейкай прычыны не паставіў косак, у гімназію не трапляе. Такі аднабаковы падыход у школах, гімназіях нівелюе дасягненні і ў значнай ступені дэматывуе дзяцей.

Гэта тычыцца і працэсу навучання. Не важна, што хтосьці ўжо ўмее чытаць, лічыць і гатовы ісці далей, а хтосьці не матываваны на вучобу і з цяжкасцю спакойна выседжвае дзесяць хвілін. У выніку дзеці, якія маглі б паказваць вынікі, поспехі, якія мусілі б развівацца адносна сябе, сядзяць і марнуюць час, пакуль настаўнікі разбіраюцца са слабейшымі, незацікаўленымі, нематываванымі вучнямі.

Наведванне школы ператвараецца ў сядзенне на працягу 11 гадоў, пасля якіх выпісваюць атэстат. Яго выпішуць усім, усе гэта выдатна разумеюць. Адзнакі — умоўнасць і фармальнасць. Настаўнікі не матываваныя вучыць, вучні — не матываваныя вучыцца. Усе ствараюць ілюзію дысцыпліны і спрабуюць адгадаць правільны адказ з пункту гледжання чарговай праверкі.

Праверкі таксама правяраюць не здольнасць прымяняць на практыцы веды і навыкі, а колькасць клетачак у водступах і колер асадак.

На стэндзе ў вестыбюлі адной з беларускамоўных школ было напісана: «Кожны вучань мае права на дарэмную адукацыю». На вялікі жаль, «дарэмная» адукацыя збольшага і атрымліваецца. Рэгрэс адбываўся паслядоўна, можна адсачыць і прыцягнуць да адказнасці яго ініцыятараў, калі будзе на тое воля.

### Умоўныя настаўнікі

На сёння вельмі нізкі прахадны бал у педагагічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Навучанне ў іх таксама ўмоўнае: маладыя спецыялісты маюць у атэстаце станоўчыя адзнакі, але не ведаюць нават першай дзяржаўнай мовы. Што ўжо казаць пра веданне дысцыплін па спецыяльнасці. Калі глыбей капнуць, то ў іх няма разумення ні фізікі, ні хіміі, ні прыродазнаўства, ні мастацтвазнаўства. Пры гэтым яны лічаць сябе настаўнікамі і больш за ўсё на свеце баяцца, калі дзеці заўважаюць,

**Адукацыя і навуковасць у школе на апошнім месцы. На першым — дысцыпліна і пакорлівасць**

што «кароль голы». А дзеці заўважаюць даволі хутка і перастаюць бачыць у настаўніку аўтарытэт.

Некаторыя кажуць: маўляў, навучанне і не патрэбна, бо спытацца пра ўсё можна ў «Гугла». Але ж, каб звяртацца да «Гугла», трэба ведаць, якую інфармацыю чалавецтва назапасіла.

На веды, на крытычнае мысленне няма попыту. Больш за тое, выкарыстанне крытычнага мыслення і прымяненне нестандартных падыходаў стварае «нязручнасці» школе.

Ні настаўнікі, ні вучні, ні бацькі, па сутнасці, не ўплываюць на адукацыйны працэс. Хаця, паводле нашага Кодэкса аб адукацыі, і настаўнікі, і вучні, і бацькі з'яўляюцца яго ўдзельнікамі. Але гэта ігнаруецца, бо бацькам уваход у школу забаронены. Што гэта можа значыць? Альбо адукацыйнага працэсу няма, альбо адукацыя адбываецца незаконна, паколькі парушаецца кодэкс.

### «Нашы настаўнікі будуць старацца вывучыць мову разам з вашымі дзецьмі»

Я лічу, што адукацыю ў Беларусі павінны атрымліваць на беларускай мове. Усе іншыя варыянты — руская, польская, англійская — гэта палітыка і ідэалогія.

Цяпер жа ў нашых школах усё па-руску, і трэба дамагацца магчымасці вучыцца па-беларуску. Нават калі бацькі ідуць на гэта і іх дзіця фармальна трапляе ў беларускамоўную ўстанову, адміністрацыя паведамляе: «Нашы настаўнікі будуць старацца вывучыць мову разам з вашымі дзецьмі». «Спасибо не за что», — хочацца сказаць, таму што дзеці гавораць на мове ад нараджэння. А настаўнікі, якія «будуць старацца вывучыць», мусяць здаць свой дыплом і быць прыцягнуты да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам за падробку дакументаў.

З тым, што настаўнікі ведаюць менш, чым дзеці, сутыкаемся ўвесь час. На жаль, гэта тычыцца не толькі ведання моў, але і фундаментальных прадметаў. Калі настаўнік фізікі можа сказаць дзіцяці «не разумнічай», бо дзіця разважае пра гравітацыю... Калі настаўнік выпраўляе правільна напісанае слова і замест таго, каб прызнаць сваю памылку, лезе ў бутэльку і спрабуе вінаваціць дзіця і бацькоў за тое, што яны канфліктуюць і ставяць пад сумнеў аўтарытэт настаўніка.

### «Наяўнасць неабавязковая»

Сёння беларускія дзеці, нават калі яны ходзяць у беларускамоўную навучальную ўстанову, пазбаўленыя магчымасці атрымліваць адукацыю на роўных са сваімі аднагодкамі. Міністэрства адукацыі, не саромеючыся, піша бацькам, што для беларускамоўных дзяцей наяўнасць контурных карт па гісторыі ці па геаграфіі з'яўляецца неабавязковай. Вееры з беларускімі літарамі непатрэбныя, піша нам Міністэрства адукацыі.

То бок рускамоўныя могуць ведаць гісторыю, геаграфію, ім патрэбныя дапаможныя матэрыялы, а беларускамоўным Міністэрства адукацыі Беларусі чыніць у гэтым перашкоду. І размяркоўвае грошы беларускамоўных дзяцей на навучанне рускамоўных.

Не выпускаюцца ў нашай краіне падручнікі інфарматыкі на беларускай мове, не выпускаюцца ўжо досыць даўно нотныя сшыткі, табліцы Мендзялеева, табліцы з практыкаваннямі для разгрузкі зроку, дзённікі для пачатковых класаў і гэтак далей. Не перавыдаюцца падручнікі, і беларускія школы сутыкаюцца на пачатку года з тым, што камплектаў усім не хапае.

Два гады мы ўжо адвучыліся без контурных карт і з насцярожанасцю чакаем наступны: без чаго яшчэ нам прапануюць абысціся? Я б ужо адмовілася ад самога Міністэрства адукацыі, якое больш нагадвае «Міністэрства прафанацыі».

Кіраўнік дзяржавы даручыў распрацаваць больш дасканалыя падручнікі для сярэдняй школы. Чым бліжэйшы верасень, тым часцей мы чуем, што праца ідзе і яна на завяршальным этапе. Але ці будуць новыя беларускамоўныя падручнікі? На фінішнай прамой аўтары рускамоўных падручнікаў. Пытанне, якія падручнікі ў гэтым навучальным годзе выдадуць дзецям у беларускамоўных школах. Старыя недасканалыя падручнікі мінулага года, якія на дзяржаўным узроўні прызнаныя кепскімі? Ці ўвогуле скасуюць беларускамоўнае навучанне? Час яшчэ ёсць, калі будзе на тое палітычная воля, то магчыма сабрацца і зрабіць беларускамоўныя падручнікі. Гэта будзе важны іспыт для беларускай сістэмы адукацыі.

### За што ставяць адзнакі?

Відавочна, настаўнікі не зусім разумеюць, за што ставяць адзнакі. Яны не адпавядаюць рэальнаму валоданню прадметам. Высвятляецца гэта досыць лёгка, на прыкладзе мовы. Паспрабуйце з выпускнікамі, напрыклад, загаварыць па-беларуску і вы пачуеце: «Я очень люблю наш белорусский язык». Усё. Добра, калі яны вывучылі словы ветлівасці. Калі ж вы папросіце іх напісаць штосьці на мове, то нават выпускнікі-выдатнікі рускамоўных школ напішуць з памылкамі. Вось вартасць гэтых адзнак. І гэта тычыцца далёка не толькі беларускай мовы.

Навошта ўсё гэта? Такім пытаннем бацькі задаюцца ўсё часцей. І ўсё часцей адмаўляюцца ад паслуг дзяржаўнай сістэмы адукацыі. Бацькі пачынаюць вучыць дзяцей самастойна і ствараюць па меры магчымасцяў здаровую альтэрнатыву сістэме, якая забівае індывідуальнасць, матывацыю і займае занадта шмат часу. Як паказвае практыка, дзеці, якія вучацца пры дапамозе бацькоў, праходзяць школьную праграму значна хутчэй і засвойваюць яе лепей. У дзяцей застаецца больш часу на заняткі спортам, музыкай, мастацтвам. Яны развіваюцца больш рознабакова, і можна чакаць, што ў будучым будуць больш самарэалізаванымі асобамі.

### «ВНУ — канвеер па выпісванні дыпломаў»

Беларускія ўніверсітэты таксама ператварыліся ў канвеер па выпісванні дыпломаў, дзе большасць месцаў платная, а бясплатныя прадугледжваюць прымусовае размеркаванне. Але свет адкрыты, таму часцей і часцей выпускнікі з бацькамі абіраюць ВНУ ў суседніх краінах дзеля таго, каб атрымаць якасныя веды і стаць прафесіяналам, запатрабаваным у XXI стагоддзі».

### Беларускамоўныя? Абыдзецеся!

Выпускам контурных карт і атласаў у Беларусі займаецца «Белкартаграфія».

Як распавяла намесніца дырэктара прадпрыемства Іна Шлык, цяпер на беларускай мове даступныя контурныя карты і атласы па гісторыі Беларусі для вучняў 6—10 класаў. Да новага навучальнага года выйдуць па-беларуску контурныя карты і атлас па прадмеце «Чалавек і свет» для чацвёртага класа. А што ж астатняе? Астатняя прадукцыя для школьнікаў — па-руску.

Але бацькам дзяцей, якія навучаюцца ў беларускамоўных школах, таго, што даступна, мала. Па-беларуску яны хочуць бачыць таксама контурныя карты і атласы па геаграфіі, дапаможнікі па іншых прадметах, даступныя рускамоўным дзецям.

На просьбы бацькоў паўплываць на тое, каб у продажы з'явіліся пэўныя беларускамоўныя дапаможнікі, Міністэрства адукацыі адказвае, што за дзяржаўныя сродкі выдаюцца асноўныя кампаненты вучэбна-метадычных комплексаў — падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, вучэбна-метадычная літаратура па прадметах і іншыя сродкі навучання, якія з'яўляюцца абавязковымі пры арганізацыі адукацыйнага працэсу ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі. Выпуск неабавязковых сродкаў навучання ажыццяўляецца прыватнымі прадпрыемствамі за пазабюджэтныя сродкі. Дадзеныя прадпрыемствы самастойна вызначаюць прыярытэты выпуску сродкаў навучання.

# Алеся Літвіноўская: Дырэктарка пачала цкаваць майго сына за тое, што не ўступіў у БРСМ

**Сын Алесі Літвіноўскай Максім налета пойдзе ў 11-ы клас. Важныя для яго прадметы паглыблена вывучае з рэпетытарамі. Хлопец спачатку вучыўся ў мінскай гімназіі, але потым перайшоў у звычайную школу. І на тое ёсць шэраг прычын.**

«Нас папярэдзілі: «У вас не будзе добрага бала, калі не ўступіце ў БРСМ». Я сказала, што мой сын не хоча і не будзе ўступаць. Пасля гэтага пачаўся прэсінг. Пра тое, што Максім не ў БРСМе, гаварылася на планёрках, падкрэслівалася ў класе. Маўляў, «ёсць у нас тыя, хто псуе агульную карціну».

Дадзеная гімназія стала закладніцай ідэалогіі і суцэльнай паказухі і проста перастала даваць веды. Тут вучні на апошнім месцы. Яны як матэрыял, як інструмент, дзякуючы якому можна атрымаць прыгожую карцінку.

Тое, што настаўнікі не выконвалі сваёй наўпроставай функцыі, хвалявала мяне больш за ўсё. Тут ужо не вучылі, тут займаліся чымсьці іншым: пацвярджалі статус гімназіі, забяспечвалі 100-адсоткавае ўступленне ў БРСМ, праводзілі n-ую колькасць мерапрыемстваў, запаўнялі вар'яцкую колькасць паперак. Вось гэтым былі занятыя настаўнікі. Яны рабілі гэта на занятках, праводзілі свае нарады падчас урокаў і казалі вучням: «Чытайце параграф і адказвайце на пытанні». Але гэта не зусім навучальны працэс. Гэта самастойнае навучанне, час на самападрыхтоўку, што заўгодна. Але ўрокам гэта назваць цяжкавата.

## «Ёсць у нас тыя, хто псуе агульную карціну»

У выніку Максім перайшоў у звычайную школу, дзе сітуацыя аказалася нашмат лепшай. Тут ужо ніхто не гаворыць пра тое, што ён не ў БРСМе. Настаўнікі проста займаюцца, проста вучаць.

Так, ёсць праблема з падручнікамі. Мы неяк ехалі разам, ён паўтараў біялогію. Мне складана было зразумець, пра што ідзе гаворка.

Мова падручнікаў вельмі складаная, звышнасычаная тэрміналогіяй, якую вучні проста аўтаматычна павінны завучваць. Да таго ж часам складаецца ўражанне, што ў падручніках няма лагічнай паслядоўнасці. Відаць, гэтая праблема паўстала пасля таго, як школа вярнулася да 11-гадовага навучання. Нейкія параграфы прасты былі механічна выкінутыя з падручнікаў... Але нават з дрэннымі падручнікамі добрыя настаўнікі, якія займаюцца сваёй справай, маглі б выратаваць сітуацыю. Калі ж настаўнікі займаюцца не выкладаннем, а чымсьці іншым, то з дзецьмі даводзіцца займацца або бацькам, або рэпетытарам».

**Як працуе сістэма «роўных магчымасцяў для ўсіх школьнікаў» у Германіі**

У Мінску цяжка трапіць у прэстыжныя гімназіі. Конкурсы вялікія, у першы клас запісацца няпроста. Людзі часта начуюць пад дзвярыма, каб трапіць у клас з англійскай, а не кітайскай мовай беларускамоўнай гімназіі №23. А вось як наладжаная сістэма ў Германіі. Пра гэта расказала ў сябе ў фэйсбуку жыхарка Гамбурга беларуска Ксенія Брэчка.

У 4-м класе пачатковая школа выдае дзецям атэстаты з рэкамендацыямі. У вызначаны дзень бацькі з дзіцём і са стосам пасведчанняў і атэстатаў прыходзяць запісвацца ў школу. Дзіця праходзіць інтэрв'ю. На асобным фармуляры бацькі пішуць назвы яшчэ дзвюх пажаданых школ, на выпадак, калі ў першай не хопіць месцаў.

У гульні «мы ўсе хочам для нашых дзяцей лепшую школу» ёсць адзін вырашальны крытэрый: трэба жыць не далей за пэўную адлегласць ад школы. Калі я правільна памятаю, гэта 3 км па «паветранай лініі». Выключэнні з гэтага правіла магчымыя, але рэдкія.

Як жа вырашаюць, каго браць?

Першымі набіраюць тых, хто адпавядае ўзроўню гімназіі і пры гэтым жыве найбліжэй за іншых канкурэнтаў і (!) падаў дакументы раней. Дакументы тых, хто застаўся без месца, перасылаюць у наступную гімназію са спісу пажаданых, якія пісалі бацькі.

Як і ў Мінску, большасць сем'яў чакае пад брамамі гімназій ад 4-й, 5-й гадзіны раніцы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**З якімі баламі паступілі ва ўніверсітэт будучыя настаўнікі**

Мы прагледзелі сёлетнія прахадныя балы на дзённую бюджэтную форму навучання па спецыяльнасцях, выпускнікі якіх пасля змогуць працаваць настаўнікамі.

З чаго складаюцца вынікі абітурыентаў? Гэта сярэдні бал атэстата + вынік трох ЦТ. Напрыклад, калі сярэдні бал атэстата — 60, а ўсе тры ЦТ здадзеныя на 40, то абітурыент набірае 180 балаў.

| Універсітэт | Факультэт | Спецыяльнасць | Прахадны бал |
|---|---|---|---|
| Прадмет «Беларуская мова» | | | |
| Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт | Філалагічны факультэт | Беларуская філалогія | 225 |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка | Філалагічны факультэт | Беларуская мова і літаратура. Замежная мова | 273 |
| Прадмет «Руская мова» | | | |
| Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт | Філалагічны факультэт | Руская філалогія | 269 |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка | Філалагічны факультэт | Руская мова і літаратура. Замежная мова | 289 |
| Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна | | Руская мова і літаратура. Замежная мова (англійская) | 179 |
| Прадмет «Матэматыка» | | | |
| Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт | Механіка-матэматычны факультэт | Матэматыка (навукова-педагагічная дзейнасць) | 214 |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка | Фізіка-матэматычны факультэт | Матэматыка і інфарматыка | 172 |
| Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францішка Скарыны | Матэматычны факультэт | Матэматыка (навукова-педагагічная дзейнасць) | 156 |
| Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна | | Матэматыка і інфарматыка | 110 |
| Прадмет «Фізіка» | | | |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка | Фізіка-матэматычны факультэт | Фізіка і інфарматыка | 143 |
| Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францішка Скарыны | Фізічны факультэт | Фізіка (навукова-педагагічная дзейнасць) | 137 |
| Прадмет «Біялогія» | | | |
| Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт | Біялагічны факультэт | Біялогія (навукова-педагагічная дзейнасць) | 268 |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка | Факультэт прыродазнаўства | Біялогія і геаграфія | 245 |
| Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францішка Скарыны | Біялагічны факультэт | Біялогія (навукова-педагагічная дзейнасць) | 205 |
| Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна | | Біялогія (навукова-педагагічная дзейнасць) | 157 |
| Прадмет «Хімія» | | | |
| Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт | Хімічны факультэт | Хімія (навукова-педагагічная дзейнасць) | 291 |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка | Факультэт прыродазнаўства | Біялогія і хімія | 233 |
| Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна | | Біялогія і хімія | 116 |




Традыцыйна ў настаўнікі ідуць абітурыенты з невысокімі баламі. Але на фоне Гомельскага і Мазырскага ўніверсітэтаў балы абітурыентаў сталічных ВНУ выглядаюць больш-менш прыстойна.

Напрыклад, у Мазыры выкладчыкам матэматыкі можа стаць абітурыент, у якога агулам 110 балаў. Калі, напрыклад, сярэдні бал атэстата ў яго быў 60, то па кожным з трох ЦТ ён ледзьве пераскочыў мінімальны парог, набраўшы толькі 50 балаў з магчымых 300.

Гэта ўсё вынік таго, што заробкі настаўнікаў нашмат меншыя за сярэднія па краіне, і канца такой дыспрапорцыі не відаць.

Працяг тэмы на старонцы

# Ліцэй БДУ: у чым сакрэт поспеху?

Пра крызіс сярэдняй адукацыі не гаворыць толькі абыякавы. Але ёсць і прыклады абсалютнага поспеху — напрыклад, Ліцэй БДУ. Вось і пры канцы ліпеня з міжнароднай хімічнай алімпіяды ў Тбілісі, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі 67 краін, двое навучэнцаў ліцэя вярнуліся з медалямі.

Амаль 100% ліцэістаў паступае ва ўніверсітэты на бюджэт.

Мы пагутарылі з дырэктарам Ліцэя БДУ Макарам Шніпам пра тое, як збудаваны адукацыйны працэс, чаму надаецца найбольшая ўвага і хто можа стаць ліцэістам.

**«Наша Ніва»: Чым адрозніваецца навучанне ў Ліцэі БДУ ад навучання ў звычайнай школе ці гімназіі?**

**Макар Шніп:** Найперш — асаблівым кантынгентам навучэнцаў. Паколькі пры паступленні ў Ліцэй БДУ даволі вялікі конкурс, то і паступаюць найбольш падрыхтаваныя і матываваныя вучні. Многія з іх маюць досвед удзелу ў алімпіядах, навукова-даследчай рабоце.

У ліцэі толькі старэйшыя класы — 10 і 11 паралелі. Значная частка настаўнікаў — універсітэцкія выкладчыкі. Заняткі праходзяць парамі, як ва ўніверсітэце. Тут своеасаблівая атмасфера ў працы настаўнікаў з вучнямі, свае традыцыі. Хаця, упэўнены, многія школы і гімназіі таксама могуць ганарыцца сваімі традыцыямі і «фішкамі».

**«НН»: Як стаць навучэнцам Ліцэя БДУ?**

**МШ:** Двума шляхамі. Першы: паспяхова здаць два ўступныя экзамены па абраных профільных прадметах і паступіць па конкурсе. Другі: пераможцы на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах і быць залічаным без уступных іспытаў у клас адпаведнага профілю.



ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ, TUT.BY

**Макар Шніп**

нар. у 1981 у Маладзечне. Выпускнік Ліцэя БДУ. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. Ад 2007 года працаваў на пасадзе намесніка дырэктара Ліцэя БДУ па выхаваўчай рабоце. Ад 2014 года — дырэктар Ліцэя.

**«НН»: Як у ліцэі імкнуцца развіваць індывідуальнасць вучняў?**

**МШ:** Настаўнікі імкнуцца падтрымліваць ініцыятывы вучняў. Існуе вялікая колькасць факультатываў, гурткоў, дзе дзіця можа рэалізаваць свае інтарэсы і памкненні. Па профільных прадметах праводзяцца асобныя заняткі ў падгрупах, ёсць магчымасць больш увагі надаць кожнаму вучню. Выкладчыкі дыферэнцыявана і творча падыходзяць да вызначэння хатняга задання.

Разам з вучнямі выкладчыкі бяруць удзел у тэатральных пастаноўках, канцэртах, імпрэзах, спартыўных мерапрыемствах, сваім прыкладам заахвочваюць моладзь.

У ліцэі таксама абавязкова вывучаецца псіхалагічны стан дзіцяці, яго трывогі. Паколькі складваюцца новыя юнацкія калектывы, то, канечне, гэта суправаджаецца пэўнымі складанасцямі, канкурэнцыяй, адаптацыяй да новых умоваў. У такой сітуацыі важна падтрымаць вучняў і настаўнікам, і бацькам.

Мы таксама стараемся навучыць ліцэістаў працаваць у камандзе, калектыве, умець знайсці кампраміс, узяць на сябе адказнасць як за свае дзеянні, так і за вынік работы каманды. Урокі могуць ладзіцца ў выглядзе дыспуту, дэбатаў.

Існуе багатая традыцыя турніраў юных фізікаў, матэматыкаў.

**«НН»: Мы апыталі бацькоў школьнікаў са звычайных школ і гімназій. Многія скардзяцца на тое, што падручнікі напісаныя складанай мовай, у іх шмат памылак, у некаторых месцах губляецца сувязь паміж абзацамі, што не спрыяе вывучэнню прадметаў.**

**МШ:** У Ліцэі БДУ асноўны акцэнт робіцца не на падручнікі, а на працу настаўніка з вучнямі. На яго тлумачэнні, падрыхтаваныя да ўрока матэрыялы. Ці ў выглядзе прэзентацый, ці ў выглядзе тэксту лекцый з абавязковымі кантрольнымі заданнямі да іх, ці як відэаролік. Падручнік выконвае толькі дапаможную функцыю. Па профільных прадметах вучні пераважна чытаюць дадатковую літаратуру, у тым ліку і рэкамендаваныя настаўнікамі ўніверсітэцкія падручнікі.

**«НН»: Ці трэба, каб ліцэяў у Беларусі было больш?**

**МШ:** Мне падаецца, у Беларусі дастаткова ліцэяў. Ёсць абласныя, гарадскія ліцэі, вельмі паспяховыя і слаўныя сваімі традыцыямі. Гэта Мінскі абласны ліцэй, Магілёўскія абласныя ліцэі, Ліцэй № 1 Брэста, Гомельскі ліцэй МНС, Ліцэй Беларуска-Расійскага ўніверсітэта і многія іншыя. Можна арганізаваць ліцэйскія класы фактычна ў кожнай школе, калі ёсць жаданне вучняў вывучаць асобныя прадметы на павышаным узроўні. Дзеля гэтага трэба адаптаваць тыпавыя вучэбныя планы старэйшых класаў, і такая магчымасць ёсць.

**«НН»: Частка навучэнцаў ліцэя — не мінчукі. Па-вашаму, добра ці дрэнна, што дзіця пераязджае ў іншы горад так рана? Што параіце бацькам, якія стаяць перад выбарам: адпускаць дзіця ў ліцэй ці не?**

**МШ:** Паколькі Ліцэй БДУ мае статус рэспубліканскага, то і паступаюць дзеці з усёй Беларусі. БДУ забяспечвае іх інтэрнатам, дзе ім дапамагаюць уладкаваць сваё жыццё сацыяльныя педагогі і выхавацелі. Многія вучні першапачаткова маюць пэўныя праблемы з размеркаваннем свайго часу. Калі да пераезду ў Мінск гэтым дзесяці займаліся бацькі, то ў ліцэі яны вучацца кіраваць сваім часам. Як размеркаваць яго, каб і да заняткаў падрыхтавацца, і на шпацыр схадзіць, і не спазніцца да «каменданцкай гадзіны», і пакой прыбраць, і пaverчарыць, і выспацца? Імкнёмся дапамагчы. Але палёгкі ў дысцыпліне не дапускаем. Бацькам парада такая: калі вы псіхалагічна не гатовыя адпусціць дзіця, а яму камфортна ў тых умовах, у якіх яно вучыцца і жыве, то не трэба парушаць гэты камфорт. Пройдзе яшчэ два гады, і пытанне ад'езду і паступлення ў ВНУ паўстане, але за гэты час можна падрыхтавацца.

**Пытанне-прапанова ад чытача**

«Дзіця паступала ў Ліцэй БДУ пасля беларускамоўнай школы, аднак экзаменацыйныя білеты былі па-расейску. Ці магчыма зрабіць так, каб у дзіцяці быў выбар, на якой мове здаваць уступныя экзамены?»

А.Кавалёва, Мінск

**Дырэктар ліцэя:** Сёлета заданні па матэматыцы для асобных абітурыентаў па іх заяве мы пераклалі і ў беларускамоўным варыянце. Заданні па гісторыі Беларусі і грамадазнаўстве таксама былі на дзвюх дзяржаўных мовах. На экзамен па фізіцы запрасілі беларускамоўнага настаўніка фізікі дзеля суправаджэння экзамену і тлумачэнняў.

Абітурыентам, якія хацелі б здаваць іспыты па-беларуску, параю пры падачы заявы ў прыёмную камісію адзначыць гэта нашым супрацоўнікам, каб мы маглі падрыхтаваць адпаведныя заданні.

# Зміцер Бабін: «Такіх жахаў у падручніках, як у 90-х, ужо няма»

На думку бацькі траіх дзяцей Змітра Бабіна, пазітыўныя зрухі ў сістэме адукацыі усё ж такі ёсць, хоць і хібаў пакуль дастаткова. Яго старэйшая дачка Паўліна школу ўжо скончыла, сярэдняя дачка Тамара налета ідзе ў выпускны клас, а малодшы сын Тарас — у шосты.

### $10^{14}$ мільёнаў — для першакласнікаў

«Калі старэйшая дачка ў 1998 годзе пайшла ў першы клас, у падручніку па прыродазнаўстве была такая фраза: «У адным кубічным метры глебы ўтрымліваецца $10^{14}$ мільёнаў мікраарганізмаў».

І вось маё сямігадовае дзіця задае пытанні: «Што такое сантыметр кубічны? Што гэта за лік з другім лікам? Што такое мільёны? Што такое мікраарганізмы?» Падручнікі былі напісаныя людзьмі, якія не ўяўлялі сабе, што ведае і можа зразумець дзіця! Калі праз сем гадоў пайшла ў школу мая другая дачка, такіх падручнікаў ужо не было. Але хібаў хапае дагэтуль.

У падручніках сустракаюцца не проста памылкі друку, у іх дрэнная рэдактура. Паміж абзацамі ў некаторых месцах губляецца сувязь. Вельмі часта ў мяне ўзнікае адчуванне, што падручнік карацілі і пасля няўважліва вычыталі. Напрыклад, было тры абзацы, але той, што быў пасярэдзіне, выкінулі. Застаўся першы і трэці. А трэці абапіраўся на сказанае ў папярэднім, якога больш няма. Гэта мне, даросламу чалавеку, зразумела. Але дзіця не можа аднавіць усю паслядоўнасць і проста не засвойвае матэрыялу.

### Матэматыка: трацiна адказаў не адпавядае

Альбо, напрыклад, узяць падручнік па матэматыцы за пяты клас, па якім вучыўся мой сын у мінулым навучальным годзе. На першы погляд, у ім усё добра. Аднак ці не трацiна адказаў у канцы падручніка не адпавядае заданням. Верагодна, падручнік карэктавалі, нумарацыю практыкаванняў памянялі, а пра нумарацыю адказаў забылі.

### Грамадазнаўства: вада

Ці зазірнуць у падручнік па «Грамадазнаўстве» маёй дачкі, якая вучыцца ў старэйшых класах. Прадмет складаны, але патрэбны: усе мы хочам, каб нашы дзеці былі сацыяльна і палітычна адукаванымі. Дык вось, у падручніку — вада. Калі тлумачыцца паняцце, яно перагружанае дадатковымі і відавочна непатрэбнымі словамі, якія ніяк не спрыяюць засваенню матэрыялу. Добра, што выпусцілі дадатковы сшытак з практыкаваннямі, які дапамагае сістэматызаваць гэтую інфармацыю. З гэтай жа мэтай выпусцілі і брашуру «Грамадазнаўства ў табліцах». Але як атрымалася, што такі падручнік увогуле выйшаў?

### Праграмы: пытанні, пытанні…

Праблема не толькі ў падручніках, ёсць пытанні і да навучальнай праграмы. У старэйшых класах вучням складана ведаць усе прадметы на аднолькава высокім узроўні. Праграма складзеная так, што матэматыку і фізіку вучань-гуманітарый не здольны ведаць на выдатную адзнаку. У выніку настаўнікі заплюшчваюць вочы і ставяць адзнакі за тое, што вучань раней добра вучыўся.

Праграмы таксама не ўлічваюць і час, які школьнік мае на падрыхтоўку дома. Ён вяртаецца за ўрокі пасля розных дадатковых заняткаў, прыкладна а 18-й гадзіне. Застаецца каля трох гадзін, каб падрыхтавацца да шасці ўрокаў. Па беларускай мове яму трэба напісаць сачыненне, па англійскай — вывучыць 20 словаў, па матэматыцы — рашыць шэраг заданняў. Добра, калі дзіця мае матэматычны склад розуму і ў яго лёгка гэта атрымліваецца. А калі не? Калі трэба пасядзець? Зразумела, гэтых трох гадзін будзе недастаткова.

### Як хлопчыку трапіць у гімназію?

Нядаўна пачуў ад адной жанчыны такую думку. У гімназію паступаюць прыкладна ў дзесяцігадовым узросце і хлопчыкі, і дзяўчынкі. Але хлопчыкі адстаюць у развіцці ад дзяўчынак, такі закон прыроды. Тым часам пры паступленні гэта не ўлічваецца. Атрымліваецца, што ў гімназіях і ліцэях вучыцца больш дзяўчатак, якія ў выніку становяцца больш адукаванымі за хлопцаў.

Лідарская ж пазіцыя ў нашым грамадстве належыць пераважна мужчынам, якія аб'ектыўна менш адукаваныя за дзяўчынак, бо ў свой час не паступілі ў гімназію ці ліцэй. І гэта адбіваецца на развіцці краіны. Зразумела, што ўсе атрымліваюць адукацыю, якой вартыя. Але ад той жа жанчыны я пачуў фразу: «Лепш бы ў гімназіі налічвалі дадатковыя балы, каб аб'ектыўна менш развітыя ў 10-гадовым узросце хлопчыкі маглі канкураваць з аб'ектыўна больш развітымі дзяўчынкамі».

Яшчэ адно важнае пытанне пры паступленні ў гімназію — яе профіль. Уступныя экзамены ніяк яго не ўлічваюць. Пасля пачатковай школы дзеці паступаюць у гімназію на падставе сумы чатырох балаў: адзнак па дзвюх мовах і матэматыцы і сярэдняга бала за чацвёрты клас. Такім чынам дзеці, схільныя да матэматыкі, могуць трапіць у гуманітарную гімназію і наадварот. У выніку вучоба становіцца пакутай.

### Сарваны ўрок ужо не выпадковасць, а сістэма

Класныя кіраўнікі вымушаныя дараблядь штосьці на ўроках, займацца папяровай працай. Гэта адбіваецца на навучальным працэсе. Напрыклад, калі адміністрацыя школы патрабуе ад настаўніка падрыхтаваць цягам дзвюх гадзін нейкую даведку, то гэты класны кіраўнік будзе рыць зямлю, каб зрабіць гэта. Адміністрацыя школы таксама патрабуе не проста так, бо перад гэтым ад яе запатрабавала гэтую даведку вышэйшае кіраўніцтва. У выніку дзеці прапусцілі ўрок, які, можа быць, адзін ці два разы на тыдзень. Гэта значыць, што ім зададуць вывучыць тэму самастойна. На наступным уроку настаўнік будзе вымушаны вярнуцца да таго, што не прайшлі на папярэднім. І галоўнае, што гэта адбываецца сістэматычна.

### Што палепшала за апошнія гады

З іншага боку, усё паступова лепшае. У першым класе праграма цяпер адпавядае першаму класу, а ў чацвёртым — чацвёртаму.

Мяне цешыць, што цяпер у школах будуць вучыць фізіку ад 7 класа. Раней вучылі ад 6 класа, калі матэматыка яшчэ не дала тых ведаў, якіх патрабуе фізіка. Няхай прадмет будуць выкладаць больш сцісла, але ад гэтага будзе больш карысці.

Я вучыўся ў 80-я гады, і памятаю толькі адно разыходжанне праграм па фізіцы і матэматыцы: выкладчык фізікі паказваў нам, як рашаць сістэмы ўраўненняў. Цяпер у вучняў недахоп матэматычных ведаў адчуваецца значна часцей».

Падрыхтавала Настасся Роўда

**Дзве загадкавыя смерці** ў расійскім антыдопінгавым агенцтве — і трэці кіраўнік схаваўся ў Амерыцы.

# Чаму Расію не пускаюць на Алімпіяду

Канец 2015 года. Дарадца міністра спорту Расіі Наталля Жаланава паведамляе, што ўсё кіраўніцтва Расійскага антыдопінгавага агенцтва (РусАДА) сышло ў адстаўку.

У той час ужо поўным ходам разгортваецца скандал з выкарыстаннем допінгу расійскімі лёгкаатлетамі. І спартовае кіраўніцтва краіны спрабуе імітаваць бурную дзейнасць, дэманструючы, што барацьба супраць «кратоў» унутры сістэмы пачалася.

Мікіта Камаеў — выканаўчы дырэктар РусАДА — адзін з тых, хто пакідае сваю пасаду. Навін пра яго няма два месяцы. 14 лютага з'яўляецца паведамленне пра яго смерць. Здаровы 52-гадовы рускі мужык. Зранку ён, як звычайна, прабегся некалькі кіламетраў на лыжах, ніякіх скаргаў на самаадчуванне. А пасля раптоўна стала блага, хуткая не паспела. Сэрца.

За адзінаццаць дзён да гэтага таксама ад сэрца раптоўна памёр яшчэ адзін ключавы супрацоўнік РусАДА Вячаслаў Сінеў. Ён займаў пасаду старшыні выканаўчай рады арганізацыі, а яшчэ раней узначальваў расійскае антыдопінгавае агенцтва.

«Можна быць колькі заўгодна патрыётам і нават праціўнікам тэорыі змовы, але тое, што два дастаткова здаровых мужчын, якія займаюць ключавыя пасады ў расійскім антыдопінгу, памерлі ў хуткім часе пасля таго, як пачаўся скандал і пры вельмі дзіўных абставінах, выклікаюць пытанні», — напісаў карыстальнік *onelove415* на папулярным расійскім сайце sports.ru.

Тут характэрная рэакцыя простых расійскіх аматараў спорту: каментар набраў 783 плюсы і толькі 81 мінус, і стаў самым папулярным на дадзеную тэму.

Пазней высветлілася, што Мікіта Камаеў меў у планах напісанне кнігі пра расійскі допінг. Яго суаўтарам меўся стаць спартыўны рэдактар газеты *The Sunday Times* Дэвід Уолш. Камаеў абяцаў Уолшу, што гэта будзе самае гучнае адкрыццё пра расійскі допінг з усіх, раней агучаных.

Уолш — гэта не шараговы журналіст. Ён быў сярод тых, хто ад пачатку сцвярджаў, што легендарны амерыканскі раварыст Лэнс Армстранг прымаў допінг, а таксама напісаў на гэтую тэму чатыры кнігі. Толькі ў 2013 годзе ў эфіры папулярнай вядучай Опры Уінфры Армстранг сапраўды прызнаўся, што ўжываў забароненыя прэпараты. Для Амерыкі такія заявы — вялізны шок, бо гэта сапраўднае развянчанне міфа.

Прыкладна ў той самы час, калі паміраюць Камаеў і Сінеў, у ЗША з Расіі ўцякае дырэктар антыдопінгавай лабараторыі ў Маскве Грыгорый Родчанкаў. У маі ён дае свае першыя інтэрв'ю, у якіх праліває святло на махінацыі ўнутры расійскага спорту.

Хто такі Родчанкаў? Яму 57 гадоў. У маладосці займаўся лёгкай атлетыкай, нават выйграваў першынство Масквы ў бегу на 5000 метраў. Але стаць геніяльным атлетам не здолеў, затое з Родчанкава выйшаў выдатны хімік сусветнага ўзроўню. У антыдопінгавай сферы ён адпрацаваў 30 гадоў. У хулыя для Расіі 90-я папрацаваў у Канадзе.

Расійскія СМІ спрабавалі зляпіць з Родчанкава гэтакага «прафесара-вар'ята», які абавязкова прысутнічае ў амерыканскіх фільмах пра ўніверсітэт. Выкопвалі брудную бялізну, напрыклад, што ягоная сястра Марына некалі была асуджаная на 1,5 года зняволення за продаж забароненых анабалічных стэроідаў. Высветлілася, што Родчанкаў у 2011—2012 гадах ляжаў у псіхіятрычнай клініцы з шызатыпічным расстройствам асобы. Аднак працы ў антыдопінгавай лабараторыі, як бачым, гэта не замінала.

Справа ж у тым, што выдатны навукоўца Родчанкаў распрацаваў унікальную сумесь стэроідаў (метэналон, трэмбалон, аксандралон), якія ўжываліся спартоўцамі разам з алкаголем. Спіртныя напоі былі патрэбныя для таго, каб забаронены прэпарат хутчэй усмоктваўся ў кроў, а магчымасць яго знайсці істотна зніжалася.

Прэпарат даваў магчымасць атлетам хутка ўзнаўляцца, а таксама знаходзіцца на піку формы на працягу некалькіх дзён запар.

Гэтая навінка выкарыстоўвалася многімі расійскімі спартсменамі на Алімпіядзе ў Лондане і Сочы. У выніку з дапамогай гэтай сумесі было заваявана аж 15 медалёў. Сярод «нячыстых» спартсменаў называліся прозвішчы лыжніка Аляксандра Лягкова, бабслеіста Аляксандра Зубкова, жаночай зборнай па хакеі.

Але нават гэтага было мала для перамог. Далей дзеянні адбываліся як у сапраўдным дэтэктыве. Уначы праз невялікую дзірку ў сцяне лабараторыі замяняліся пробы расійскіх спартсменаў. За ўсю допінгавую кампанію адказным быў намеснік міністра спорту Юрый Нагорных.

Яшчэ да прызнанняў Родчанкава ўсплывалі дадзеныя, што на Алімпіядзе ў Сочы агенты ФСБ трапляліў антыдопінгавыя лабараторыі пад выглядам інжынераў.

Прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Дзмітрый Пяскоў сказаў, што словы Родчанкава — гэта «паклёп перабежчыка».

Міністр спорту Мутко ў сваю чаргу адзначыў, што расійскія ўлады не маюць да допінгу ніякага дачынення. А пасля дадаў, што Родчанкаў усё рабіў па сваёй уласнай волі.

Спікер Дзярждумы Сяргей Нарышкін сказаў, што Родчанкаў — гэта «першы крымінальнік і яго трэба судзіць».

З цягам часу кіраўніцтва Расіі перастала адмаўляць, што допінг быў, і стала націскаць на тое, што ўжываўся ён з уласнай ініцыятывы навукоўца, а гэта не было часткай дзяржаўнай палітыкі.

Найбольш адэкватна адрэагаваў мільярдэр Алішэр Усманаў, які прапанаваў усім спартоўцам, якіх лавілі на допінгу, выбачыцца.

У выніку перад стартам Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра паўстала пытанне поўнага адхілення зборнай Расіі ад Гульняў. Такое рашэнне прынятае не было, аднак Расію не пусцілі ў такія медальныя віды, як лёгкая і цяжкая атлетыка, амаль цалкам дыскваліфікаваныя весляры.

Некалі піянерам допінгрэвалюцыі была ГДР. Там таксама гэтым пытаннем займаліся спецслужбы. Перамогі гэтай краіны ў спорце павінны былі сведчыць пра перавагу сацыялістычнай мадэлі над капіталістычнай.

Перамогі расійскіх спартоўцаў у Сочы таксама павінны былі прадэманстраваць, што «Расія ўстала з кален».

Успамінаецца, што ў ГДР мужчынам нават рабілі аперацыі па змене пола, каб яны выступалі ў спаборніцтвах жанчын.

Славуты беларускі весляр Уладзімір Парфяновіч прызнаваўся, што прымаў допінг яшчэ ў савецкі час. Гэтай заганнай практыцы шмат гадоў.

Калі ў свеце існуюць такія праблемы з допінгам, то, можа, прыйшоў час дазволіць гонку фармакалогій? Аднак большасць схіляецца да таго, што такое рабіць нельга. Бескантрольнае ўжыванне стымулятараў прывядзе да росту смерцяў сярод спартоўцаў. Перамогі павінны здабывацца на стадыёнах і арэнах, а не ў навуковых лабараторыях.

**Зміцер Панкавец**



**Мікіта Камаеў хацеў напісаць кнігу пра допінг, але раптоўна памёр у 52 гады.**




**Грыгорый Родчанкаў агучыў схему маніпуляцый з допінгам у расійскім спорце.**

### У Беларусі допінг — не перашкода для кар'еры

**Вадзім Дзевятоўскі — малатабойца**

Яго тройчы лавілі на выкарыстанні забароненых прэпаратаў. На Алімпіядзе-2008 Дзевятоўскаму ўдалося адстаяць свой срэбраны медаль, бо проба была ўзятая з працэдурнымі памылкамі. Аднак праз нейкі час Дзевятоўскі ўсё адно быў дыскваліфікаваны пажыццёва. Цяпер ён дэпутат палаты прадстаўнікоў (чарговы раз балатуецца сёлета), а таксама ўзначальвае Беларускую федэрацыю лёгкай атлетыкі.

**Аляксандр Багдановіч — весляр**

Алімпійскага чэмпіёна — 2008 злавілі на выкарыстанні мельдонію вясной сёлета. Працэнт у крыві быў прызнаны нязначным, аднак беларускую каманду па веславанні на байдарках і каноэ ўсё адно адхілілі ад Алімпіяды.

Цяпер Багдановіч вылучаецца кандыдатам у дэпутаты па Асіповіцкай выбарчай акрузе.




**Допінг не перашкодзіў Вадзіму Дзевятоўскаму зрабіць кар'еру ў палітыцы.**

**Алімпіяда-2016**

Пройдзе ад 5 да 21 жніўня ў Рыа-дэ-Жанейра. У Гульнях возьме ўдзел больш за 10 тысяч атлетаў з 207 краін. Будзе разыграна 306 комплектаў узнагарод у 28 відах спорту.

**Вінісіус і Том**

Талісманы Алімпіяды. Вінісіус — жоўты звярок, падобны да ката, ён увасабляе сабой бразільскую фаўну. Том з'яўляецца раслінай, выкананы ў сініх і зялёных колерах, увасабляе сабой бразільскую флору.



# Кіраўнік «Раснафты» купіў для маладой жонкі яхту коштам ад $100 мільёнаў?

Расійская «Новая газета» апублікавала расследаванне пра багатае жыццё кіраўніка «Раснафты» Ігара Сечына.

Ён разам з маладой жонкай маюць дачыненне да раскошнай яхты памерам амаль з футбольнае поле. На ёй ёсць басейн, верталётная пляцоўка, джакузі, ліфт... Яхта атрымала назву *St. Princess Olga* («Святая княгіня Вольга»). Яна займае 72-е месца ў рэйтынгу 100 самых вялікіх яхт у свеце.

Некалькі гадоў таму Ігар Сечын развёўся са сваёй першай жонкай. А пасля пабраўся шлюбам з маладзенькай Вольгай Ражковай (цяпер яе прозвішча Сечына).

Раней Вольга працавала ў апараце ўрада, калі Сечын быў віцэ-прэм'ерам, а цяпер уладкавалася ў дзяржаўны «Газпрамбанк».

Мяркуючы па фатаграфіях у сацыяльных сетках, Вольга Сечына большую частку часу праводзіць за мяжой. У яе акаўнце ў інстаграме шмат фатаграфій з яхты ля берагоў фешэнэбельных курортаў Сардыніі і Корсікі.

Дэталі на гэтых фота шмат у чым нагадваюць дэталі *St. Princess Olga*. Больш за тое, месцы на фота супадаюць з маршрутам яхты.

Параўнаўшы фатаграфіі з сацыяльных сетак Сечынай з фотаздымкамі яхты *St. Princess Olga*, а таксама яе маршрутамі, можна выказаць здагадку, што жонка кіраўніка «Раснафты» адпачывала менавіта на гэтым судне.







Паводле ацэнак экспертаў, «Святая княгіня Вольга» каштуе не менш за $100 мільёнаў.

Пры гэтым афіцыйны заробак Сечына з бонусамі складае ўсяго (усяго?!) каля $12 мільёнаў за год.

Тэарэтычна кіраўнік «Раснафты» мог арандаваць яхту для сваёй жонкі. Але нават пры яго афіцыйна высокім заробку арэнда *St. Princess Olga* моцна ўдарыла б па сямейным бюджэце. Прапановы па тыднёвай арэндзе яхт, падобных да *St. Princess Olga*, пачынаюцца ад $1 мільёна. . А, мяркуючы па фатаграфіях, Вольга Сечына за апошнія тры гады правяла на яхце зусім нямала часу.

## Віцэ-прэм'ер Расіі вазіў сваіх элітных сабак на выставы на прыватным самалёце



Фонд барацьбы з карупцыяй (ФБК) пад кіраўніцтвам Аляксея Навальнага апублікаваў расследаванне, з якога вынікае, што першы віцэ-прэм'ер Расіі Ігар Шувалаў пастаянна карыстаецца прыватным самалётам, не ўказаным у дэкларацыі.

Супрацоўнікам ФБК удалося знайсці 13 супадзенняў, калі самалёт *Bombardier Global Express* знаходзіўся ў той жа дзень у тых самых гарадах, дзе выступаў Ігар Шувалаў.

Акрамя таго, 18 разоў за апошні год *Bombardier Global Express* бываў у Зальцбургу, дзе ў сям'і Шувалава ёсць сядзіба. Па ацэнцы ФБК, толькі паездкі ў Зальцбург каштавалі прыкладна $1,5 мільёна.

Таксама супрацоўнікам ФБК удалося высветліць, што коргі — элітныя сабакі, якіх разводзіць жонка Ігара Шувалава, — лётаюць на гэтым самым самалёце. У васьмі выпадках лайнер прызямляўся ў тых гарадах, дзе ў той момант праходзілі выставы коргі.



# Падчасператрусу ў галоўнага мытніка Расіі знайшлі ў каробках ад абутку $1 мільён

Кіраўнік Федэральнай мытнай службы Расіі Андрэй Бельянінаў адпраўлены ў адстаўку. Гэта адбылося ўслед за ператрусам у яго дома. Бельянінава падазраюць у патуранні кантрабандзе алкаголю.

Аператыўнікі былі ўражаны раскошнымі інтэр'ерамі агромністага катэджа плошчай 1565 м² кіраўніка мытні. Сцены дома ўпрыгожвае жывапіс XVII—XIX стагоддзяў — сілавікі не выключаюць таго, што карціны сапраўдныя.

Дома ў Бельянінава былі знойдзеныя буйныя грашовыя сумы, якія захоўваліся ў каробках з-пад абутку. Іх, па словах сілавікоў, мытнік асабіста дастаў з антрэсоляў.

Агулам у яго дома знайшлі каля $900 тысяч наяўнымі.





## Кіраўніцтва Следчага камітэта атрымлівала хабары ад «аўтарытэта»

Супрацоўнікі ФСБ затрымалі намесніка начальніка Маскоўскага ўпраўлення Следчага камітэта Расіі Дзяніса Нікандрава, а таксама кіраўніка ўпраўлення ўласнай бяспекі Следчага камітэта. Яны праходзяць па справе злодзея ў законе Шакро Маладога.

Нікандраў падазраецца ў тым, што абяцаў «аўтарытэту» адмазаць яго ад крымінальнага пераследу за мільён даляраў. Як паведамляецца, следчага якраз і затрымалі пры атрыманні хабару.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Ягор Марціновіч**

# Забойца Паўла Шарамета дагэтуль не знойдзены

20 ліпеня раніцай у Кіеве ў выніку выбуху машыны загінуў вядомы журналіст, заснавальнік «Беларускага партызана» Павел Шарамет.

Машына ўзарвалася на рагу вуліцы Багдана Хмяльніцкага і Івана Франка насупраць рэстарана «МакДональдс».

Паўлу Шарамету было 44 гады. Ён нарадзіўся ў 1971 годзе ў Мінску. У 1998 годзе журналіст пачаў працаваць спецыяльным карэспандэнтам праграмы «Навіны» на расійскім канале ОРТ (цяпер — «Першы канал»). За рэпартаж пра дзіркі на беларуска-літоўскай мяжы быў арыштаваны беларускімі ўладамі і выйшаў на волю толькі пасля асабістага ўмяшання прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына.

У студзені 1999 года Павел Шарамет заняў пасаду шэф-рэдактара расійскай і замежнай карэспандэнцкай сеткі дырэкцыі інфармацыйных праграм тэлеканала, быў вядучым штотыднёвай аналітычнай праграмы «Время». З 2000 года займаўся стварэннем дакументальных фільмаў і спецпраектаў для інфармацыйных праграм «Першага канала». Пакінуў тэлеканал у 2008 годзе.

Апошнім часам Шарамет працаваў як на беларускія, так і на ўкраінскія і расійскія СМІ.

З 2011 года ён жыў у Кіеве, працаваў ва «Украінскай праўдзе», быў вядучым на радыё «Весці». Апроч таго, ён па-ранейшаму кіраваў «Беларускім партызанам» і пісаў у маскоўскі «Огонек».

Літаральна за некалькі дзён да смерці Шарамет напісаў, што яго пацягнула вывучыць беларускую мову. Ён прызнаў, што часта быў несправядлівы да беларускамоўных, бо лічыў іх няшчырымі. І нават апошняе інтэрв'ю Шарамета было прысвечанае стану беларускай мовы.

«Калі Павел даведаўся, што я пішу кнігу пра каханне, ён сказаў: «Ведаеце, а я прыехаў сюды таксама дзеля кахання». Усміхнуўся: «І вялікага кахання, вы можаце не паверыць». І як ён гаварыў! Ён быў такі натхнёны, у такім парыве! Я яшчэ глядзела на яго і думала: які добры час у гэтага хлопца! Я хачу, каб Лена гэта ведала», — расказвала нобелеўскі лаўрэат Святлага Алексіевіч.

Лена — гэта ўласніца сайта «Українская правда» Алена Прытула. Апошнія гады яны жылі разам з Шараметам. Менавіта на яе машыне быў у тую страшную раніцу журналіст.

Аднак, выглядае, забіць збіраліся менавіта Шарамета. Выбухоўку яму ў машыну падклалі ўначы напярэдадні, працавала жанчына. На відэа са здарэння добра бачны чалавек з кійком, які мог быць патэнцыйным забойцам, кажуць спецыялісты.

Следства разглядае некалькі варыянтаў забойства: помста за прафесійную дзейнасць, расійскі след. Замоўцы і выканаўцы ўсё яшчэ не знойдзеныя.

Пахавалі Паўла на Паўночных могілках Мінска. На развітанне ў царкву Усіх Святых прыйшлі тысячы беларусаў.

**Зміцер Панкавец, Сяргей Гезгала**



Тысячы беларусаў прыйшлі развітацца з незвычайным журналістам.

**Мустафа Наем: Лукашэнка праявіў слабасць**

На развітанні з Паўлам Шараметам у Мінску прысутнічаў вядомы ўкраінскі журналіст, дэпутат Вярхоўнай Рады Мустафа Наем.

Наем звярнуў увагу на тое, што дзяржаўныя беларускія каналы засталіся сляпымі да пахавання Шарамета. Маўчанне захоўваў і Аляксандр Лукашэнка, у той час як нават Пятро Парашэнка прыйшоў на паніхіду па журналісце.

«Гэта лёс усіх шчырых журналістаў, — сказаў Наем ў інтэрв'ю «НН». — Яны ж не міністры, каб выказваць ім спачуванне на дзяржаўным узроўні. Але яны — полюс іншага парадку. І калі тысячы людзей у цэнтры беларускай сталіцы прыходзяць развітацца з чалавекам, дзясяткі журналістаў асвятляюць гэта, а прэзідэнт маўчыць… Гэта праява маральнай і этычнай слабасці Лукашэнкі, я для сябе гэта так тлумачу. Бо хоць Павал і быў грамадзянінам Расіі, але ён ганарыўся тым, што ён беларус, ён заўсёды гэта падкрэсліваў, расказваў нам пра сваю краіну і яе людзей. Ён, як і любы іншы чалавек, змушаны з'ехаць з радзімы, хацеў сюды вярнуцца».

**Арцём Гарбацэвіч**

## Рэфарматара Рудага адправілі ў Кітай



Аляксандр Лукашэнка прызначыў новага пасла Беларусі ў Кітаі. Ім стаў памочнік прэзідэнта ў пытаннях эканомікі Кірыл Руды, які меў рэпутацыю «рыначніка» і «лібералa». Руды прасоўваў рэфомы ў фінансавай сферы, дзеля іх паспяховасці прапаноўваў беларусам «сесці на дыету». Часта з вуснаў Рудага гучалі непапулярныя прапановы, якія неабходныя дзеля аздараўлення эканомікі.

**ЗП**

## У Расіі хочуць прызнаць БНФ і «Малады фронт» экстрэмісцкімі арганізацыямі за «асаблівую русафобію»

З незвычайнай ініцыятывай выступіў дэпутат Дзяржаўнай Думы Расіі Вадзім Салаўёў ад КПРФ. Ён звярнуўся да генеральнага пракурора Расіі Юрыя Чайкі з прапановай вывучыць дзейнасць Партыі БНФ, а таксама «Маладога фронту».

Салаўёў адзначыў, што «гэтыя арганізацыі вылучаюцца асаблівай русафобіяй і ўсхваляюць злачынцаў часоў Другой сусветнай вайны». «Падобных фактаў можа хапіць, каб прызнаць гэтыя арганізацыі экстрэмісцкімі на тэрыторыі Расіі», — адзначае таварыш Салаўёў.

Зусім нядаўна дэпутат Вадзім Салаўёў заклікаў цалкам забараніць у Расіі гульню *Pokemon GO*, а таксама палохаў дэсантнікамі зборшчыкаў пакемонаў, а ЗША ён абвінавачваў у эпідэміі грыпу ў Расіі.

«Маладому фронту» начхаць, што яны там прымуць у Расіі», — пракаментаваў нам гэтую навіну Зміцер Дашкевіч.

**Зміцер Панкавец**

## Экс-чыноўніца з Лельчыцкага раёна ажаніла сына з роднай сястрой для атрымання льготнага крэдыту

Былая намесніца старшыні Лельчыцкага раённага выканаўчага камітэта падазраецца ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў для атрымання льготнага крэдыту на будаўніцтва жылля.

Крымінальная справа была заведзена пракуратурай Лельчыцкага раёна па матэрыялах ГУБАЗіК. Карыстаючыся службовым становішчам, жанчына дала падначаленым незаконнае ўказанне аб рэгістрацыі фіктыўнага шлюбу паміж сваім сынам і роднай сястрой, што дало ім права на атрыманне льготнага крэдыту на будаўніцтва жылля.

Супрацьпраўная дзейнасць фігуранткі, кваліфікаваная па ч.3 арт.426 Крымінальнага кодэкса Беларусі, нанесла ўрон дзяржаве на суму больш за 11 тыс. новых рублёў (110 млн да дэнамінацыі). Крымінальную справу ўжо перадалі ў Следчы камітэт для расследавання.

**БелТА**

## Тры анекдоты пра Лукашэнку, якія на «Славянскім базары» Максім Галкін расказваў Лукашэнку

Падчас выступу на «Славянскім базары» расійскі гумарыст Максім Галкін расказаў некалькі анекдотаў пра Аляксандра Лукашэнку.

* * *

Падчас Алімпіяды ў Сочы Лукашэнка, Пуцін і Мядзведзеў вырашылі пакатацца на горных лыжах. Лукашэнка захацеў спусціцца першы.

— Не, усё ж такі я пакуль прэзідэнт. Першым з горкі павінен спусціцца я, — пярэчыць Пуцін.

— Добра, тады я за вамі, Уладзімір Уладзіміравіч! — пагаджаецца Лукашэнка.

— Не, за мной Дзмітрый Анатольевіч.

— Ну ладна, тады я за Дзмітрыем Анатольевічам.

— Не. За Дзмітрыем Анатольевічам зноў я.

* * *

Пасля авіякатастрофы плывуць у чоўне Абама, Пуцін і Лукашэнка. Узнікла пытанне, хто будзе веславаць.

— Я не буду, я лідар свету, — кажа Абама.

— Я таксама лідар ядзернай дзяржавы, я веславаць не буду, — дадае Пуцін.

Лукашэнка прапануе прагаласаваць.

...Мяняецца карцінка. У чоўне вяслуюць на дваіх Абама і Пуцін. Лукашэнка задаволены сядзіць і пасміхаецца.

У Абамы нараджаецца пытанне:

— Валодзя, ты мне патлумач, як так атрымалася, што нас ўсяго трое, а за яго прагаласавалі чацвёра?

* * *

Пасля чарговага разносу заехаў з двума міністрамі ў рэстаран. Падыходзіць афіцыянт і кажа:

— Што вы будзеце? У нас і мясное меню ёсць, і вегетарыянскае.

— Я буду мяса! — адказвае Лукашэнка.

— А овашчы?

— А овашчы таксама будуць мяса!

# Пра 3-гадовага Ваню,

## які ездзіць на спатканні да маці з Гродна ў Гомель

Ваня цяпер мае тры з паловай гады, жыве хлопчык у Гародні разам з бацькам. Часам малы прыязджае ў Гомель на цягніку. На спатканне да мамы Ані, якая адбывае пакаранне ў ІК-4, жаночай калоніі. Ваня тут і нарадзіўся, на «зоне», тут жа, у Доме дзіцяці пры калоніі, правёў першыя свае паўтара года жыцця.

У Гомелі — маці, у Гародні — бацька, дзве сястры, бабулі і дзядулі.

Сёння — асаблівы дзень: малы з бацькам і сёстрамі прыехаў у Гомель на прэм'еру спектакля, адну з роляў у якім выконвае маці. Ля гомельскага чыгуначнага вакзала сядаем у аўто, каб ехаць у драматычны тэатр на прэм'еру. «Вязі нас да мамы Ані!» — загадвае кіроўцу трохгадовы хлопчык з сур'ёзным тварам.

Ілля, яго бацька, узгадвае, што, нягледзячы на гады, малы часам гаворыць, што ён памятае, як жыў у мамы Ані — у Доме дзіцяці пры калоніі. Ваня яшчэ не ведае такога слова, як «зона» ці «калонія», і лічыць, што маці яго — на рабоце. «Дома ён неяк сказаў, хоць мы такога яму не гаварылі, але, відаць, сам неяк дадумаўся, што мама яго на такой рабоце, якую нельга кінуць, з якой нельга сысці дахаты», — кажа Ілля.

Бацькі малога і распісаліся ў калоніі, але вяселля, вядома, не было. Так здарылася, што не было нават спаткання — якраз не было вольнага пакоя. Таму Аня пайшла пасля роспісу да сябе ў атрад, Ілля сціпла адзначыў знакавы момант жыцця ў гомельскіх сяброў.

Ілля не герой. Аня таксама. Гэта сям'я са сваім лёсам. Аня і Ілля былі знаёмыя даўно, яшчэ са школы. Сябравалі, але лёс у кожнага быў свой. Аня выйшла замуж, нарадзіла дзяцей — дзвюх дачок. Муж памёр. У нейкі час Аня з Іллёй пачалі падтрымліваць адносіны. Але так здарылася, што ў 2012 годзе жанчыну асудзілі па частцы 3 артыкула 328 КК — наркотыкі. Далі восем гадоў. На той момант жанчына была цяжарная. Бацька — Ілля — не кідаў сяброўку, калі яна трапіла за краты. Звычайна — наадварот. Каля розных СІЗА і калоній чэргі на спатканне і передачы складаюцца з жанчын, якія чакаюць сваіх мужоў, братоў, сыноў, клапоцяцца пра іх, носяць торбы да казённых сцен.



Часта мужчынам прасцей забыцца на родных некалі жанчын, якія трапілі за краты.

Ездзіць на спатканні ў калонію, марнаваць час, грошы? Распісвацца з асуджанай? Ды і ў Доме дзіцяці маглі паклапаціцца пра Ваню... «Не ведаю... Ёсць нейкія моманты ў жыцці, калі не шукаеш рацыянальнае зерне ў тым, як зрабіць, але ведаеш, што так будзе правільна. Я палічыў так. Цяжкасці? А ў каго іх няма, іх не пазбегнем, але нашыя неяк вырашаюцца», — кажа Ілля.

Старэйшыя дочкі (16 і 12 гадоў) Ані жывуць з бабуляй, з Іллёй ездзяць на спатканні да маці ў Гомель. 12 гадзін у цягніку ў адзін бок — так сабе задавальненне. Ваня жыве з бацькам. Ілля кажа, што добра дапамагаюць бабулі і дзядулю. «Часам складваецца ўражанне ў мяне, што больш гэта я ім дапамагаю, а не яны мне. Вядома, бацькі пенсіянеры, здароўе ўжо не тое, але без іх бы ніяк», — адзначае гарадзенец.

Ён працуе гукарэжысёрам, а па выхадных падпрацоўвае на рынку. Цягнуць сям'ю і плюс паездкі-перадачы — не так проста. На адну паездку з дзецьмі, з передачай у Гомель на спатканне да Ані трэба як мінімум каля ста даляраў. Спатканні бываюць доўгатэрміновыя і кароткія. Доўгія — гэта на два, максімум тры дні. У калоніі ёсць «дом спатканняў», там — пакоі, агульная кухня, дзе можна прыгатаваць нешта, пабыць хоць два дні сям'ёй, адчуць смак хатняй ежы, паглядзець разам фільм, паразмаўляць. Будзеш мець парушэнні рэжыму — пазбавяць спатканняў. Кароткія спатканні — на дзве гадзіны размовы праз шкло.

Перадачы прадуктовыя дазволеныя да трыццаці кілаграмаў некалькі разоў на год, у залежнасці ад рэжыму і адсутнасці «залётаў». Калі чалавек «стаў на шлях выпраўлення», то дазваляюцца і спатканні, і перадачы, і яшчэ якія-небудзь «ніштякі». На пошце адпраўляць перадачы не так проста, таму што многія прадукты могуць сапсавацца, і на пошце могуць затрымаць пасылку.

Ёсць спіс дазволеных прадуктаў, адступаць ад яго нельга. Напрыклад, можна сала салёнае. Але калі яно будзе вэнджанае — то нельга. Мяса можна, напрыклад, вэнджанае, але калі ў ім будзе праслойка сала, то такое мяса не прымуць. Рыба — салёная, філе. Калі ж вэнджаная — завернуць назад. «Раней можна было бульбу сухую «Ролтан», цяпер нельга, як і вільготныя сурвэткі, спіс дазволенага часам змяняецца», — заўважае Ілля.

Ваня нарадзіўся зімой 2013 года. З радзільні, дзе пад канвоем з'явіўся на свет малы, маці накіравалі назад у зону, хлопчыка — спачатку ў дзіцячую бальніцу, потым — у Дом дзіцяці пры калоніі. Аня, як і іншыя маці, магла некалькі разоў на дзень наведваць сына. У астатні час дзецьмі займаўся персанал, але прыход маці для кожнага дзіцяці — свята. У Доме дзіцяці пры жаночай калоніі звычайна выхоўваюцца ад 30 да 50 дзяцей. Тут яны могуць быць да трох гадоў, і калі тэрмін пакарання маці не скончыцца — іх пераводзяць у прытулак, дзіцячы дом ці аддадуць сваякам, калі знойдуцца ахвотныя.

Ілля забраў Ваню дахаты. Трэ' было сабраць даведкі, паперы, дакументы — і вось малы ўжо едзе з татам, бабуляй і дзядулем у Гродна. «Спачатку ён плакаў, таму што першы раз ехаў на аўтамабілі і вакол незнаёмыя людзі. Потым змарыўся і заснуў. А потым яму цікава было ўжо назіраць, што робіцца за акном. Першы месяц Ваня больш прыязны быў да бабулі, мяне неяк пабойваўся, напэўна, таму што ў калоніі персанал у асноўным жаночы. Насцярожаны быў. Відаць, было не зразумела, дзе ён, што з ім, хто гэтыя людзі... Але потым ён хутка асвоіўся, прызвычаіўся да ўсіх, цяпер жа наогул самы галоўны ў нашай сям'і, усіх «строіць», — смяецца гарадзенец.

Ваня пайшоў у садок, і, напэўна, яму лягчэй было там сацыялізавацца, чым іншым дзецям: змалку ж быў у дзіцячым калектыве з чужымі цёцямі.

Цяпер малы ведае, што трэба ехаць на спатканне да маці, якая «на рабоце», з якой ёй нельга сыходзіць. «Любіць гуляць у цягнік — як ён сядае і едзе да мамы Ані. Таксама на лецішчы садзіцца ў аўто, кіруе і некуды едзе. Цяпер кажа: на работу, раней казаў: да мамы Ані. Радуецца, калі едзем у Гомель», — дадае Ілля.

Прэм'ера спектакля ў драматычным тэатры прайшла выдатна. На ёй прысутнічаў нават міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, кіраўніцтва Дэпартаменту па выкананні пакаранняў, калоніі, гарадскія ўлады. Аня выконвала ролю вар'яткі, ды і спектакль быў пра «жоўты дом», узаемаадносіны паміж людзьмі. Пасля спектакля Ілля з дзецьмі мог коратка сустрэцца з Аняй. «Ёй спадабаўся спектакль. Канечне, быў страх перад сцэнай, публікай — а была поўная зала. Але гэты спектакль даў ёй магчымасць адчуць сябе хоць на час у свабодным соцыуме», — зазначае мужчына.

Ані да свабоднага соцыуму застаецца тры гады. Артыкул 328 лічыцца цяжкім, таму на ўмоўна-датэрміновае разлічваць не вельмі даводзіцца.

Ілля пасля спектакля і кароткага спаткання вяртаецца з дзяўчаткамі і Ванем у Гродна. Ваню заўтра ў садок, Іллю — на работу, дзяўчаткам адпачываць, пакуль летнія канікулы. Ані трэба ісці на работу — шыць міліцэйскую форму, халаты, пасцелю і «цвёрда стаць на шлях выпраўлення».

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

## Здарэнні сцісла

### Афіцэр арганізаваў жонцы скачок. А парашут не раскрыўся

34-гадовая жыхарка Віцебска загінула 3 ліпеня, на самае свята. Фатальны скачок з парашутам «падарыў» на дзень народзінаў муж, афіцэр армейскага спецназа. Ён служыць у элітнай вайсковай часці 97020.

Парашут той знаходзіўся на балансе вайсковай часці. Самалёт даў мясцовы ДТСААФ, але дамова арэнды была заключана не з фізічнай асобай, а з вайсковай часцю.

Паводле адной з версій, парашут быў непрыдатны для выкарыстання. Паводле іншай, загінулая спалохалася і няправільна дзейнічала. Да праўды павінна дайсці следства.

### Хіба памежнік вінаваты?

56-гадовая мінчанка праходзіла пашпартны кантроль у аэрапорце «Мінск-2». Яна збіралася ляцець ва Украіну. Падчас праверкі выявілася, што дакумент несапраўдны. Яна выйшла замуж у лістападзе 2015 і да гэтага часу не памяняла пашпарта, хоць абавязаная была гэта зрабіць у 30-дзённы тэрмін.

Пачуўшы, што паездку давядзецца адмяніць, жанчына спагнала злосць на супрацоўніку памежнай службы — шпурнула нізку ключоў з такой сілай, што на твары афіцэра застаўся знак. Цяпер ёй пагражае пакаранне да пазбаўлення волі на пяць гадоў.

### На Нарачы перакулілася яхта з кітайцамі

Былі выратаваны дзевяць чалавек.

### Труп маці знайшлі пад цэментнай сцяжкай у сынавым двары

У 2008 годзе ў вёсцы Красіева Пінскага раёна знікла 54-гадовая жанчына. Яе труп выявіла сёлета ў ліпені аператыўна-следчая група. Па інфармацыі міліцыі, падчас сваркі мужчына збіў сваю маці, якая ад атрыманых траўмаў памерла. Тады ён закапаў труп у гаспадарчай пабудове, а зверху заліў бетонную сцяжку. Мужчыну не раз выклікалі ў праваахоўныя органы, але ён сцвярджаў, што нічога не ведае пра тое, дзе дзелася маці.

**СМ; УШ; БелаПАН**




Штодня ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай хірургіі прывозяць дзяцей, што праглынулі манеты. У цэлым па краіне колькасць такіх выпадкаў можа даходзіць да 30 на дзень. Хірургічных умяшанняў у сувязі з дастаўленнем манет менш, чым зваротаў. Не кожную манету трэба аператыўна даставаць, яна можа выйсці з арганізма натуральным шляхам.
Найбольш небяспечныя для дзяцей дробныя манеты, асабліва адна капейка, бо іх і ў нос піхаюць.
Батарэйкі яшчэ больш небяспечныя, чым манеты. Яны прапальваюць сценкі органаў. З пяці дзяцей, якія праглынулі батарэйкі і якіх спрабавалі выратаваць у РНПЦ дзіцячай хірургіі, трое загінулі.
Манеты і батарэйкі павінны захоўвацца высока, быць дзецям недасяжныя.
Як толькі дзіця прыціхла і маўчыць, ідзіце і глядзіце, што яно робіць.

# Калі ласка, прачытайце гэта: як кожны з нас можа стаць забойцам

Я пішу гэтыя радкі на 9-ы дзень, як памерла Маіна Густаўна Стырнэ.

Ёй было 90 гадоў. Летась я пісала ў «Нашу Ніву» пра яе фантастычны лёс, яе найбагацейшы досвед. А цяпер хачу напісаць пра тое, як кожны з нас можа стаць забойцам. Спадзяюся, гэта будзе напамінам мне і іншым.

Перад Новым годам Маіна Густаўна пайшла ў магазін. Стаяла ў чарзе ў малочны аддзел. Перад ёй стаяла жанчына. У нейкі момант жанчына развярнулася і памкнулася да выхаду.

«Яна ішла, як бы і не бачачы мяне», — казала Маіна Густаўна. Зрабіўшы некалькі хуткіх крокаў, жанчына наляцела на 90-гадовую Маіну Густаўну і збіла з ног.

«Я ляжу, яна стаіць нада мной. І ёй кажу: не чапайце, вы ўсё адно мяне не зможаце падняць, патрэбныя мужчыны». Урэшце Маіну Густаўну давязлі да дома. Дактары хуткай дапамогі дыягнаставалі моцны ўдар.

Праз тыдзень боль не прайшоў. Новая брыгада забрала ў бальніцу. Выявіўся пералом шыйкі сцягна. Гэта амаль смяротны прысуд для сталага чалавека.

Пакуль я размаўляла з Маінай Густаўнай цягам паўгоддзя яе ляжання ў бальніцах, не раз думала: як там гэтая жанчына з чаргі?




**На фота 19-гадовая Маіна Густаўна ў нямецкім працоўным лагеры. Калі прыйшло вызваленне, іх хлопцы забраліся ў нямецкія дакументы і пааддзіралі з асабістых спраў картачкі на памяць. Маіна Густаўна сваю вельмі берагла.**

Вось жа яно — тое, што называецца забойствам па неасцярожнасці. Я рада, што жанчына не ведае пра апошнія пакуты Маіны Густаўны. Чалавек, які сам у сабе выхаваў надзвычайную высакароднасць, яна вымушана была есці і хадзіць у прыбіральню лежачы, пры гэтым яшчэ ўлагоджваць



**А так яна выглядала, перад тым як яе штурхнулі ў краме.**

санітарак, якія, мне здалося, нават не робяць выгляд, што хочуць дапамагчы.

У апошнюю сустрэчу Маіна Густаўна казала мне: «Такія пакуты — дзеля чаго? Каб лішні год пражыць? Не, я ўжо ўяўляю, як ляжу прыгожая ў труне і ўсе нясуць мне кветкі». Гэтыя думкі яе суцяшалі.

Ува мне няма жадання, каб лёс адпомсціў той жанчыне з чаргі: маўляў, няхай яе таксама паваляюць з ног у старасці. Ёсць толькі скруха. Я разумею, што кожны бывае ў задуменнасці, адключаецца ад стомы, не глядзіць па баках. Але, каб не стаць такім забойцам, неабходна ў любым стане памятаць пра асабістую прастору. І сваю, але і чужую. І заўжды мець на ўвазе людзей, якія ў гэты момант побач.

**Паўліна Купрысь**

# Фёдар&Фёдар



З гісторый маіх валожынскіх сваякоў з хутара Відаўшчына. Піша Васіль Грынь.

Дзеда майго стрыечніка звалі Ясь, бабу — Зося. яны былі непісьменныя, хаця... Можа, дзед Яська мог падпісвацца і за сябе, і за стару... Але лацінскім подпісам, выводзіў сваё прозвішча — Rac. Так яго навучылі падпісвацца, калі служыў уланам у Войску польскім. Лічылі сябе тутэйшымі польскай веры татарскага карання... Але пра сваю ідэнтыфікацыю згадвалі вельмі рэдка: не было калі. Жылі сабе і жылі, як усе беларусы: за царом, за першым немцам, за палякам, за першым камуністам, за другім немцам. А вот як прыйшлі камуністы на другі раз — то і іх на хутары зачапіла, адразу абагул. Хаця Сталін падох, дык лес і паплавы забраўшы, але хату не папёрлі і на вываз не адправілі. І дзед Ясь даваў сабе рады, круціў, выкручваў, сеяў, гадаваў, прадаваў, нешта ў гэных камуністаў краў... Каб ім жа іхны налог заплаціць, хай яны задушацца. Гэта ж не грэх. Яны ўсіх людцоў абакралі, паскудэ такія!.. (Яго словы.) Але зачапіла чалавека за жывое...

У дзеда Яся і бабы Зосі былі дзеці, мае цёткі і дзядзькі: дзядзя Тадзік, дзядзя Фрэдзя, цёця Яня, цёця Ванда, цёця Вэля (Эвэліна)... І прыйшоў час, у 60-х, калі стала іхнае паўналецце, і калгасы адмянілі прыгон.

Прыгон, між іншым, скончыўся не ў 1861-м! Бальшавікі назад усіх запрыгонілі.

У 60-х памалу сталі даваць людзям пашпарты, з пашпартам можна было ехаць куды хочаш! І з гэтага часу пакаленне маіх бацькоў уцякала з вёскі, бо ніхто не хацеў працаваць за «палачкі-трудадні».

Уцяклі таксама і мае дзядзя Фрэдзя і дзядзя Тадзік, цёця Яня, цёця Ванда і цёця Вэля. І ў

## А самы апагей выйшаўшы, што і дзядзю Тадзю, і дзядзю Фрэдзю (Тадэвуш і Альфрэд) запісалі Фёдарамі

новых пашпартах, каб яны адпавядалі савецкім стандартам, іх, як гарады, як вуліцы, як усё, перайменавалі. Дзед Яська стаў Іванам. Баба Зося — Соф'яй. Цёця Яня — Ганнай, мая цёця Эвэліна — Валянцінай, а на цёцю Ванду затупілі, не прыдумалі, так і напісалі — Ванда, але нацыянальнасць прапісалі «полька». Астатнім — беларусы.

А самы апагей выйшаўшы, што і дзядзю Тадзю, і дзядзю Фрэдзю (Тадэвуш і Альфрэд) — запісалі Фёдарамі... За што дзед Яська болей за ўсё быў пакрыўджаны. Магчыма, ён бы дараваў і свой лес і паплавы, тока што не дараваў да канца дзён, як рускія яго сыноў запісалі, і аднаго, і другога, у Фёдары... яці іх макаўку...

Дзеда Яся я бачыў апошні раз мо ў 1995-м... за год да яго смерці, каля маладэчанскага касцёла, быў у галіфэ, фрэнчы, картузе, белай сарочцы, зашпіленай пад самы кадык, з імшы выходзіў.

Баба Зося памерла на хутары, дзед сам калаціўся яшчэ гады чатыры, а потым яго забралі слабога ў Маладэчна, і ён дажыў у цёці Яні, якая так замуж і не выйшла, затое дагледзела бацьку.

І дзед Ясь тады згадваў гэты казус і дзівіўся дурасці бальшавікоў: «Ну што то за бацька такі нойдзецца, які аднаго сына і другога адным імем нарачэ? І цяпер гэна ўлада не мае чаму падумаць, каб усё ўладкаваць. Скарэй ім усё і скарэй...»

Гэта быў першы год улады Лукашэнкі, а дзед ужо прасёк і праз яшчэ год памёр у расчараванні.

І так памерла ўся цывілізацыя, ад якіх забралі дзяцей і перайменавалі, і пераучылі. А цяпер па вёсках хіба рэха чуеш ва ўспамінах пажылых... індзейцаў.

**Разгільдзяі**



## Як глыбоцкія адмыслоўцы «рамантуюць» дарогу

Вёска Сарокі (Глыбоцкі раён, Залескі сельсавет). Дарога асфальтаваная яшчэ на пачатку 90-х. Жывуць амаль выключна пенсіянеры, але кожны клапоціцца пра стан сваёй сядзібы і нават дарогі каля сядзібы: жыхары самі ліквідуюць выбоіны, цэментуюць, падсыпаюць па меры неабходнасці. І, дзякуючы іх дбайнасці, асфальтавае пакрыццё знаходзіцца ў даволі прыстойным выглядзе. Людзі робяць тое, што павінна рабіць дзяржава, але ніводнага разу за апошнія дваццаць гадоў дарожных рабочых тут не бачылі. Куды ідуць грошы-паборы з аўтааматараў?

І вось глыбоцкія дарожнікі, каб пусціць пыл у вочы, накіроўваюць на асфальт… грэйдар?!! Так, менавіта! Той уздзірае ўзбочыну такім чынам, каб дзірван, зямля, камяні траплялі на праезджую частку!?!? Відаць, гэта планавы «рамонт» дарогі, якая да гэтага мела абсалютна нармальны стан. І я сказаў, хто пра яе клапоціцца. Напэўна, глыбоцкім дарожнікам варта запатэнтаваць гэтае ноу-хау і распаўсюдзіць свой «перадавы» досвед…І толькі мясцовыя жыхары, неверагодна абураныя такой дыверсіяй, такім шкодніцтвам, не дазволілі далей псаваць дарогу. Паглядзіце на здымак і зрабіце высновы, шаноўнае спадарства!

**Юрась Бабіч**

## На БТ пішуць, што незалежнасці 25 гадоў. Тады што святкуем 3 ліпеня?

На беларускім тэлебачанні святочны лагатып: «25 гадоў незалежнасці Рэспублікі Беларусь». То бок ідэолагі прызнаюць, што незалежнасць пачалася ў 1991 годзе. Тады рытарычнае пытанне: што адбылося 3 ліпеня, калі гэты дзень запісаны як Дзень Незалежнасці?

**Анатоль М.**

**Водгук**

**Вельмі спадабаўся мне першы нумар «НН» у фармаце месячніка**

Тыднёвік мне быў надакучыў, шчыра кажучы. Большасць таго, што там друкавалася, я чытаў раней у Сеціве. Цікавыя для мяне былі 3—4 старонкі старой «НН»: гісторыя, літаратура, часам інтэрв'ю ці рэпартаж нейкі.

Атрымаўшы ліпеньскі нумар, не ўзяўся чытаць усё за адзін раз, але расцягваю задавальненне.

Тэкст Рудкоўскага для мяне быў вельмі цікавы. Хоць я не навуковец і наогул неадукаваны чалавек, але некаторую цікавасць да навукі маю.

Гісторыя Гудзіліна, дзённік Горвата, рэпартаж з усходняй мяжы Беларусі, артыкулы пра войска і ўзбраенні таксама цікавыя. Як на мой густ, выдатная падборка тэкстаў.

Мне здаецца, публікацыю бягучых навінаў варта пакінуць выключна сайту nn.by, а на паперы даваць толькі грунтоўныя матэрыялы, якія будуць і праз месяц, і праз год актуальныя.

Хацелася б болей матэрыялаў з катэгорыі «Меркаванні». Магчыма, варта даваць некалькі меркаванняў па той ці іншай тэме, як вы зрабілі з плошчай Каніскага ў Магілёве. Але — не напісалі пра саму ідэю перайменавання, з якой разгарэлася палеміка. Чытач, які не бачыў гэтую навіну на сайце, не зразумее, пра што ідзецца.

А наогул — гэта важны крок наперад. Крыху шкада, што няма больш у Беларусі тыднёвай незалежнай газеты па-беларуску. Затое з'явілася фактычна новае выданне, у новым фармаце. І мне яно падабаецца.

**Кастусь Шыталь, Глыбокае**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

**Версія**

## «Яго проста развялі»?

Казбек Япрынцаў з сябрамі прадавалі-куплялі нафту. У прынцыпе, любыя такія ўгоды нясуць рызыкі: нехта не расплаціцца, ці нафту не паставіць, ці цэны загайдаюцца, ці яшчэ што. У заходняй фінансавай сістэме (і ў нас, адпаведна, таксама) бізнэсоўцы звычайна страхуюцца ад такіх рызыкаў. Як гэта выглядае: чалавек выдзяляе нейкую суму, не ўсе свае грошы, але колькі дазваляе здаровы сэнс — якую ён укладае пад адносна высокі працэнт у сумесь фінансавых інструментаў. Укладае, натуральна, не сам, а ідзе ў інвестыцыйны банк і дае гэтыя грошы банкаўскаму менеджару. Тое самае параілі зрабіць Казбеку.

Казбек прыходзіць у банк, яго вядуць праз асобны ўваход, наліваюць каньячку, трымаюцца з ім, як з вялікім варацілам, глядзяць у рот, ківаюць галовамі.

— Вы прынялі правільнае рашэнне, спадар Япрынцаў. Самі разумееце, калі дэпазіты ў банку даюць вам нейкія вартыя жалю працэнты, мы зробім інакш — і вы будзеце мець, скажам, 7%, а мо і 14% гадавых, калі пашанцуе.

— А калі не пашанцуе?

— Ну... (Фінансіст мнецца.) Ёсць пэўная рызыка... Але ведаеце, я ўкладу грошы ў такі набор інструментаў, такі разнастайны, што вы іх ні ў якім разе не згубіце. Не перажывайце. Мы возьмем набор акцыяў, дадамо туды дзяржаўныя ды карпаратыўныя даўгавыя распіскі, валютныя аперацыі (ну, скажам, купім ены ды еўра з разлікам таго, каб праз месяц тыя еўра прадаць па лепшым курсе). Гэта абсалютна звычайная практыка, паўтаруся, так робіць увесь цывілізаваны бізнэс на Захадзе. Вам не трэба ў гэта ўдавацца, бо мы тут разумеем нашмат больш за вас, пры ўсёй павазе. Даверцеся нам, мы салідны банк.

— Акей, давай.

Яны падпісваюць паперкі. Але гэта ўжо не банкаўскі дэпазіт, гарантаваны дзяржавай. У прынцыпе, Япрынцаў-малодшы даверае свае грошы ліхвяру. Так, рэспектабельнаму, не абавязкова круцялю, але ліхвяру. Гэта нармальная практыка, паўтаруся. Але гэтыя грошы вам дзяржава ўжо не гарантуе і не верне.

У нармальным, цывілізаваным, свеце чалавек з інвестбанка свае абавязальніцтвы выканаў бы, ну, можа, не з такім вялікім працэнтам. У рэдкіх выпадках можна было б сысці і ў мінус. Але пра*раць УСЮ суму — прычым для чалавека з найбуйнейшай кампаніі краіны — у ЗША гэта было б ужо на першай старонцы «Блумберга», і ўсе беглі б ад гэтага банка, як ад чумы.

Але Япрынцаў-малодшы — не Элан Маск ці Уорэн Бафет, ён сынок таткі, і бізнэс у іх не самы, скажам так, празрысты. Магчыма, даў грошы хлопцам, якія таксама ведаюць, што да чаго, і абазнаныя ў тым, што Казбек можа, а што не можа зрабіць, наколькі ў яго доўгія рукі. Я не выключаю, што яны яго проста «развялі». Шукай ветру ў полі, куды яны ўклалі тыя грошы. Ён жа сам кажа ў паказаннях — што падпісаў паперу пра сваю адказнасць за рызыкі гэтага ўкладання. А можа, яны і сапраўды былі некампетэнтныя ці занадта загуляліся. У заходняй фінансавай сістэме гэта называецца *moral hazard* — калі табе даюць грошы, якія не твае, але дазваляюць рабіць з імі што заўгодна, абы мець прыбытак, і ты не нясеш юрыдычнай адказнасці за згубу тых грошай — то рызыка зашкальвае і такімі грашыма з вялікай доляй імавернасці будуць распараджацца безадказна. У выпадку салідных кліентаў гэта маглі б і замяць, але Казбек, відаць, не такі ўжо салідны.

# Круцілі два таварышы



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У адрозненне ад Япрынцава-бацькі, Япрынцаў-сын у судзе вядзе сябе разняволена, ён нават вясёлы. У назіральнікаў гэта выклікае здзіўленне. Ці значыць гэта, што Казбек — проста крайне раздураны сынок багатага чалавека? Ці ў справе аб 41 мільёне крыецца нейкая іншая таямніца?**

Працяг са старонкі 2.

**Казбек Япрынцаў:** Вам вядома, што праз паўгода пасля майго затрымання мяне запрасіў супрацоўнік КДБ і паабяцаў свабоду ў абмен на інфармацыю аб вашым бізнэсе?

**Чыж**: Не.

**Казбек Япрынцаў:** Дык вось, я адмовіўся, таму што лічу, што ёсць рэчы, даражэйшыя за грошы і свабоду».

### «Выходзіць, дрэнна выхаваў сына»

Казбек Япрынцаў стварыў свой бізнэс перадусім на бацькавым аўтарытэце і ягоных жа сувязях. Самаўпэўненасць сына ў выніку ўдарыла па ўсёй сям'і.

«Калі Казбек яшчэ ў інстытуце вучыўся, я сам даў яму $20 тысяч. Сказаў: ты адказваеш за гэтыя грошы. Вядома, ён усё прайграў. Я тады сказаў яму: ты зразумеў, што «Форэкс» [інтэрнэт-пляцоўка для гульні на курсах валют ці каціроўках нафты, золата і г.д. — «НН»] — гэта для лохаў? Ён сказаў, што ўсё зразумеў. Я думаў, у яго імунітэт на гэта. Самая вялікая праблема, што ён мне адразу не сказаў праўду пра тое, што прайграў грошы. Я б адразу вырашыў гэтае пытанне. Ну, выходзіць, дрэнна выхаваў сына», — прызнаўся ў судзе Япрынцаў-старэйшы.

### «Мы селі ў машыну і паехалі ў КДБ»

Аляксандр Арабян быў затрыманы праз паўтара месяца пасля свайго сябра Казбека Япрынцава. У Маскве ён сустрэўся ў рэстаране з крэдыторамі. А пасля давялося ехаць здавацца ў беларускі КДБ.

«Міхаіл Маміяшвілі [алімпійскі чэмпіён па грэка-рымскай барацьбе, адзін з тых, каму былі павінны грошы Япрынцавы — НН»] сказаў, што тэлефанаваў Чыж, хоча, маўляў, са мной сустрэцца на мяжы. Я разумеў, што калі еду, то назад не вяртаюся... Мы селі з людзьмі Маміяшвілі ў машыну, паехалі. На мяжы нас сустрэла машына Чыжа, 0708 джып, паехалі ў Драздцы да яго. Гэта было раніцай 30 верасня. Але кіроўца сказаў, што Юра сустракацца не будзе, мы селі ў машыну і паехалі ў КДБ»

### «Нязначная сума — $20—30 тысяч»

Дзяржаўны абвінаваўца пацікавіўся пра гульню Казбека Япрынцава на «Форэксе». Раней паведамлялася, што менавіта там Казбек і страціў мільёны даляраў. «Гульня «Форэкс» мне незнаёмая», — заявіў ён. Ён сутыкаўся з «Форэксам» «два разы ў жыцці». У першым гаворка ішла «аб нязначнай суме на $20—30 тысяч».

Не надта лічыў грошы і Арабян. Калі ў яго спыталі, за колькі прадаў сваё элітнае аўто, ён адказаў: за $60—80 тысяч. А канкрэтней? Дакладную суму ён так і не ўзгадаў.

Аднак ёсць цікавы факт. На наступны дзень пасля затрымання Казбека Япрынцава, аднак яшчэ да накладання арышту на маёмасць, нехта паспеў хуценька прадаць яго «Бэнтлі» коштам ад $150 тысяч.

### «Можа, папрасіць кагосьці дарослага?»

Пракурор зачытваў перапіску Арабяна і Япрынцава-малодшага, знойдзеную на камп'ютары і тэлефоне Казбека. Цікава, што ўзламаць айфон Япрынцава-малодшага спецслужбісты так і не здолелі.

У адной з размоваў сябры абмяркоўвалі фінансавыя здзелкі, а менавіта: як прымусіць партнёраў пералічыць сродкі. У адной з гутарак гаворка ідзе пра кантракт на $50 мільёнаў, грошы павінны прайсці праз банк у Лондане. Плацеж затрымліваўся.

«Можа, папрасіць кагосьці дарослага патэлефанаваць і сказаць, маўляў, гэта «Трайпл»?» —

**Жонка Уладзіміра Япрынцава плюнула ў пацярпелага і сышла з суда**

Пацярпелы Андрэй Рабцэвіч сказаў, што Казбек Япрынцаў пастаянна скардзіўся на абнаяўліванне грошай — маўляў, праз Маскву і Кітай гэта рабілі пад фіксаваны працэнт. Паводле яго слоў, за перавод грошай у наяўныя нібыта плацілі 0,7—1,3% ад сумы.

Пасля гэтых слоў жонка Япрынцава-старэйшага Святлана ўстала, плюнула ў Рабцэвіча і пакінула памяшканне са словамі: «І вы гэтаму верыце?».

Абнаяўліванне грошай — крымінальнае злачынства.

Суддзя сказаў, што Рабцэвіч можа напісаць заяву з нагоды інцыдэнту ў РУУС Ленінскага раёна.

Tut.by

## Як Казбек Япрынцаў лёгка страціў 41 мільён

Казбек распавёў, што па рэкамендацыі «аднаго з топ-менеджараў «Трайпла» ён пазнаёміўся з прадстаўнікамі банка (мяркуючы па словах абвінавачанага — замежнага), у якіх набылі дзве кампаніі.

Высветлілася, што да пачатку 2015 года на рахунках дзвюх кампаній Казбека Япрынцава, праз якія ён займаўся хэджаваннем рызык па асноўных угодах, кампаніі паступіла каля 41 млн даляраў (33 і 8 млн). «Я меў зносіны з менеджарамі банка, якія займаліся для нас хэджаваннем — спярша я прымаў рашэнні аб хэджаванні, потым яны… Я падпісаў дзве паперы — аб прыватнасці і пра маю адказнасць за ўкладанні. Агавораныя былі і сігналы, па якіх менеджары адкрывалі ўгоды на «Форэксе», на рынку акцый і аблігацый… Я гэтым менеджарам давяраў, іх мне рэкамендаваў топ-менеджар «Трайпла», я іх шмат разоў бачыў у офісе «Трайпла», — распавёў Казбек.

Менавіта гэтымі грашыма разлічвалі пакрыць пытанні і з Андрэем Рабцэвічам, і з іншымі крэдыторамі.

«У студзені я спрабаваў звязацца з гэтымі менеджарамі — праз тэрмінал, які быў мне выдадзены, такі ж, як у Блумберга і Рэйтара. Тры дні не мог звязацца — з-за спраў асабістага характару яны абяцалі звязацца пазней. Потым я даў распараджэнне зрабіць некаторыя плацяжы. Але яны сказалі, што трэба ўтрэсці нейкія пытанні… Потым папрасілі пра асабістую сустрэчу. На наступны дзень яны былі ў Мінску і распавялі, што яны на 20 з лішнім млн даляраў адкрылі пазіцыі, не памятаю з якім плячом, па ўмоўных сігналах. Паперы павялі сябе не так, на пакрыццё пайшлі і астатнія грошы. Я быў у накдаўне. Я вырашыў нікому не гаварыць, спрабаваў сам разабрацца ў сітуацыі», — паведаміў Япрынцаў-малодшы.

Менеджары нагадалі Казбеку пра паперы, пра адказнасць і пра прыватнасць. «Сказалі: «Мы рабілі, як трэба, што не атрымалася — не наша асабістая віна», — працягваў Казбек, адзначыўшы, што кансультаваўся са спецыялістамі, якія пацвердзілі, што грошы не скрадзеныя, а менавіта страчаныя пры няўдалых укладаннях.

«Я ўсё ўзяў на сябе», — рэзюмаваў Япрынцаў.

**Naviny.by**

прапанаваў Арабян.

**«Можа, мне зняць прэтэнзіі?»**

Адзін з пацярпелых — лёгкаатлет Андрэй Міхневіч. Ён аддаў Казбеку Япрынцаву $440 тысяч пад працэнты — проста прынёс у чамадане ў «Трайпл». І атрымліваў каля $2 тысяч працэнтаў штомесяц. Калі аднойчы не атрымаў працэнтаў, па прапанове Юрыя Чыжа напісаў заяву ў КДБ.

А цяпер перадумаў. «Я апошнія дні слухаю і думаю: мне, можа, зняць мае прэтэнзіі? Махлярства ў дачыненні да мяне не было... Я ў заяве напісаў: магчыма, мяне ўвялі ў зман. Але я паслухаў, што яны кажуць, я разумею цяпер, як усё выйшла», — заявіў ён у судзе.

Задумаўся над тым, ці варта было пісаць заяву ў КДБ і іншы пацярпелы — Юры Савяк. Праз ягоныя аўстрыйскія кампаніі круціліся грошы маладых няўдалых бізнэсменаў.

**«У чым твая логіка?»**

«Юра, навошта ты мяне топіш? Сэнс? У чым твая логіка? Не іх [Арабяна і Япрынцава-малодшага — «НН»], а мяне. Я адзін магу вярнуць доўг, гэта ж усім зразумела!» — пытаецца ў яго ў судзе Уладзімір Япрынцаў.

Схему аперацый Япрынцавых злавіць складана. Пампавалі грошы з аднаго месца ў іншае, піраміда. Накруцілі так, што самі заблыталіся. Ці іх заблыталі адмыслова?

Япрынцаў-малодшы сцвярджае, што даверыў свае грошы — 41 мільён — камусьці.

Пры гэтым самім Япрынцавым праз падстаўных людзей давалі ў рост грошы нейкія багатыя ананімы, нейкія зашыфраваныя асобы з-за мяжы праз трэція-чацвёртыя рукі. Ужо ўсплылі ўзгадкі пра нейкую спадарыню, звязаную з «Газпрамам». Там грошы з рук ужо капаюць, гніюць, вось і распіхваюць, куды можна, абы працавалі. Дурныя грошы — вось той Казбек з сябрукамі іх і круцілі падурному, пакуль не правалілася дно.

Калі паказанні дае Япрынцаў-старэйшы — там ужо нейкая псіхалогія ідзе, грэчаская драма: бацька з сынам за кратамі, а пасадзіў іх туды найлепшы сябра жыцця. Эмоцыі.

Але апроч эмоцый ёсць і жалезныя факты. Гіганцкімі сумамі варочалі выпадковыя людзі, якім дзяржаўныя асобы дазволілі праз Беларусь гандляваць нафтай і нафтапрадуктамі.

**Віталь Несцераў;**
**цытаты nn.by, tut.by, naviny.by**

# Іран: падарожжа туды, дзе няма еўрапейцаў

Піша **Аляксей Ластоўскі**.

Пасля майго вяртання з Ірана шмат хто пытаўся: «Як там яно? Вербавалі ў Ісламскую дзяржаву?»

Варта распавесці пра гэту краіну, якая толькі цяпер паступова выбіраецца з міжнароднай ізаляцыі. За тыдзень у падарожжы з сябрам атрымалася пагледзець асноўныя турыстычныя цікавосткі (Тэгеран, Шыраз з Персеполісам, Язд, Ісфахан).

**Як дабрацца**

З Мінска ў Тэгеран лятаюць прамыя рэйсы «Белавія». Квіткі на верасень-кастрычнік каштуюць 385 еўра на чалавека. Аднак мне пашчасціла патрапіць на акцыю, калі ў гонар 20-годдзя «Белавія» можна было набыць квіткі за 90 еўра ў абодва бакі.

Ёсць яшчэ варыянт азербайджанскай авіякампаніі *Azal*, давядзецца ляцець з перасадкай у Баку, але кошт пералёту больш прыемны — 230 еўра за пералёт у кастрычніку.

**Калі ехаць**

Турыстычны сезон у Іране складаецца з двзюх частак: вясна (сакавік-май) і восень (верасень-лістапад), зімы калючыя, улетку ж пануе невыносная спякота.

**Працяг на старонцы 18.**



**Тэгеран — шматмільённая сталіца. Горад перабудоўваўся безліч разоў, і цяпер фактычна не мае канкрэтнага цэнтра.**

## «Беларуская Прастора» шукае супрацоўнікаў

Кампанія Prastora.by і крама «Беларуская Прастора» ў ГЦ «Маскоўска-Венскі» радыя запрасіць самых імпэтных, прыгожых і камунікабельных! І прапанаваць ім працу, якая, акрамя матэрыяльнага ўзнагароджвання, мае яшчэ адзін вельмі істотны бонус — пашырэнне БЕЛАРУШЧЫНЫ ўласнымі рукамі ў камандзе такіх самых патрыётаў і аднадумцаў! Вітаюцца ўменне і жаданне працаваць з людзьмі, веданне беларускай мовы ці вялікае жаданне яе вывучыць, а таксама базавы ўзровень валодання сацыяльнымі сеткамі.

Аплата працы — здзельная і па дамоўленасці.

Свае рэзюмэ можна дасылаць на krama@prastora.by. Або тэлефануйце 029 774-31-00 (Алесь).








## #цэх #hudzilin #kandensat

(4.08.2016—28.08.2016)
Уваход — 5 рублёў

4 жніўня ў прасторы «Цэх» пачынае работу (даступна для наведвання з 5 жніўня) выстава Сяргея Гудзіліна «Кандэнсат». Гэта першая персанальная выстава фатографа «Нашай Нівы», якая аб'ядноўвае серыі розных гадоў.

Выстава стала магчымая дзякуючы праграме падтрымкі маладых мастакоў прасторы «ЦЭХ» і краўдфандынгавай пляцоўкі Talaka.by.

Кандэнсат — (ад лацінскага condensatus — згушчаны) — адлюстроўвае канцэпцыю выставы Сяргея Гудзіліна. У зале плошчай 60 квадратных метраў прадстаўлена 9 праектаў, над якімі Сяргей працаваў на працягу сямі апошніх гадоў. Празмернасць інфармацыі на кожны квадратны сантыметр выставы, складзенай з фотаздымкаў, газетных палос «Нашай Нівы», мультымедыя і інсталяцый, ствараюць насычанае і канцэнтраванае поле.

Выстава «Кандэнсат» з'яўляецца спецыфічнай спробай глядзець на Беларусь вачыма аднаго аўтара. У сваіх інтэрв'ю Сяргей Гудзілін зноў і зноў паўтарае: «Беларусь — адна з самых нязнятых краін свету». Гэта пункт адліку і стратэгія Сяргея Гудзіліна.

Сяргей Гудзілін — беларускі фотажурналіст і дакументальны фатограф. Нарадзіўся і жыве ў Жодзіне. Вучыўся ў ЕГУ па спецыяльнасці «медыя і камунікацыі». У 2005 годзе прыйшоў у аматарскую фатаграфію. Пачынаў сваю прафесійную дзейнасць у якасці спартовага фотажурналіста. У 2011 за здымкі з войска ён атрымаў Гран-пры Belarus Press Photo. З таго ж часу працуе фотажурналістам у газеце «Наша Ніва». Таксама здымаў для The New York Times, National Geographic Magazine, Gazeta Wyborcza, Lenta.ru і іншых замежных СМІ. У 2014 годзе трапіў у спіс 30 перспектыўных фатографаў свету паводле версіі амерыканскага часопіса Phoro Distric News.

**Крымінал сцісла**

**Даверлівая беларуска**

41-гадовая жыхарка Пухавіцкага раёна пазнаёмілася ў фэйсбуку з мужчынам. Хутка іх знаёмства перарасло ў рамантычныя адносіны. «*Nova Gabriele* з Флорыды» расказаў казку: што выйграў тэндар і плыве на караблі падпісваць кантракт з аўстралійскай фірмай. Але па дарозе (у Міжземным моры каля вострава Лесбас) на судна напалі... піраты. І, каб захаваць свае 750. тысяч фунтаў стэрлінгаў новы знаёмы папрасіў даверлівую беларуску атрымаць ад яго імя гэтыя грошы. «За дастаўку пасылкі» яна пералічыла на рахунак у турэцкім банку, які даў ёй махляр, 2290 даляраў ЗША. Пасля гэтага прыйшоў ліст з просьбай перавесці яшчэ 7740 даляраў, бо першай сумы недастаткова. Тым часам *Nova Gabriele* перастаў адказваць, а затым закрыў доступ да сваёй старонкі.

**Накарміла бамжа, а той яе задушыў**

На дачу ў пасёлку «Хімік-1» пад Гродням да 75-гадовай маці прыехаў сын — прывёз прадукты. І знайшоў маці мёртвай. Міліцыя за некалькі дзён знайшла падазраванага — раней не раз судзімага 30-гадовага мужчыну без пэўнага месца жыхарства. Ахвяру ён ведаў некалькі месяцаў і неяк нават дапамог занесці ёй у дом цяжкі пакунак з крамы. Не маючы сродкаў да існавання, прыехаў да пенсіянеркі на дачу і паскардзіўся, што галодны. Жанчына накарміла госця, а той напаў на яе і задушыў. Забраў 50 рублёў і ключы ад гродзенскай кватэры, з якой скраў залатыя вырабы. Затрымалі яго амапаўцы ў прытоне, дзе ён піў гарэлку.

**По справе аб дамоўных матчах затрыманыя пяць футбалістаў**

Двое грамадзян Украіны праз пасярэдніка-беларуса падкупілі гульцоў ФК «Ашмяны», каб тыя прайгралі футбольнаму клубу «Баранавічы» ў першым тайме. «Ганарар» за гэта складаў 2000 даляраў. Падазраванымі, акрамя «заказчыкаў» і «пасярэдніка», прызнаныя пяць гульцоў ФК «Ашмяны». Усе яны затрыманыя.

# Крым і Данбас: высновы для Беларусі

Падзеі 2014 года сталі шокам. Упершыню за 70 гадоў у Еўропе адна вялікая дзяржава сілай і дэманстратыўна забрала частку тэрыторыі суседняй з ёй краіны.

Пры гэтым пэўныя палітычныя колы ўзялі на ўзбраенне ідэю «рускага свету», фальшыва атаясамляючы слова «рускі» — тэрмін, народжаны ў дамангольскую эпоху Усходняй Еўропы, звязаны з кіраваннем княскіх дынастый нарманскага паходжання — з узніклай на сотні год пазней сучаснай расійскай мовай, уплывам Маскоўскага патрыярхата праваслаўнай царквы і палітычным кантролем Крамля.

Тым самым сама ідэя незалежнага існавання беларусаў і ўкраінцаў фактычна была абвешчана варожай для Расіі.

Каб захаваць незалежнасць і тэрытарыяльнае адзінства, Беларусь павінна ўважліва вывучаць падзеі ва Украіне і зрабіць з іх неабходныя высновы.



Рэферэндум у Крыме прайшоў пад поўным кантролем «ветлівых людзей».




Медаль «За вяртанне Крыма» — аперацыя пачалася 20.02.14, калі Януковіч яшчэ быў пры ўладзе.

## Як гэта было ў Крыме

У пачатку 2014 года, выкарыстоўваючы палітычны раскол ва Украіне, расійскія СМІ і спецслужбы пачалі правакаваць аддзяленне Крыма, Данбаса, Адэсы ды іншых рэгіёнаў ад Украіны.

Пад выглядам «самаабароны Крыма» там пачалі дзейнічаць падраздзяленні Сіл спецыяльных аперацый РФ, якія перарэзалі сувязь паўвострава з мацерыком.

Былі захопленыя аэрапорты. А кульмінацыяй спецаперацыі стаў захоп ноччу 27 лютага будынка Вярхоўнай Рады Крыма расійскімі спецназаўцамі без апазнавальных знакаў.

Гэта дало магчымасць уранку абвесціць змену кіраўніцтва аўтаномнай рэспублікі на адкрыта прарасійскае.

Арганізавана супраціўлялася анексіі толькі супольнасць крымскіх татараў, але і яны прыціхлі, калі стала ясна, што сілы няроўныя.

Потым пачаліся буйнамаштабныя аперацыі марской пяхоты, наземных войскаў і ваеннага флоту РФ па блакаванні і раззбраенні ўкраінскіх сіл. Прарасійскія вайскоўцы ўкраінскай арміі пераходзілі на бок праціўніка ці дэзерціравалі. Адкрыта здрадзіў і перайшоў на бок Расіі нядаўна прызначаны камандуючы Ваенна-марскімі сіламі Украіны Дзяніс Беразоўскі.

Паслярэвалюцыйны Кіеў не быў гатовы аддаць загад аб узброеным супраціве праціўніку, баяўся адкрытай вайны. Кіраўніцтва Украіны ацэньвала, што дэзарганізаваныя ўкраінскія часці ў Крыме проста былі б знішчаныя, бо расійскія наземныя войскі, авіяцыя, флот мелі вялізную перавагу.

Масква спачатку афіцыйна ўключыла Крым у свой склад у якасці федэральнай акругі, а 28 ліпеня 2016 года ўключыла Крым у Паўднёвую федэральную акругу.

## Як гэта было на Данбасе

Затое спроба далучыць да Расіі паўднёвы ўсход Украіны — Данецкую і Луганскую вобласці — сустрэла ўзброены супраціў.

У гэтых рэгіёнах эліты належалі да клана звергнутага прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча і даволі эфектыўна кантралявалі насельніцтва, спалучаючы інфармацыйны ўплыў расійскіх тэлеканалаў з мясцовай прапагандай, якая распальвала варожасць да жыхароў іншых абласцей Украіны — пераважна заходніх.

Мясцовае насельніцтва вучылі, што ўкраінцы ў іншых рэгіёнах мала і дрэнна працуюць, што менавіта Данецк і Луганск кормяць усю краіну, што менавіта эліта рэгіёна з апорай на «братэрскую» РФ найлепшым чынам абараняе інтарэсы «шахцёрскага народу».

Ужо ў канцы 2013 года ў Данецкай і Луганскай абласцях пачаліся мітынгі за і супраць прэзідэнта Януковіча, знакам прыхільнасці да Расіі стала «георгіеўская стужка».

Расійскія і мясцовыя падкантрольныя СМІ рэзка падвысілі градус прапаганды супраць украінскіх нацыянальна-дэмакратычных сіл, Еўрамайдану, абзываючы іх нацыстамі. Уцёкі Януковіча з Кіева 21 лютага 2014 года сталі моцным псіхалагічным ударам для насельніцтва рэгіёнаў, якія пераважнай большасцю галасавалі за яго.

Адзінай моцнай «сваёй» сілай для большасці мясцовых жыхароў стала Масква. Да таго ж Масква анексіяй Крыма прадэманстравала сваю магутнасць і слабасць новых уладаў у Кіеве.

Украінская міліцыя і спецслужбы перабывалі ў разгубленасці, а часам, як і ў Крыме, ішлі на супрацоўніцтва з антыўкраінскімі групоўкамі, якія ўжо сталі адкрыта падымаць над адміністратыўнымі будынкамі сцягі чужой дзяржавы.

6 красавіка ў Луганску быў захоплены будынак Службы бяспекі Украіны.

7 красавіка ў Данецку невялікай групай маніфестантаў, сярод якіх былі грамадзяне РФ, абвешчана «Данецкая народная рэспубліка». Пачаліся захопы будынкаў міліцыі, СБУ, раздача зброі «апалчэнцам».

Цэнтральныя ўлады былі нездольныя моцна адказаць на гэта і працягвалі вычэкваць.

12 красавіка група добра ўзброеных людзей захапіла будынкі адміністрацыі і міліцыі ў Славянску, дзе зняла ўкраінскі сцяг і павесіла расійскі.

Толькі 13 красавіка, калі ў Славянску забілі некалькі ўкраінскіх вайскоўцаў, в.а. прэзідэнта Украіны Аляксандр Турчынаў заявіў пра пачатак антытэрарыстычнай аперацыі з выкарыстаннем Узброеных сіл. Аднак жаўнеры, спецназаўцы і міліцыянеры яшчэ доўгі час не былі гатовы эфектыўна дзейнічаць.

16 красавіка ў Краматорску «сепаратыстам» удалося захапіць некалькі адзінак бранятэхнікі ўкраінскай 25-й дэсантна-штурмавой брыгады.

Часам няўдалыя і нерашучыя дзеянні ўкраінскіх сіл паспяхова выкарыстоўваліся ў прарасійскай прапагандзе і толькі распальвалі эмоцыі мясцовага насельніцтва.

Пастаўкі зброі, боепрыпасаў і паліва з Расіі, прыбыццё «добраахвотнікаў» і «дарадцаў» з РФ далі штуршок поўнамаштабным ваенным дзеянням, у якіх загіне каля 10 000 чалавек.

**Аляксандр Гелагаеў**




Не дай бог беларускім дэсантнікам і спецназаўцам апынуцца ў сітуацыі, у якую трапілі іх украінскія калегі.



Падпісанне дамовы пра далучэнне Крыма да РФ.



Захоп гарадской адміністрацыі ў Славянску.

# Трагедыя Данбаса, з чаго ўсё пачыналася: «Усе нашы спробы гаварыць пра расійскую агентуру ў Данецку натыкалася на глухую сцяну»

Размаўляць з уцекачом з рэгіёна, ахопленага вайной, не проста. Але калі гэта чалавек з Данбаса, то востра ловіш, у чым іх перадваенныя рэаліі былі падобныя, а ў чым — не падобныя да нашых, беларускіх. І нельга хаваць галаву ў пясок.

Станіслаў Федарчук — арганізатар культурнага жыцця ў Данецку — расказаў, як выглядаў Данбас перад Майданам і як справа дайшла да вайны.

### «Дужа дурны або дужа смелы»

**— Што значыла, быць украінскім актывістам на Данеччыне?**

— Я цудоўна памятаю тыя часы пры канцы 90-х, калі на пікеты мы выходзілі ўдвох, з жоўта-блакітным ды чырвона-чорным сцягам [украінскі і Украінскай паўстанцкай арміі]. Я казаў тады свайму куму або яго роднаму брату-блізнюку: «Дамаўляюся з адным з вас, а прыйсці можа іншы. Галоўнае, стаю не адзін».

Спачатку нас успрымалі як дзівакоў, якія шукаюць прыгодаў. Але агрэсіі не было.

Курсе на трэцім еду неяк з вучобы. У тралейбусе побач едзе брыгада шахцёраў з шахты «Кастрычніцкая». Яны глядзяць на чырвона-чорны сцяжок на маім пінжаку і кажуць: «У цябе няправільны сцяжок «Шахцёра» [футбольны клуб з Данецка з чорна-аранжавай сімволікай]. Я кажу: «Не, гэта бандэраўскі сцяг — свабода або смерць». Яны ў адказ: «Ты, мабыць, дужа дурны або дужа смелы... Беражы сябе». Так і разышліся.

**— Сітуацыя з украінскай мовай ды нацыянальнымі поглядамі выглядала некрытычна?..**

— Нават за Саветамі сітуацыя выглядала неадназначна. Мой дзед згадваў, што пасля вайны ўкраінскую мову можна было пачуць скрозь: ва ўніверсітэтах, у побыце. Толькі ў 1970-я, калі пачалі масава закрываць украінскія школы, пачаліся праблемы. Некаторыя мае старэйшыя сябры скончалі ўкраінскія вясковыя школы з залатымі медалямі, а пасля не маглі паступіць на расейскамоўны фізмат, бо не ведалі тэрміналогіі. Гэта ўжо рабіла іх «людзьмі другога гатунку». Так і выбудоўваўся стэрэатып пра ўкраінца на Данеччыне: зацюканы аграрый.

Цяперашні сепаратыст, а колішні дэпутат ад Партыі рэгіёнаў Мікола Леўчанка часта крытыкаваў украінскую мову. Пры гэтым я ад знаёмых ведаў, што яго дзед з бабуляй усё жыццё размаўлялі выключна па-ўкраінску. І калі яго бацьку спыталі, чаму сын так ставіцца да мовы і ўсяго ўкраінскага, той адказаў: «Дык сынок грошы зарабляе».

**Дывлюсь я на неба**

Знакамітую ўкраінскую песню «Дывлюсь я на нэбо», якая стала народнай, напісаў у XIX ст. жыхар Славянска Міхайла Пятрэнка — таго самага горада, які спрабаваў захапіць Гіркін.

Дивлюсь я на небо —
та й думку гадаю:
Чому я не сокіл, чому не літаю?
Чому мені, Боже, ти крила не дав?
Я б землю покинув і в небо злітав…

### «Сказаць, што гэта была мова нянавісці — не сказаць нічога»

**— Чаму ж тады сфарміраваліся антыўкраінскія настроі, калі ў Данбаса такое ўкраінскае мінулае?**

— Іх свядома фарміравалі тыя «чырвоныя дырэктары», якія засталіся ў спадчыну ад СССР ды бачылі для сябе выгаду ў захаванні савецкасці. Прыдумлялі страшылкі: маўляў, вас змусяць у хаце размаўляць па-ўкраінску, вас будуць штрафаваць.

Історыя паднялася ў 2004 годзе падчас прэзідэнцкіх выбараў [калі Захад падтрымліваў Ючшанку, а Расія — Януковіча, і расійскія паліттэхнолагі пачалі маляваць Ючшанку і заходніх украінцаў бандэраўцамі, неанацыстамі]. Я быў кіраўніком праграмы назірання за выбарамі па вобласці. Маім абавязкам таксама быў маніторынг мясцовых СМІ... Сказаць, што гэта была мова нянавісці — не сказаць нічога. Найбруднейшая прапаганда ўлівалася ў галовы людзей. Аднолькавыя матэрыялы выходзілі ў 20—30 газетах пад рознымі імёнамі.

Тады я зразумеў: каб змяніць сітуацыю на Данеччыне, трэба дзейнічаць нетрадыцыйнымі метадамі. Усе спробы стварыць эфектыўныя правыя маладзевыя арганізацыі сутыкаліся з процідзеяннем украінскіх спецслужбаў. Яны інтэгравалі сваіх людзей, займаліся шантажом, «падставамі»...

**— Напрыклад?**

— Мой сябар вымушаны быў уцячы ў Нямеччыну, бо яму паўгода перыядычна надзявалі кайданкі, каб змусіць стаць стукачом каля мяне. Ён спачатку зламаўся, а пасля з'ехаў. Праз чатыры гады вярнуўся і расказаў мне пра тое.

**— І ты, нягледзячы на гэта, працягваў дзейнасць.**

— У 2008-м мы разгарнулі кампанію за прысваенне Данецкаму ўніверсітэту імя Васіля Стуса [пісьменнік-дысідэнт часоў Брэжнева, якога замучылі ў савецкім канцлагеры]. Нас падтрымалі праўкраінскія СМІ па ўсёй краіне, прафесура ва ўсім свеце, супраць выступілі затое абсалвет і фракцыя Партыі рэгіёнаў... Кіраўніцтва ўніверсітэта паслужліва звярнулася да пракуратуры з просьбай праверыць 600 сабраных подпісаў на праўдзівасць. Ва ўніверсітэт пачалі ездзіць дэлегацыі камуністаў: «Бандэраўшчына падымае галаву, Стус — антысеміт і русафоб, а Федарчук — мярзота...»

Толькі сёння Данецкі ўніверсітэт нарэшце атрымаў імя Стуса — у выгнанні ўжо.

У 2008 годзе мне ў галаву прыйшла ідэя прывезці ў Данецк сучасных украінскіх паэтаў. На сустрэчу з імі сабралася каля 200 чалавек! Не проста прыйшло, але заплаціла за ўваход!

Каб забяспечыць залу, з адміністрацыяй той установы я быў змушаны спачатку гутарыць па-расейску, не выклікаючы падазрэнняў, што да іх прыйшла маленькая ўкраінская мафія [*смяецца*].

Працяг на старонцы 16.

Меркаванне

# Што рабіць, каб не знікнуць



### Інфармацыйны суверэнітэт

Першай і галоўнай перадумовай для расійскіх дзеянняў ва Украіне ў 2014 годзе была інфармацыйная апрацоўка вялікай часткі ўкраінскага насельніцтва — нацкоўванне адной часткі краіны на другую, наданне гістарычным спрэчкам нейкага звышважнага значэння ў сучасным палітычным жыцці, абсалютызацыя рускай мовы і раздзіманне міфа пра яе пераслед. Расійскія СМІ прыдумалі «бандэраўцаў». Па аналагічнай схеме яны прыдумваюць цяпер «русафобаў» у Беларусі.

З гэтага вынікае перш за ўсё неабходнасць вядзення адпаведнай — вельмі асцярожнай — інфармацыйнай палітыкі. Галоўнай ідэяй гэтай палітыкі павінна быць безумоўная абсалютная каштоўнасць беларускай дзяржаўнай незалежнасці і нацыянальнай культуры.

Палітыкі ўсіх спектраў, асабліва патрыёты, павінны пазбягаць канфрантацыйнай рыторыкі і тым больш абразаў па нацыянальнай, моўнай ці рэлігійнай прыкмеце.

### Заробкі сілавікоў

Правільная эканамічная палітыка павінна забяспечыць узровень жыцця як звычайнага насельніцтва, гэтак і ўсіх людзей, якія працуюць у сілавых структурах і рызыкуюць жыццём дзеля сваёй краіны.

### Хуткасць і аўтаномная абарона

Важна, каб сістэма нацыянальнай абароны магла дзейнічаць нават у перыяд часовай нейтралізацыі працівнікам ваенна-палітычнага кіраўніцтва краіны.

Прычым у выпадку Беларусі аперацыя па нейтралізацыі вышэйшага кіраўніцтва можа быць праведзена замежнай дзяржавай, з яе шырокімі сувязямі ў беларускіх сілавых органах і дзяржаўных СМІ, нават пад выглядам «нацыяналістычнага перавароту», абы была нагода потым увесці войскі для «абароны насельніцтва».

Усе сумесныя вучэнні і словы пра «братэрства па зброі» і «мы разам выстаялі ў мінулай вайне» не павінны замінаць беларускаму жаўнеру ці супрацоўніку міліцыі і спецслужбаў бачыць галоўную мэту — абарону незалежнасці і тэрытарыяльнай еднасці Рэспублікі Беларусь.

Гадаванне войска на прынцыпах ініцыятывы і ідэях нацыяналізму павінна прывесці да сітуацыі, якая выключае перамовы з працівнікам, які перайшоў дзяржаўную мяжу і адмаўляецца скласці зброю.

Кожны вайсковец, ад шарагоўца да генерала, не мусіць чакаць загаду зверху на адкрыццё агню, як чакалі яго ўкраінцы ў Крыме.

Больш за тое, хуткая ініцыятыўная рэакцыя, якая не патрабуе санкцыі зверху, на спробы нейкай групы павесіць чужы сцяг на гарадскую адміністрацыю ці захапіць аэрапорт практычна выключае магчымасць далейшага развіцця «данбаска-крымскага» сцэнару анексіі.

Ідэя непасрэднага і актыўнага супрацы таксама павінна жыць у сэрцы кожнага грамадзяніна.

Сістэма тэрытарыяльнай абароны будзе эфектыўнай тады, калі яна будзе спалучаць ваенна-спартовую падрыхтоўку з заняткамі па гісторыі беларускай дзяржаўнасці.

**Аляксандр Гелагаеў**

# Трагедыя Данбаса, з чаго ўсё пачыналася: «Усе нашы спробы гаварыць пра расійскую агентуру ў Данецку натыкалася на глухую сцяну»

Працяг са старонкі 15.

У Данецку была аўдыторыя, якая хацела ўжывую слухаць Андруховіча або Жадана, украінскі рок, джаз, прыпавесці Лірніка Сашка...

Як палітолаг, я разумею, што культура — гэта найвышэйшая праява палітыкі. Таму як толькі мы пачнём дэманстраваць якасныя прыклады ўкраінскай культуры — з'явіцца і аўдыторыя.

Так, Данецк павяртаўся ў бок Украіны. Пачалі з'яўляцца праўкраінскія дэпутаты ў гарадскіх ды раённых радах.

### Майдан бацькоў

**— А пасля быў Майдан і вайна…**

— Усё пачалося з таго, што мой сябар Сашко выйшаў разам з таварышам з украінскім сцягам пад помнік Шаўчэнку. Ён пабачыў там яшчэ двух чалавек, падумаўшы, што гэта «Антымайдан», які зараз палезе біцца [*смяецца*]. Але тыя падышлі і павіталіся — так іх стала чацвёра.

Першы тыдзень там стаяла выключна моладзь — студэнты. Але далей сталася неймавернае: маладзейшыя паехалі ў Кіеў, а ў Данецку пачалі збірацца зусім іншыя людзі. Гэта была інтэлігенцыя. Гэта былі таксама грэка-каталікі ды праваслаўныя Кіеўскага патрыярхата. Таксама журналісты, старыя актывісты. Пасля — прадстаўнікі мусульманскай грамады з муфціем Саідам Ісмаілам. Гэта ўжо быў Майдан бацькоў, а не дзяцей. Гэта была такая складаная праўкраінская кааліцыя.

**— У 2004-м у Данецку ж таксама быў Майдан, так?**

— Папярэдні Майдан у Данецку скончыўся вельмі дрэнна. У 2004 годзе, калі людзі выйшлі супраць фальсіфікацыі выбараў, іх разагналі з кроўю, з бітамі... І ніякага расследавання тых падзей не было. Усё гэта прайшло міма агульнаўкраінскіх СМІ. Шмат хто памятаў тое, але людзі перасілілі свой страх.

Мой бацька, напрыклад, пачаў хадзіць з-за мяне, бо баяўся за сына. Але яму так спадабалася, што ён пачаў хадзіць і без мяне. Я спачатку быў на кіеўскім Майдане, але пасля зразумеў, што мая місія — быць у Данецку, у сваім горадзе. Бо ў Кіеве заўжды будзе каму стаяць. Ці будзе каму стаяць у Данецку?.. Гэта пытанне.

Моладзь баялася, што ў нас усё здымаецца на камеры, ёсць міліцыя, СБУ і ёсць крымінальнікі, якія могуць рана ці позна па цябе прыйсці. А старэйшыя заставаліся.

Канечне, наш Майдан не быў масавым: збіралася ад 100 да 1000 людзей. Мы не ставілі намётаў, бо разумелі, што гарадскія ўлады выкарыстаюць гэта як нагоду нас разагнаць.



Украінскі сцяг зрываюць у Данецку.



**Станіслаў Федарчук**

нар. у Данецку ў 1981 у сям'і выкладчыкаў. Бацька — украінец, маці — напалову грачанка. Скончыў Данецкі ўніверсітэт. Арганізатар каля 200 украінскіх канцэртаў толькі ў Данецку. Публіцыст. З пачаткам вайны перабраўся з сям'ёй у Кіеў.

### Міліцыя ўцякала

**— Які быў фармат данецкага Майдану?**

— А 12-й збіраюцца тыя, каму зручна ў гэты час. А 18-й і да 22-й сходзіцца Майдан вечаровы. Улада спадзявалася, што Майдан — гэта партыйны праект, і калі скончацца грошы, то ўсе разыдуцца. А Майдан штодня прымаў новыя формы. Спачатку гэта было абгаворванне тэмаў, пра якія гаварылі ў Кіеве. Пасля пачаліся мясцовыя тэмы. Пасля пачаўся збор дапамогі для Кіева — рэчы і прадукты, скідваліся на квіткі тым, хто едзе на Еўрамайдан у сталіцу. Пасля мы пачалі пашыраць улёткі ды стыкеры, створаныя адмыслова для Данецка. Рабілі стужкі і еўрасцягі.

**— Але сутычкі былі?..**

— Праз месяц Майдан пайшоў у першае сваё шэсце па горадзе. Нас суправаджалі цітушкі, спрабавалі нападаць, закідвалі яйкамі. Але ўжо другім разам яны атрымалі адпор і зразумелі, што людзі, якія выглядаюць зусім не па-баявому, умеюць за сябе пастаяць.

Тады ўпершыню да нас прывезлі прадстаўнікоў трох баксёрскіх клубаў, якія працавалі ў звязцы з крыміналам у Горлаўцы. Імі кіраваў тады старшыня армянскай дыяспары. Ён цяпер у міжнародным вышуку... Калі яны прыходзілі — міліцыя проста ўцякала. Мне даводзілася браць міліцыянтаў — правай рукой аднаго, левай другога, паміж імі трэці — са словамі: «Стойце, хлопцы, не разбягайцеся! Хоць часам адпрацоўвайце заробак!»

### Пацалуй туфлі уркі

**— Чым ваш Майдан адрозніваўся ад львоўскага ці кіеўскага?**

— Усё музычнае суправаджэнне, зазвычай, гэта былі мы самі. У нас не было суперсцэны або канцэртнай праграмы. Адзіныя, хто пагадзіўся да нас прыехаць, — гэта гурт «Гайдамакі» ды Жадан з «Сабакамі ў космасе». На гэтыя канцэрты прыязджалі актывісты з еўрамайданаў з усёй вобласці... Міліцыя ставіла мінімальную ахову. У музыкаў ляцелі камяні, яйкі, прэзерватывы з вадой і фарбай. Але людзі, якія стаялі на марозе не першы дзень, былі шчаслівыя, бо да іх прыехаў хоць нехта, хоць нехта звярнуў увагу.

Яшчэ адна непрыемная адметнасць у тым, што аніводзін украінскі палітык не прыехаў. Хоць у горад прыязджаў і Клічко, і іншыя... Яны хадзілі да Рэната Ахметава, да кіраўніка абласной рады, але прыйсці да ўкраінцаў, якія стаяць пад Шаўчэнкам, — не. Яны ж бізнэсмены ў першую чаргу, а заўжды існавала дамова, што Данеччына і Луганшчына аддадзеныя ў рабства Партыі рэгіёнаў. Таму, калі хочаш там працаваць, — прыйдзі ды пакланіся ў ногі, пацалуй туфлі нейкага уркі ды скажы: «Як захочаце, так і будзе». І кропка.

**— Як скончыўся данецкі Майдан?**

— Пачынаючы з 22 студзеня, Дня саборнасці Украіны, Партыя рэгіёнаў склікала сваіх байцоў — афганцаў, казакаў, былых міліцыянтаў — і захапіла наша месца пад Шаўчэнкам.

Тады мы паставілі малітоўны намёт на беразе Кальміуса. Там была распачатая «Малітва за Украіну». Гэта было грандыёзнае падзвіжніцтва. Святары Кіеўскага патрыярхата, грэка-католікі, мусульмане, юдэі, пратэстанты разам маліліся пад украінскім сцягам. Нават калі рускія ўвайшлі ў Данецк, гэты марафон трываў. Некаторых святароў катавалі, у тым ліку электрычнасцю... Падпольна малітоўны марафон трываў яшчэ пяць месяцаў.

На пачатку сакавіка далучыліся людзі, якія не падтрымлівалі ідэі Майдану, але былі шакаваныя акупацыяй Крыма і трымаліся праўкраінскай пазіцыі. Тады адбыўся першы мітынг пад стэлаю Арханёла Міхаіла. Разгарнулі ўкраінскія сцягі, прыйшло каля 5 000 людзей. Мясцовая ўлада выбрала пазіцыю чакання: маўляў, хай збіраюцца...

### Тады загінуў Чарняўскі

**— А што сепаратысты?**

Яшчэ пры канцы лютага ў Данецк пачалі з'язджаць людзі з Расіі. У Данецку па-руску гавораць спецыфічна, таму ўсю гэтую публіку можна было проста вылічыць — па вымаўленні. Яны хадзілі з шалікамі зборнай Расіі. Ад іх веяла агрэсіяй за кіламетр: яны адразу былі настроеныя ламаць ды забіваць.

Калі 13 сакавіка адбыўся чарговы мітынг за Украіну, цітушкі дачакаліся канца і напалі на самаабарону Майдану. Гэтых 40 людзей забівалі ў рэальным часе — ёсць кадры на «Ютубе», на якіх міліцыя глядзіць, як натоўп акружае хлопцаў, закідвае фаерамі, выбуховымі пакетамі, б'юць бітамі. І толькі калі чалавек ляжыць у лужыне крыві, міліцыянт павольна падыходзіць і кажа: «Ну, гэтаму досыць».

Тады загінуў Дмытро Чарняўскі, 19-гадовы студэнт з Данецка, які вучыўся ў Львове. Яму прабілі сэрца заточкай.

Калі Славянск заняла банда Гіркіна, людзі зняверыліся. Пачалі масава з'язджаць з Данецка, частка пайшла ў добраахвотніцкія батальёны. Толькі старэйшыя людзі заставаліся. Бо пражыць на падачку для перамешчанай асобы, асабліва калі маеш хранічныя хваробы, немагчыма. Яны дагэтуль застаюцца ў Данецку — закладнікамі, фактычна.

**— Як ты цяпер ацэньваеш падзеі той вясны?**

Я часам думаю... Біблія кажа пра Ноя, адзінага праведніка, якога Бог выратаваў ратаваць. У Данецку засталіся ўкраінскія праведнікі. Пакуль у Данецку ёсць хоць адзін жывы ўкраінец — у турме, у падвале, хаваецца — датуль гэта ўкраінская зямля, за якую трэба змагацца.

### «Лайфньюз» і «Радыё тысячы ўзгоркаў»

**— Як ты ацэньваеш ролю расейскіх СМІ у гэтай трагедыі?**

— Вельмі часта прыводжу прыклад Руанды і «Радыё тысячы ўзгоркаў», калі да суду прыцягнулі кіраўніцтва радыёстанцыі, роля якой у арганізацыі генацыду была першаснай. Японскі радыёфізік наклаў мапу зоны прыёму гэтай радыёстанцыі на мапу Руанды. І аказалася, што там, дзе гэтае радыё прымалася, адбыліся самыя страшныя пагромы, было забіта найбольш людзей.

Прапаганда нянавісці ў расійскіх СМІ адзін у адзін нагадвала работу «Радыё тысячы ўзгоркаў».

І тое, што за два гады вайны не аднюлена ўкраінскае вяшчанне нават на вызваленых тэрыторыях, — гэта адна з найбольш слабасцей украінскай улады.

**— Наогул, ты меў нейкае прадчуванне, што падобнае ў Данецку магчыма?**

— У 2001 годзе сярод ночы я напісаў навелу, якая называлася «Сталіца саўкоў і Юрый». Гэта была навела пра маладога хлопца, які жыве ў Данецку і ваюе ў партызанскім атрадзе, які змагаецца з расійскімі акупантамі. Мясцовая ўлада сустрэла тых з хлебам-соллю, СБУ і міліцыя перайшлі на бок ворага... Горад аточаны блокпастамі, а Юрый атрымлівае загад вывесці апошнюю сваю групу да Днепрапятроўска.

Да вайны заставалася 12 год, а навела пра тое, як украінцы змагаюцца за Данецк, ужо была напісаная.

### На глухую сцяну

**— Калі было прадчуванне, то чаму…**

— На жаль, усе нашы спробы гаварыць пра расійскую агентуру ў Данецку, грукаць ва ўсе дзверы, натыкалася на глухую сцяну. Незалежна ад таго, хто быў прэзідэнтам, прэм'ерам ці кіраўніком абласной адміністрацыі. Нас заўсёды называлі «маргіналамі, якія нешта сабе прыдумляюць». Аказалася, што мы гаварылі праўду.

**— Сёння ўкраінская ўлада зразумела тыя памылкі?**

— Наступ Пуціна на Данбас стаўся яшчэ і таму, што Данбас памалу, але дрэйфаваў у бок Украіны. Гэты рух быў спынены акупацыяй. Цяпер мы страцілі магчымасць рухацца паволі. Таму, з аднаго боку, усё зразумела і апошняму ёлупу, з другога — я не бачу ў вачах улады разумення, што Данеччына і Луганшчына былі, ёсць і будуць украінскім памежжам. Памежжа — вельмі спецыфічная рэч. Там ты маеш трымаць войскі, маеш выхоўваць у мясцовых лаяльнасць да сябе, маеш усё разжоўваць і тлумачыць. Інакш з твайго фронту гэта можа пераўтварыцца ў тыл ворага.

Гутарыў Алесь Кіркевіч

# 7 фактаў пра чорныя дзіркі

Піша Віктар Малышчыц.

З таго моманту, як вучоныя ўпершыню прадказалі існаванне чорных дзірак, цікавасць да гэтых аб'ектаў толькі расце. Журналісты і фантасты палохаюць нас сустрэчамі з імі, прапануюць выкарыстоўваць іх для падарожжаў у прасторы і часе, нават хочуць вырабляць іх у зямных лабараторыях... Таму мы вырашылі сабраць самыя важныя факты пра гэтыя дзівосныя аб'екты.

## 1. Яны ўтвараюцца, калі паміраюць зоркі

Як вядома, унутры зорак, дзякуючы ператварэнню вадароду ў гелій, выдзяляецца каласальная колькасць энергіі. Магутнае выпраменьванне з нетраў зоркі аказвае супраціўленне сілам прыцягнення і не дае зорцы «схлопнуцца». Але калі запасы паліва ў цэнтры заканчваюцца, ціск выпраменьвання слабее і зорка пачынае хутка сціскацца. Далейшы яе лёс залежыць толькі ад масы. Напрыклад, наша Сонца ператворыцца ў шчыльнага белага карліка памерам з Зямлю, а крыху цяжэйшыя зоркі ўвогуле сціснуцца да памераў Мінска — атрымаюцца так званыя нейтронныя зоркі.

Але калі паміраючая зорка аказалася яшчэ цяжэйшай, то ва ўсім Сусвеце не знойдзецца ніякага рэчыва, якое будзе здольнае спыніць такую моцную гравітацыю. І зорка сплюшчыцца ў надзвычай кампактны аб'ект з фантастычнай шчыльнасцю, адкуль не зможа вырвацца нават святло.

## 2. У цэнтрах галактык ёсць гіганцкія чорныя дзіры

Аднак такія экзатычныя аб'екты могуць з'яўляцца не толькі ў выніку смерці зорак. Калі ўтвараліся галактыкі, то ў іх цэнтрах накоплівалася столькі рэчыва, што яно пад сваёй вагой магло таксама сціскацца ў чорныя дзіркі. Толькі памеры такіх дзірак атрымліваліся ўжо зусім іншымі.

Першы падобны аб'ект астраномы адшукалі ў цэнтры Млечнага Шляху. У самыя лепшыя тэлескопы можна ўбачыць, што некалькі зорак хутка абарочваюцца вакол нейкага пункта, у якім зусім нічога няма. Разлікі паказалі, што маса гэтага цэнтра павінна перавышаць масу Сонца ў 4 мільёны разоў. Такая маса і зусім не свеціцца? Адказ адзін — гэта агромністая чорная дзірка.

Нягледзячы на тое, што журналісты часам называюць гэты аб'ект «самым страшным забойцам у Сусвеце», ніякай небяспекі ён для нас не ўяўляе. Да таго ж існаванне чорных дзірак у цэнтрах галактык у свой час дало штуршок утварэнню зорак, таму атрымліваецца, што меркаваныя забойцы, наадварот, могуць даваць жыццё.

## 3. Яны скрыўляюць прастору і нават час

Мы ведаем, што святло не можа пакінуць паверхню чорнай дзіркі. Але гэта адбываецца не таму, што моцная гравітацыя прыцягвае святло, а сама прастора каля дзіркі скрыўляецца настолькі, што пэўная яе частка проста ізалюецца ад навакольнага асяроддзя. Таму мы і не можам бачыць, што знаходзіцца пад умоўнай паверхняй чорнай дзіркі. Скрыўляецца прастора і каля гэтага аб'екта: напрыклад, прамень святла, які праходзіць паблізу паверхні дзіркі, таксама адхіліцца ад першапачатковага шляху на пэўны вугал.


За адным з пылавых аблокаў у самым яркім месцы Млечнага Шляху і хаваецца чорная дзірка.


Скрыўленне святла чорнай дзіркай паводле мадэлявання на камп'ютары.


Пасля пралёту каля чорнай дзіркі зорка G2 ператварылася ў гіганцкі язык плазмы.

Скажаецца каля чорных дзірак і час. Калі мы адправім туды даследчыка-камікадзэ і будзем назіраць за ім з Зямлі, то ўбачым, што ён рухаецца ўсё павольней і павольней. А ў момант перасячэння паверхні чорнай дзіркі ягоны час увогуле спыніцца для нас. Праўда, убачыць гэта мы не зможам, бо тыя светлавыя прамяні для нас ператворацца ў доўгія радыёхвалі. У той жа час для няшчаснага эксперыментатара ўсё навокал будзе паскарацца, і ў выніку перад падзеннем ён убачыць ледзьве не ўсю будучыню Сусвету.

## 4. Чорныя дзіркі — не касмічныя пыласосы…

У многіх фантастычных творах чорная дзірка з'яўляецца ніадкуль і пачынае метадычна ўсмоктваць усё, што сустрэне на сваім шляху. Але наўрад ці такі сцэнар калі-небудзь можна сустрэць у рэальным свеце. Адзінае, ад чаго залежыць сіла гравітацыі, — гэта маса самога аб'екта. Калі зоркі не ўсмоктваюць у сябе ўсё сваё наваколле, то і ўтвораныя з іх чорныя дзіркі не стануць займацца тым жа.

Адзіная сітуацыя, калі чорная дзірка здольная вас забіць, — гэта сутыкненне практычна лоб у лоб. Але космас — гэта бяскрайняя пустэча, і сустрэцца там дзвюм зоркам амаль немагчыма.

## 5. … але яны могуць ператварыць вас у спагеці

«Спагеціфікацыя» — гэта не жаргон, а навуковы тэрмін. Справа ў тым, што сіла прыцягнення залежыць ад адлегласці. І калі нейкі аб'ект наважыцца наблізіцца да чорнай дзіркі, то на яго розныя часткі будуць дзейнічаць розныя сілы. У выніку дзіра расцягне гэты аб'ект, ператварыўшы ў «спагеці».

Так нядаўна здарылася з зоркай G2, якая праляцела занадта блізка ад чорнай дзіркі ў цэнтры нашай Галактыкі. Прылiўныя сілы выцягнулі з зоркі доўгі струмень рэчыва, і толькі цудам цэнтральная яе частка ацалела.

## 6. Не такія яны ўжо і чорныя

Нават школьнікі ведаюць, што чорныя дзіркі ўсё паглынаюць, але нічога не аддаюць назад. Але вядомы астрафізік Стывен Хокінг яшчэ 40 год таму паказаў, што яны могуць выпраменьваць некаторыя віды часцінак. І хоць фактычна гэтыя часцінкі нараджаюцца не ў нетрах чорнай дзіркі, а побач з ёй, можна сцвярджаць: гэтыя аб'екты могуць губляць масу і энергію.

## 7. Чорныя дзіркі могуць быць нават мікраскапічнымі

Фізіка не забараняе існаванне чорных дзірак абсалютна любых памераў. Так, тэорыя прадказвае, што ўвесь Сусвет павінен быць запоўнены маленькімі чорнымі дзіркамі, якія ўтвараліся адразу ж пасля Вялікага Выбуху. А ў звышмагутных паскаральніках можна нават стварыць такія аб'екты памерам з элементарную часцінку.

Шмат шуму ў прэсе выклікаў запуск Вялікага адроннага калайдара, бо хтосьці пусціў чутку, быццам бы там пачнуць утварацца чорныя дзіркі, якія спачатку ўсмокчуць сам калайдар, потым — усю Зямлю і ў рэшце рэшт знішчаць увесь Сусвет. Вядома, самі вучоныя з гэтага маглі толькі пасмяяцца, бо для такога сцэнару папросту не хопіць энергіі — з космасу ўвесь час прылятаюць часцінкі з нашмат большымі энергіямі, але мы ўсё яшчэ жывыя.

Адзінае, што добра ўсмоктваецца ў Вялікім адронным калайдары, — гэта вялізныя бюджэтныя грошы. Магчыма, таму да яго спрабуюць прыцягнуць увагу нават такімі экзатычнымі спосабамі.

## Сцісла

### Падчас вывучэння сопляў навукоўцы адкрылі новы від антыбіётыкаў

Аналізуючы бактэрыі, якія жывуць унутры чалавечага носа, даследчыкі знайшлі рэчыва «лугдунін», здольнае змагацца з інфекцыямі, спараджаць супербактэрыі. Навукоўцы з Цюбінгенскага ўніверсітэта ў Германіі мяркуюць, што наша цела — невычэрпная крыніца новых лекаў. На мікраскапічным узроўні ўнутры яго ўвесь час ідзе барацьба паміж канкуруючымі відамі бактэрый. І адзін з відаў зброі ў гэтай барацьбе — антыбіётыкі.

Навукоўцы выявілі, што людзі з канкуруючай бактэрыяй *Staphylococcus lugdunensis*, якая жыве ў іх насах, з меншай верагоднасцю будуць атакаваныя небяспечным залацістым стафілакокам. Затым яны выкарысталі некалькі штамаў генетычна мадыфікаванай *Staphylococcus lugdunensis*, каб высветліць, якая менавіта частка яе генетычнага кода аказалася вырашальнай у барацьбе за месца ў носе.

«Цалкам магчыма, што гэта даследаванне — першае ў чарадзе многіх, якія даказваюць, што бактэрыі ўнутры нашага арганізма могуць выпрацоўваць новыя антыбіётыкі з новымі хімічнымі структурамі», — лічыць прафесар Колін Гарнер, кіраўнік брытанскага Цэнтра даследавання антыбіётыкаў.

«Напрыклад, — кажа ён, — нядаўна былі апублікаваны даклад пра тое, што ў мужчын з барадой менш шкодных мікраарганізмаў (уключаючы метыцылінрэзістэнтны залацісты стафілакок), чым у мужчын, якія голяцца».

### У Мінску з'явіцца навукова-папулярны музей з планетарыем і антыгравітацыяй

Гэта будзе найбуйнейшы такі музей у краіне.

Прастора будзе падзеленая на тэматычныя зоны, дзе растлумачаць прынцыпы дзеяння акустыкі, механікі, аэрадынамікі і магнетызму. У антыгравітацыйным пакоі ў наведвальнікаў будзе ствараць адчуванне, што яны падаюць і не могуць утрымаць раўнавагу, у лазерным лабірынце трэба будзе дабрацца з аднаго пункта ў іншы, не закрануўшы прамянёў.

Называцца ён будзе «Квантум» і зойме цокальны паверх цэнтра «Тытан», што ля станцыі метро «Пятроўшчына».

Адкрыццё плануецца на пачатак восені.

СМ

# Іран: падарожжа туды, дзе няма еўрапейцаў

Працяг са старонкі 13.

У 2015 годзе на поўдні краіны была зафіксавана тэмпература 73 градусы па Цэльсію, блізка да сусветнага рэкорда!

Улетку адзіны варыянт — хавацца ў прахалодных і цяністых дварыках, якія маюцца практычна ў кожным гатэлі і рэстарацыі. Без галаўнога пакрыцця вельмі цяжка і ў маі, але ў цэлым — ніякіх экстрэмальных умоваў.

Іншы істотны нюанс — рэлігійныя святы. Перадусім варта пазбягаць Наўруза (персідскі Новы год) і месяца Рамадан.

Мы трапілі ў траўні на дзень народзінаў імама Махдзі, і нават у гэтым выпадку некалькі дзён была спынена камунікацыя па краіне цягнікамі і самалётамі.

## Віза

Для беларусаў кошт візы — 15 еўра. Можна адразу зрабіць па прылёце ў аэрапорце (тады будзе даражэй), але я вырашыў не рызыкаваць, таму зрабіў загадзя ў іранскай амбасадзе ў Беларусі. Запрашэнне не патрэбнае, дастаткова купленых авіябілетаў і броні гатэля, неабавязкова аплачанай.

Мытны кантроль у аэрапорце пераважна для сваіх, на замежных турыстаў асабліва не зважаюць, нашыя рэчы ніхто не надглядаў, але рызыкаваць нельга. Законы ў Іране суровыя, нават алкаголь везці забаронена.

## Дзе спыніцца

Вось якраз з браніраваннем гатэляў давялося патурбавацца. У Іране не працуюць міжнародныя карткі *Visa* і *Mastercard*. Як вынік, гатэлі практычна не прадстаўленыя ў анлайн-сістэмах браніравання. Але забраніраваць гатэлі загадзя можна, толькі даводзіцца працаваць старым метадам — шукаць у інтэрнэце кантакты і пісаць электронныя лісты.

Жытло якраз і было асноўным пунктам расходаў. Танны начлег знайсці складана. Мы падарожнічалі ўдвох, што дазваляла істотна эканоміць, але ўсё роўна кошты былі, хм, сярэднееўрапейскімі.

Самым дарагім аказаўся Тэгеран, дзе за нумар мы заплацілі $70 даляраў (але там былі добрыя сняданкі, дый пасялілі нас у нумар а 5-й уранку, адразу пасля прылёту). У іншых месцах — недзе $40—50 даляраў за нумар на дваіх.

Умовы паўсюль былі досыць камфортныя, адзінае, што часам напружвала — адсутнасць «еўрапейскага» ўнітаза, але да Азіі трэба прывыкаць.

## Грошы

У Іране заблытаная сістэма нацыянальнай валюты, якую даўно варта было б памяняць. Афіцыйная валюта — рэалы, але цэны звычайна лічацца ў туманах (1 туман = 10 рэалаў). То бок, калі дзесьці напісаная цана, то яна — у туманах. У турыстычных месцах часам пішуць і ў рэалах, што яшчэ больш дадае хаосу ў гэтую сістэму. Арыентавацца ў гэтым на практыцы складана, некалькі дзён даводзіцца адаптавацца.

Мяняць грошы лепш у абменніках, першы з якіх — прычым з добрым курсам — можна знайсці на другім паверсе міжнароднага аэрапорта. Даводзілася пару разоў мяняць грошы ў «мянялаў», з імі можна і патаргавацца. Але гэты варыянт усё ж нелегальны. Таксама шмат дзе можна разлічвацца ў далярах і еўра, смела гэта можна рабіць у гатэлях, часам і ў крамах.

## Мова

Можна перамаўляцца па-англійску, але складана. Частка моладзі размаўляе, асабліва ў Тэгеране, супрацоўнікі гатэляў таксама валодаюць англійскай. Большая ж частка насельніцтва нагадвае беларусаў — ні бэ ні мэ.

З таксістамі звычайна даводзіцца дамаўляцца жэстыкуляцыяй і дэманстрацыяй адпаведнай купюры. Непераадольных праблем няма.



Антычны Персепаль быў знішчаны Аляксандрам Македонскім. Дабрацца да яго на таксі з Шыраза каштуе каля $20.

## Транспарт

Унутры краіны можна перасоўвацца самалётамі, цягнікамі і аўтобусамі. Чыгуначныя лініі шмат дзе толькі будуюцца, у інтэрнэце супярэчлівая інфармацыя пра наяўныя маршруты, давяраць варта толькі сайту Іранскай чыгункі (які не мае англамоўнай версіі, і патрэбна асвойваць навыкі гугл-перакладу з фарсі).

Але іранскія аўтобусы — гэта супер! Па-першае, вельмі ўтульныя, вялізныя і мяккія крэслы, шмат прасторы, ёсць куды высунуць ногі. Ёсць і VIP-аўтобусы, больш камфортныя і крыху даражэйшыя, але і звычайныя аўтобусы пакінулі толькі прыемныя ўражанні. Заўжды даюць нейкі пачастунак (сок і печыва).

Квіткі танныя — дыстанцыю 700 км пераадолееце за $10 даляраў на VIP-аўтобусе.

Але доля хаосу і тут ёсць. У Іране працуюць некалькі прыватных кампаній, якія ажыццяўляюць аўтобусныя перавозкі, і ў выніку атрымаць нейкі агульны і стабільны расклад цяжка. Па аўтавакзале ходзяць кіроўцы і выкрыкваюць кірунні сваіх маршрутаў.

У Тэгеране мы вырашылі засвоіць такі від транспарту, як метро. Вельмі зручны і вельмі танны шлях перасоўвання, асабліва ў такім агромністым горадзе. Адзінае, што народу на метро перасоўваецца свет (у Тэгеране — 15 мільёнаў насельніцтва), да таго ж варта сачыць, каб не патрапіць у вагоны, зарэзерваваныя выключна для жанчын.

У Іране шмат таксі. Складваецца адчуванне, што палова аўтамабіляў на вуліцах (мясцовы трафік — гэта асобная тэма) — гэта таксі. Таму выклікаць таксоўку — гэта проста падняць руку, і праз 10 секунд ля вас абавязкова спыніцца машына. Але цэны спачатку называюць неадэкватныя — даводзіцца таргавацца ў стылі ўсходніх базараў, з вылупліваннем вачэй, істэрыкамі і скандальнымі развітаннямі.

## Дарожны рух

Складваецца ўражанне, што ў Іране адсутнічаюць правілы дарожнага руху. Ці на іх ніхто не зважае. Адаптавацца да гэтага складана, асабліва цяжка пераходзіць вуліцу ў Тэгеране, дзе трэба лавіраваць з адчайным выглядам сярод бясконцай плыні машынаў, кожны пераход вуліцы — як рызыкоўная і авантурная выправа. Мне нават цяжка ўявіць, колькі людзей становяцца ахвярамі такога трафіку, у Шыразе мы бачылі маладога хлопца, збітага машынай.

Падаецца, гэта самая рызыкоўная частка падарожжа ў Іран, бо ў іншых адносінах гэта вельмі бяспечная краіна (калі не правакаваць мусульманскія пачуцці і не фатаграфаваць вайсковыя будынкі).

## Дрэс-код

Да свайго выгляду трэба ставіцца ўважліва, бо для Ірана дрэс-код — гэта не толькі пытанне мясцовых традыцый, яно было і на вастрыні барацьбы паміж шахамі дынастыі Пехлеві і мусульманскім духавенствам.

Выгляд тут — гэта пытанне і рэлігійнае, і палітычнае. Асабліва строга сочаць за выглядам жанчын, нельга паказваць агаленыя рукі ці ногі, таму варта адразу забыцца пра кароткія спадніцы. Галава ў жанчыны мусіць быць прыкрытая хусцінкай-хіджабам, хоць некаторыя асабліва праверныя носяць і паранджу. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца і на замежных турыстак, тут няма выключэнняў.

Мужчынам крыху прасцей: шорты непрымальныя, але можна хадзіць у кашулях з кароткімі рукавамі ці майках. Гэта ўжо адхіленне ад традыцыйных нормаў, але ў буйных гарадах на гэта асабліва не зважаюць, тым больш калі вы замежны турыст. Толькі ў вёску ці Кум (святы горад і асяроддзе шыіцкіх фундаменталістаў) лепш так не сунуцца.

## Алкаголь

Продаж алкаголю ў Іране цалкам забаронены. Праўда, строгасць сухога закону заўжды выклікае кантрабандную вытворчасць і гандаль, тое ж і ў Іране. Пры вялікім жаданні цішком спіртное можна набыць, але навошта?

Мне, як вялікаму аматару піва, даводзілася складана. У Іране вырабляецца вялікая колькасць піва, але — выключна безалкагольнага. Гэта соладавыя напоі, якія толькі вельмі аддалена нагадваюць звычайнае піва. Апошнім часам сталі вельмі папулярныя гатункі піва з рознымі дадаткамі — лімон, ананас, трускаўкі і г.д. Імі добра спаталяецца смага, але асабліва смакаваць не даводзіцца. Таму спажыванне алкаголю для побыту ў Іране можна смела выкрэсліваць.

## Прадукты

Смачныя і недарагія, але не вельмі разнастайныя.

Можна павячэраць у турыстычнай рэстарацыі ў цэнтры горада ў межах $7—8, у іншых месцах — яшчэ танней. Галоўная страва — гэта рыс і кебаб, у шматлікіх варыяцыях. Ёсць лакальныя асаблівасці, напрыклад шыразскі рыс, прыгатаваны па адмысловым рэцэпце, але агулам за тыдзень іранская кухня надакучвае.

Скрозь можна набыць свежаспечаны хлеб, фісташкі, розную садавіну, сумаваць не даводзіцца. Шмат і звычайнага фастфуду, з піцамі і гамбургерамі.

## Цэны ў музеях

Вось тут хаваецца галоўная засада. У 2013 годзе ў Іране правялі агульную рэформу ўсіх музеяў і культурных мясцінаў, з уніфікацыяй цэнаў, якая найбольш балюча б'е менавіта па замежных турыстах.

Сістэма досыць простая: паўсюль дзве цаны, першая — для іранцаў, другая — для замежных турыстаў. Для замежнікаў цэны ў 10 разоў (!!!) большыя. Напрыклад, квіток у нейкі музей ці прыгожы сад для сваіх выходзіць $1—1,5 даляра, а для замежніка — ужо $10—15.

Часам цэны абсалютна не адпавядаюць вартасці тых мясцінаў, за якія здзіраюцца такія драконаўскія зборы.

Агулам Іран — не вельмі танная краіна. Па ўзроўні даходаў насельніцтва яна насамрэч не вельмі адрозніваецца ад Беларусі, таму на асаблівую халяву разлічваць не даводзіцца. Але ёсць асаблівыя адчуванні, калі патрапляеш у краіну, дзе замежных турыстаў амаль няма. Багацце ж культуры і гісторыі Ірана — надзвычайнае!

**Білеты**

«Белавія» на верасень-кастрычнік каштуюць 385 еўра на чалавека. Азербайджанскі *Azal* з перасадкай у Баку прапануе за 230 еўра.

**Мянялы**

ў Іране асабліва не хаваюцца, як у нас у ліхія 90-я. Стаяць сабе хлопцы з пачкамі купюр, прапаноўваюць добры курс, але пры гэтым заўжды налічваюць сабе салідную камісію, за памер якой можна таргавацца. Але вулічны абмен я не рэкамендую, як нелегальны.

**Часам аўтобусы спыняюць**

вайскоўцы і правяраюць на наяўнасць бомбаў, але пасля апошніх падзей у Еўропе і такім мерам перасцярогі няма чаго здзіўляцца.

**У метро няма дакладнасці**

звыклай для нас, еўрапецаў. Мапы метро на станцыях проста не адпавядаюць рэчаіснасці. Большменш адэкватныя мапы, якія вісяць у вагонах метро, але і там пазначаныя станцыі, якія будуюцца альбо зачыненыя.

**У горадзе Язд**

невялікім пустэльным горадзе, аказаліся надзіва сумленныя і адказныя таксісты, але машыны ў такім дабітым і страшэнным стане! Дзіва, што яны не развальваюцца на дарозе.

**Адэкватны Персепаль, неадэкватныя палацы**

Неадэкватнай выглядае сістэма цэн за ўваход у вялікія палацавыя комплексы ў Тэгеране, калі на кожны асобны будынак трэба браць асобны білет, і ў выніку зведванне ўсяго комплексу каштуе 20—40 даляраў. І калі пры зведванні Персепаля ўсё выглядае адэкватна, то часам уваход у нейкі невялічкі мясцовы музей каштуе як квіток у Луўр.



Вароты Карана ў Шыразе.

**Аляксей Ластоўскі** (нар. 1979, Паставы) — кандыдат сацыялагічных навук, супрацоўнік Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера». Адзін з арганізатараў штогадовага Кангрэса даследчыкаў Беларусі. Каардынатар Беларускага калегіума.

# Невядомая вайна. Сагановіч і беларуская гістарыяграфія

Трывожны вецер на дарозе, бясконцая паходная песня. Даследаванне Генадзя Сагановіча «Грунвальд у беларускай гісторыі. Спроба разбору палітычнага міфа» — пра вайну in so many different ways.

«Невядомая вайна» Генадзя Сагановіча ў 1995-м падсумоўвала досвед магутнай хвалі беларускай «адраджэнскай гістарыяграфіі», хаця сам аўтар, наколькі можна меркаваць, ставіўся да гэтай традыцыі гісторыяпісання супярэчліва (было супрацоўніцтва з Уладзімірам Арловым, былі роспачныя тэксты ў Дубаўцовай «Нашай Ніве»). У далейшым гэты навукова-папулярны твор стаў адным з сімвалаў гістарыяграфіі эпохі нацыяналістычнай мабілізацыі. *Must read* пачаткоўца ў беларушчыне. Абавязкова даведацца пра тагачасных партызанаў, пра кожнага другога — усю праўду пра Расію.

Праз 20 гадоў Генадзь Сагановіч зноў прапануе свайму чытачу невядомую вайну, але зусім іншага роду. Можа здацца, што гэта пра Вялікую вайну 1409—1411, пра Грунвальд ці пра крыжакоў увогуле — гэта хіба. Пра тое, што Грунвальд — спецыфічнае спараджэнне інтэлектуальнай дынамікі нашага рэгіёна ў XIX і XX стагоддзях («крывавыя землі»), Сагановіч піша даўно. На некалькіх узроўнях тэксту «Грунвальда...» разгортваецца сучасны канфлікт.

Гэта пра вайну паміж рознымі тыпамі навуковай творчасці, паміж рознымі стратэгіямі пошуку, паміж стылямі і мэтамі. Ніжэй я паспрабую даць агульны агляд зместу і характару гэтага канфлікту, але ягоную сутнасць можна выразіць вельмі коратка, напрыклад, праз рэпліку з адной брытанскай камедыі: «Выбачай, што выкарыстоўваю доўгія словы, Бэрці».

### Прыгожыя даследаванні на прыгожай эмпірыцы

Уласна грунвальдскі сюжэт становіць першы ўзровень манаграфіі. Варта мець на ўвазе, што гэта не ўласна «мінуўшчына», а вялізны аблог культурнага архіва, які адлюстроўваў і захоўваў памяць пра падзею ў XVI—XXI стагоддзях. Гэта дыскурсіўная эмпірыка. Яна



Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Год V. Вільня 8 (21) Ліпня (Юля) 1910 г. № 28.

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМІ

Выходзіць што тыдзень рускімі і польскімі літэрамі.

Адрэс рэдакціі і адміністраціі: Вільня, Віленская вуліца, д. № 20.

Вільня, 8 (21) Ліпня (Юля).

1410—1910.

„В лето од Божаго Нарожэня 1410 почалася валька Королю Польскому Владыславу Ягайлу, а брату его Велікому Князю Літовскому Вітолту з Немцы Прускімі, і собралі межы собою войска велікіі з обу строн. Король Ягайло со всімі моцамі коруны Польское, а князь велікі Вітолт, со всімі сілами Літовскімі і Рускімі і з многімі Татары Ордынскімі; а Містр Прускі также з моцамі своімі... Король Ягайло і Князь Велікі Вітолт тягнулі ко бітве все лесными, а злымі дорогамі, а поля ровного а широкого не моглі меті, где бы ся мелі ку бітве застановіты, ніжлі толко былі поля ровные под местом Пемецкім Дубровным (Грунвальд), і бачылі то Немцы, іж Ляхове і Літва з так велікімі войскі, немоглі

Першая паласа «НН» № 28 за 1910 год, прысвечаная 500-годдзю Грунвальда.

таксама цікавая, і кожны аматар беларушчыны знойдзе яе неймаверна захапляльнай.

Менавіта з эмпірыкі вынікае выдатны рытм і тэмп пісьма, якога ў найлепшых месцах даследавання дасягае вучоны. Ад Уладзіслава Сыракомлі да Францішка Багушэвіча, ад Янкі Купалы да Міколы Ермаловіча, ад Васіля Шчарбакова да Міхася Ткачова, ад Кастуся Тарасава да сучасных акадэмічных гісторыкаў. Прыгожыя даследаванні ствараюцца на прыгожай эмпірыцы. Артыкул «Гістарычныя погляды Янкі Купалы» ў энцыклапедычны даведнік «Янка Купала» пісалі Уладзімір Конан і Мікола Ермаловіч. За гэтым энцыклапедычным артыкулам і аўтарствам — насычаны тэкст беларускай культуры, поўны ўсяго. Тут важна, каб у аўтара і ў чытача была супольная сістэма каардынат, каб яны патрапілі падзяляць кампліментарныя «ацэнкі густу». Эстэтыка разгляданай кнігі працуе тады, калі «тваё» — не Чаадаеў з Бярдзяевым, а Багушэвіч з Ластоўскім.

### Кампрадорскі характар

Другі ўзровень — тэорыя. Кніга мае «кампрадорскі» характар. Маю на ўвазе, што яна прапануе перанос тэарэтычнай мовы заходніх даследчыкаў на беларускі матэрыял. Для беларускай гістарыяграфіі, безумоўна, дагэтуль важная задача ў парадку дня — знаёмства з сучаснымі даследчымі кірункамі, але можна спрачацца, ці структураванне і інтэрпрэтацыя беларускай эмпірыкі пры дапамозе гатовых канцэптаў «заходняй навукі» — гэта правільны падыход. Здаецца, якраз пра такія даследаванні Кліфард Гірц афарыстычна заўважыў: не трэба здзяйсняць кругасветную вандроўку, каб палічыць котак у Занзібары. Са свайго «аналітычнага выгнання» Сагановіч прапануе чытачу вельмі цікавы агляд сучасных еўрапейскіх (з акцэнтам на нямецкіх і польскіх) дэбатаў вакол паняццяў памяці, культуры памяці, палітычнага міфа. Даследчык сцвярджае, што гэтыя паняцці не ўвайшлі ў абыходак беларускай акадэмічнай навукі, і з гэтым цяжка не пагадзіцца. Адсюль вынікае пафас манаграфіі. Гэта спрыянне трансферу ці «перакладу» парадыгмы памяці на беларускую глебу. Цытата з Ранке (яна вельмі растыражаваная ў Нямеччыне: *wie es eigentlich gewesen* — «як было на самай справе») ці спасылка на важную нямецкую кнігу «*Geschichtsdiskurs*» маркіруюць уключанасць аўтара ў іншы кантэкст. У гэтай сувязі важна звярнуць увагу на раздзел з падзякамі. Гэта — побыт цяперашняй беларускай гістарыяграфіі, у якой дзяржаўнаму адміністраванню навукі абыходзяць трохі іншыя рэчы, не паняцці і тэарэтычныя дэбаты.

### Поле гісторыі

Трэці ўзровень, як падаецца, адзін з найбольш цікавых для аналізу. Яго можна было б акрэсліць як «поле гісторыі», услед за П'ерам Бурд'ё, калі б строгасць і стройнасць ягонай тэрміналогіі не былі сапсаваныя бяздумным і недарэчным ужываннем. Навуковыя ўстановы і згуртаваныя там даследчыкі, праз камунікацыю і спрэчку, акумулююць уласную гісторыю — важныя падзеі, знакавыя тэксты. У прынцыпе, адсюль вынікае сістэма іерархій і аўтарытэтаў. У тым выпадку, калі б беларуская гісторыя мела аўтаномію і сапраўды функцыянавала б як асобнае поле, без ведання гэтай цэхавай гісторыі чалавек не мог бы стаць легітымным «беларускім гісторыкам». На шчасце ці не, але беларуская гісторыя функцыянуе іначай. Яе ўласная гісторыя забываецца, заціраецца ў часе. Спрэчка паміж Марзалюком і Сагановічам, здаецца, ужо нікога не цікавіць, у кнізе яна мімаходзь памянёная. За гэтым стрыманым згадваннем — вялікае апавяданне, пра кнігі магілёўскага археолага, рэцэнзіі ў «БГА», школу «Аналаў» і паняцце нацыі. Забываюцца сюжэты аб нацыянальнай канцэпцыі Міхася Біча і Міхася Касцюка, гарачыя спрэчкі сярэдзіны 1990-х, вытрыманыя ў духу савецкіх даносаў на калег публікацыі Яўгена Новіка, Адама Залескага і Пятра Петрыкава, скандальная новая канцэпцыя Якава Трашчанкі. Ва ўводзінах Генадзь Сагановіч сцісла паведамляе пра свае «апошнія гады працы» ў акадэмічным Інстытуце гісторыі. Гэты сказ — выдатны прыклад такой «наратыўнай абрэвіятуры», звязанай з пэўнай «супольнасцю ведаў і метафары».

Сам Сагановіч, аднак, у існаванне гэтай супольнасці не верыць. З ім, мусіць, давядзецца пагадзіцца. Гэтыя сюжэты, пра беларускіх гісторыкаў і іхныя тэксты, — хутчэй, сугестыўная ілюстрацыя да дыялога з новага эпізода *Star Wars*: «Пра тое, што адбылося, ходзяць гісторыі! — Яны праўдзівыя. Усе». З характэрным прыдыханнем, як у беларускім перакладзе трэйлера. Усе.

### Вызваленне ад анталагізацыі

Апошні ўзровень тэксту кнігі звязаны з яе магчымым грамадскім значэннем. Гістарыяграфія развіваецца пад уплывам вонкавых чыннікаў, гэта ні ў якім разе не чысты прырост навуковых ведаў — кніга Сагановіча падрабязна ілюструе гэты збіты тэзіс. У гэтым сэнсе структура кнігі выглядае як спіраль: рэфлексуючы дадзеную праблему ва ўводзінах, даследчык далей зноў і зноў вяртаецца да яе ў ходзе кнігі. Але дачыненні гістарычнай навукі і грамадства — не вуліца з аднабаковым рухам. Змяненні ў гістарычным апісанні, у мове гісторыкаў тэарэтычна таксама могуць уплываць на сацыяльную дынаміку. Нейкія сацыяльныя эфекты магла б мець ажыццёўленая Сагановічам крытыка пануючага ў цяперашняй беларускай гістарыяграфіі паняцця «міфа» і звязаных з ім уяўленняў аб «перапісванні гісторыі» і «барацьбе за гістарычную праўду». Сам даследчык фармулюе гэта як вызваленне гістарычных ведаў ад анталагізацыі.

У заходніх грамадствах, скажам у нямецкім, у другой палове мінулага стагоддзя вялікі ўплыў здабыло ўяўленне аб тым, што гісторыя — перш за ўсё не праўдзівы расказ аб мінуўшчыне, а «стала нанова фарміраваная матэрыя, якая робіць магчымымі заўсёды новыя тлумачэнні» (берлінскі гісторык В.Кашуба). Важна разумець, што пры гэтым няма гаворкі аб скасаванні прафесійных стандартаў навуковага даследавання — верыфікацыі дадзеных, крытэрыяў рацыянальнасці і гатоўнасці да ўнутрыцэхавай дыскусіі. Гаворка пра асэнсаванне «гістарычнасці», зменлівасці пануючых у грамадстве ўяўленняў пра мінулае і ягоных тлумачэнняў, аб праблематычным змесце паняцця «аб'ектыўнасці». Асобнае вялікае пытанне — унёсак такога разумення гістарыяграфіі ў станаўленне нямецкай дэмакратыі і дабрабыту. Але зусім пэўна можна сцвярджаць, што працятая смяртэльным пафасам змагання з перакручваннямі і фальсіфікацыямі мова беларускіх гісторыкаў сёння не выступае пазітыўным чыннікам у развіцці грамадства.

Тут трэба захаваць разважлівасць і застацца пры нейкім здаровым скептыцызме. Хутчэй за ўсё, натуральна, ніякіх сацыяльна істотных наступстваў гэтая крытыка не мецьме — справа ў адсутнасці разгалінаванай супольнасці гісторыкаў, змярцвелай прафесійнай камунікацыі. Па ўсім відаць, беларускія гісторыкі не маюць уплыву на тое, як грамадства, палоненае стэрэатыпнымі трактоўкамі савецкага часу ці ў лепшым выпадку 1990-х, успрымае сваю мінуўшчыну.




Грунвальд у беларускай гісторыі. **Спроба разбору палітычнага міфа**. — Мінск: Медысонт, 2015.

Кніга прысвечаная бітве пад Грунвальдам як факту грамадскай свядомасці — яе «пасмяротнаму жыццю» ў гістарычнай думцы і сацыяльнай памяці Беларусі. Аўтар паспрабаваў выявіць шляхі і абставіны пашырэння ўстойлівых уяўленняў пра бітву 1410 г. у навуковым і публічным дыскурсе, а таксама паказаць іх ідэалагічны змест і грамадска-палітычнае прызначэнне.

**Генадзь Сагановіч**

Нар. 1968. Адзін з вядучых гісторыкаў Беларусі. Спецыялізаваўся на гісторыі Сярэдніх вякоў і Новага часу, але кола ягоных інтарэсаў вельмі шырокае. Заснаваў і выдае часопіс «Беларускі гістарычны агляд» і кніжную серыю. Аўтар шматлікіх папулярных кніг (у тым ліку «Невядомая вайна 1654—1667», «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі»). У 2002 быў звольнены з Акадэміі навук — фактычна як «непажаданы элемент». Паходзіць з вёскі Турная, што ў Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці.

### «Ето — расце»

Адзін з даўнейшых артыкулаў Сагановіча называўся «Вайна з беларускай гісторыяй». Гэтая назва пасля выхаду «Грунвальда...» можа прачытвацца з зухаватай іроніяй. Чыя вайна і супраць каго?

У «Подыху навальніцы» Васіль Дзятлік, аглядаючы засеянае поле, меланхалічна заўважае: «Ето — расце». Меланхолія Дзятліка — не ў самім выказванні, а ў трывозе, якая пануе вакол яго, калі чытач ведае, што да калектывізацыі застаюцца лічаныя месяцы. Падобна пачуваешся, пазіраючы на кнігу Сагановіча. Раз абмяркоўвалі з калегам: а ці выдае Сагановіч у «Бібліятэцы БГА» беларускіх гісторыкаў? Можна было б сфармуляваць іранічны адказ: так, выдае Сагановіч беларускіх гісторыкаў — напрыклад, Сагановіча. Кпіць, аднак, не выпадае: калі ў беларускай акадэміі амаль нікому не абыходзіць чужы прыгожы мадэрнізм, ніхто не пераймаецца мітрэнгай і нястачай сучаснага акадэмічнага пісьма — тады што выдаваць яшчэ? А кніга Сагановіча — як кніга Сагановіча, хай расце.

**Антон Лявіцкі**



**Антон Лявіцкі**

Нар. 1993. Спецыялізуецца ў гісторыі Беларусі другой паловы XX стагоддзя. Скончыў Ліцэй БДУ, вывучаў гісторыю і паліталогію на гістарычным факультэце БДУ і ў Лейпцыгскім універсітэце ў Германіі. Паходзіць з Палянінавічаў, што ў Магілёўскай вобласці.

# Купала і Сталін

**Уладзімір Някляеў**. Урывак з аповесці.

— Ещце, ещце, — падліваў ужо трэці апалонік Сталін. — Вы колькі не елі?

— Дні тры. Як памёр, так і не кармілі, — налягаў Купала на боршч, які не надта любіў, але Сталін сказаў, што нічога болей няма. Маўляў, вайна, і жонка захварэла.

— Дык яна ж застрэлілася дзесяць год таму, — паклаў лыжку Купала. — Як яна цяпер магла захварэць?

Камісар Мяркулаў зірнуў на яго няўхвальна. Маўляў, гэта асабістае, сямейнае. Думай, пра што пытаеш.

— Ажывілі... — сказаў камісар незадаволена. — Як і вас. — І паглядзеў на Сталіна, які кіўнуў: маўляў, так, ажывілі. І пацікавіўся:

— А вы чаму без жонкі? Застрэлілася? Ці так памерла?

Купала хацеў перахрысціцца, пальцы склаў, але ўспомніў, хто перад ім, і пацёр складзенымі пальцамі лоб.

— Нічога, можна, — паблажліва сказаў Сталін. — Я некалі ў семінарыі вучыўся... Дык памерла?

Купала перахрысціўся.

— Не, жывая. Гэта я памёр, таварыш Сталін. Забілі мяне, таму яна не са мной.

Мяркулаў зноў зрабіў незадаволены выгляд.

— Вас ажывілі. А жонка ваша ў Казані. Таму не з вамі.

Купала задумаўся. Відаць было, што нейкія канцы з нейкімі канцамі ў ягонай галаве не сходзяцца.

— А за што?

— Што за што?.. За што ваша жонка ў Казані?

— Не. За што мяне ажывілі?

— Бо вы вялікі беларускі паэт.

— А нашто вам вялікі беларускі паэт? Каб яшчэ рускі...

Мяркулаў рукі ўскінуў.

— Ды якая розніца? Савецкі! І не зрабілі нічога шкоднага.

— Ад беларускіх паэтаў увогуле ніякай шкоды, — стаў прыбіраць са стала Сталін. — Як, зрэшты, і...

«Карысці», — хацеў ён, мусібыць, дагаварыць, але не дагаварыў, толькі махнуў рукой, выпусціўшы і ледзь не пабіўшы талерку, якую падхапіў Мяркулаў, спрыт якога здзівіў Купалу: пад стол паспеў скочыць і пад сталом злавіць.

— Як, зрэшты, і ад рускіх, — кіўком пахваліў камісара Сталін, сеў да стала і пачаў набіваць люльку. — Вось паслухайце, што адзін рускі паэт прыдумаў: «Хочу назвать его не Сталин — Джугашвили!» Што ён хацеў сказаць?.. Калі я Джугашвілі быў, сам лепш пісаў.

— Ды ён не рускі, — памыў талерку і вярнуўся Мяркулаў. — Габрэй.

— Габрэй... — пыхнуў люлькай Сталін. — Дык вось да нацыянальнага пытання. Калі б, скажам, Мяркулаў размаўляў на ідыш, я гаварыў па-грузінску, а вы па-беларуску, мы б адзін аднаго зразумелі? Не. А гаворым па-руску — і разумеем... იცით, მე? (Ты разумееш мяне?)

— Што?..

— Бачыш, не разумееш?.. და თქვენ იცით, რას ვგულისხმობ, მერკულოვი? (А ты разумееш мяне, Мяркулаў?)

— Не зусім, таварыш Сталін, — асцярожна адказаў Мяркулаў. — Чаму я павінен размаўляць на ідыш, калі я грузін? — і ўбачыўшы, як Сталін усміхнуўся, асмялеў: — І яшчэ... У сорак першым я вас цалкам разумеў. А ў сорак другім, калі адправілі ў Куйбышаў працаваць...

— Ну й адправіў, — паморшчыўся і пастукаў люлькай аб край попельніцы Сталін. — Не ў Беларусь жа партызаніць паслаў. А вы партызанілі?.. — неяк хітравата спытаў ён Купалу, і той дастаў з левай унутранай кішэні пінжака, дзе ляжалі харчовыя карткі і пасведчанне сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў, вершулётку «Беларускія сыны».

— Не. Я пісаў. Пачытайце. Гэта пра партызанаў.

Сталін падняўся, перайшоў ад абедзеннага стала да пісьмовага, начапіў акуляры (ён, аказваецца, акуляры насіў!) і пачаў чытаць. Спачатку запінаючыся, а пасля, нібы ўсё болей радуючыся, што дае рады тэксту на замежнай мове, з усё большым імпэтам, пагрузінску напеўна:

По беларускім бітым шляху,  
Б'ючы ў кайданавы званы,  
Брыдзе чужынец, а з ім побач  
Хто?  
— Беларускія сыны!

У беларускім вольным краі,  
З ярэмнай збрыўшы стараны,  
Царыць чужынец, а ў паслугах  
Хто?  
— Беларускія сыны!

Над беларускай беднай хатай,  
Як полка вырвана з труны,  
Вісіць чужы сцяг, а трымае  
Хто?  
— Беларускія сыны!

У Беларусі спеў чужацкі,  
Як над касцямі груганы,  
Крумкаць чужынцы, а іх складам  
Хто?  
— Беларускія сыны!

На беларускім буйным полі  
З вясны да новае вясны  
Растуць крыжы, а пад крыжамі  
Хто?  
— Беларускія сыны!

Прачытаў, як песню праспяваў. І спытаў, прачытаўшы: Вы не будзеце супраць, таварыш Купала, калі я гэты верш сабе на памяць пакіну?..

«Калі б тут з кінахронікі хтонебудзь быў, дык беларускае нацыянальнае пытанне было б вырашанае раз і назаўсёды! — падумаў Купала. — Каб нехта зняў і ўсяму свету паказаў, як пабеларуску прамаўляе Сталін! Як правадыру ўсё болей падабаецца інтанацыя верша! Як пад самы канец ён ускідвае рукі, выдыхаючы: «Растуць крыжы, а пад крыжамі хто? Беларускія сыны!» — і так замаўкае, гэтак сцішваецца, нібы вось-вось закрычыць ад болю за Айчыну — і абудзіць, з вечнага сну падыме беларускіх сыноў...»

Абудзіўся камісар. Зірнуўшы на Сталіна, які стаяў крыжам, чакаючы апладысментаў, Мяркулаў падышоў да Купалы і спытаў, з пятаў на наскі і з наскоў на пяты кіўнуўшыся:

— Вы што сабе дазваляеце? З каго надумалі жартаваць? Якія тут партызаны? Нацыяналісты — партызаны?

Сталін, не дачакаўшыся апладысментаў, апусціў рукі.

— Што?.. Дык чужынцы — не немцы? Руская?..

— Не толькі, — чамусьці не спалохаўся і сам здзівіўся з гэтага Купала. — Немцы таксама. І палякі...

Мяркулаў крывёй наліўся — у ім хапала крыві.

— А ну ўстаць! — гэтак ухапіўся ён за Купалу, нібы яшчэ раз сабраўся скінуць у лесвічны пралёт, пацягнуў з кабінета, але Сталін нечакана спыніў яго:

— Ты не бойся, Усевалад. Я цябе не расстраляю. Хоць за тое, што ты дазваляеш сабе пры таварышу Сталіну ў адносінах да лаўрэата Сталінскай прэміі, можна і расстраляць. Правільна я кажу, таварыш Купала?

Купала не любіў расстрэлаў, таму прамаўчаў.

Сталін глянуў на Мяркулава, той выцягнуўся ў струнку: «Правільна, таварыш Сталін!» — і Купала ўпершыню з таго моманту, як зляцеў з дзясятага паверха на мармуровую падлогу гатэля «Масква», адчуў, як добра быць мёртвым.

— І што палякі — правільна, — вытрымаўшы паўзу, каб Мяркулаў яшчэ павышчыгваўся, спакойна пыхнуў люлькай Сталін. — І правільна, што немцы. А што руская — не. Няправільна. Рускі народ — вялікі народ, таварыш Купала. Вось маглі б немцау перамагчы беларусы? Ці хай нават грузіны? Не. А руская перамаглі. Яны нават Украіну могуць заваяваць, калі захочуць.

— А навошта ім заваёўваць Украіну?

— Як навошта? Бо яны руская. Не беларусы і не грузіны. Вам не трэба? І мне не трэба. А рускім трэба. Правільна, Усевалад?

Мяркулаў стаяў, выцягваючыся, і лыпаў вачыма.

— Ён жа не ведае, што праз 70 гадоў руская на ўкраінцаў нападуць, таварыш Сталін, — засмяяўся Купала. — Яму гэта і ў дурным сне не прысніцца!

Сталін узняў люльку цыбуком у столь.

— І нам не прысніцца!.. Але мы ведаем! Прадбачым! А што дае нам магчымасць прадбачыць гістарычную ходу падзей? Вялікае вучэнне марксізмуленінізму дае нам такую магчымасць! Правільна, Усевалад?

— І сталінізму... — зусім ужо не разумеючы, як яму на ўсё гэта рэагаваць, каб зратавацца, сказаў Мяркулаў, на што Купала запярэчыў: «Не. Сталінізм падчас вайны Расіі з Украінай ужо цалкам будзе дыскрэдытаваны, спроба ягонай рэанімацыі не ўдасца...» — і Сталін цяжка паглядзеў на камісара:

— Чуў?.. — і пацямнеў тварам. — А праз каго будзе дыскрэдытаваны сталінізм?.. Ты скажаш, што праз яго? — тыцнуў ён цыбуком люлькі ў бок Купалы. — Праз тое, што ён кепскія вершы таварышу Сталіну прысвячаў? Дрындушкі?.. А я скажу, што не. Праз такіх, як ты, Усевалад, сталінізм будзе дыскрэдытаваны. Праз гэтакіх кіраўнікоў народнага камісарыяту дзяржаўнай бяспекі, якія замест таго, каб справай займацца, той вялікай дзяржаўнай справай, якою даручыла ім партыя, даручыў таварыш Сталін, — п'есы пішуць! Хто табе сказаў п'есы пісаць?..

Сталін узяў ёршык, прачысціў цыбук пагаслай люлькі, зноў паказаў ім на Купалу.

— Хіба гэта яму даручыла партыя, даручыў таварыш Сталін кіраваць народным камісарыятам дзяржаўнай бяспекі? Не. Таму ён і піша. Вершы, п'есы. Займаецца сваёй справай, а не тваёй. А ты займаешся ягонай... Ха, — хакнуў Сталін. — Падыходзіць да мяне на прыёме ў Крамлі адна актрыса, — падышоў ён да Купалы, паказваючы, як падышла да яго актрыса, — «Ах, таварыш Сталін! Як вы ўмееце падбіраць кадры! Ах, які ў вас геніяльны кіраўнік дзяржаўнай бяспекі! Ах, які ён драматург, якія п'есы піша!..» Я падумаў, што яна пра крымінальную справу, якую напісаў наш «драматург», каб яе мужа пасадзіць. Але не! Яна...

Сталін вярнуўся да стала, узяў запалкі, раскурыў рэшту тытуню ў люльцы.

— Яна, актрыса тая, пра п'есу, а не пра справу. Дык у мяне ёсць іншыя людзі для п'ес, Усевалад. Я цябе не для таго з Грузіі ўзяў, каб ты мне ў Маскве п'есы пісаў. Для гэтага ў мяне Горкі ёсць, якога я ўзяў з Італіі.

Купала хоць і адчуваў, што зараз у размову лепш не ўлазіць, але не стрываў:

— Горкі памёр, таварыш Сталін.

І кажуць...

Сталін люлькай паветра рассек.

— І кажуць, што я атруціў яго?.. Горкі — буравеснік рэвалюцыі! Як я мог атруціць буравесніка?

Купала нарадзіўся і жыў не ў марской, а ў балоцістай мясцовасці. Ён ніколі не бачыў буравеснікаў і не ведаў, як іх можна атруціць. Таму й сказаў: «Не ведаю», — а Сталін, мусібыць, падумаў, што Купала ўсё ж яго падазрае, і ў вачах ягоных мільгнула нешта буравеснае.

— Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць! Гэта я напісаў? Гэта Горкі напісаў — і няхай не крыўдуе.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Уладзімір Някляеў**

Нар. 1946 у Крэве. Беларускі пісьменнік і палітык. Дасягнуў вяршынь прызнання як паэт. Многія песні на ягоныя словы сталі народнымі. За свой раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» ён атрымаў прэмію Гедройця. У 2010 паэт пайшоў у палітыку, стаў кандыдатам у прэзідэнты. У дзень выбараў яго збілі да паўсмерці, вінаватых дагэтуль ніхто не пакараў. Наадварот, самога Някляева кінулі ў турму — выпрабаванне, у выніку якога ён напісаў выдатны цыкл вершаў.

«Праўда што...» — падумаў Купала, і тут жа праз тое, што так падумаў, яму стала ніякавата: усё ж Горкі яго, хоць і не аднаго, а на пару з Якубам Коласам, некалі пахваліў. Ёсць, сказаў, у Беларусі Колас і Купала, някепскія хлопцы. І ўспомніўшы гэта, Купала сказаў, як бы абараняючы Горкага:

— Тады і вы не крыўдуйце. 5 сакавіка 1953 года вас знішчаць.

Мяркулава на плямы пабіла, а Сталін зноў здзівіў: успрыняў словы Купалы спакойна. Пыхнуўшы люлькай, спытаў:

— Хто знішчыць?.. — і паказаў на Мяркулава. — Гэты?

Мяркулава, на якім усе плямы раптам збялелі, можна было б, вядома, даканаць, каб ведаў, як паэтам у зубы біць, але Купала не меў гэбісцкіх звычак.

— Не. Берыя.

— Сукін сын! — сеў за стол і адкінуўся на спінку крэсла Сталін. — Грузін грузіна! — і тут жа нахіліўся ўперад, да Купалы, глыбока зазірнуў у вочы. — Вось скажыце мне, таварыш Купала: беларуса, які ўзняўся на такую вышыню, стаў правадыром усіх часоў і народаў, мог бы знішчыць беларус?..

Купала адвёў позірк.

— Пайду я, бадай, у Дом літаратара. А то няёмка неяк: без мяне мяне хаваюць, — падняўся ён, каб пайсці, а Мяркулаў, выслужваючыся, да яго падскочыў: «Вам хто дазволіў?..»

— Няхай ідзе, — махнуў рукой Сталін. — Калі не хоча ведаць, што далей будзе.

Купала, пастаяўшы вочы ў вочы з Мяркулавым і ўбачыўшы, які ў іх страх стаіўся на дне, зноў сеў.

— Я ведаю, што будзе далей. Па смерці адкрываецца ўсё, што было і будзе ў жыцці. І я мог бы вам пра ўсё расказаць, але стаміўся...

Ён памаўчаў.

— Я вельмі стаміўся, таварыш Сталін. Ад вас, ад яго, — кіўнуў ён на камісара. — Ад здрадлівых сяброў і вернай жонкі. Ад палюбоўніц, якіх да мяне прыстаўлялі, каб яны мяне кахалі. І ў той вечар адна прыйшла...

— З дома на Кацельніцкай? — нібы абыякава спытаў Сталін, зноў пераключыўшыся на амаль сяброўскі тон, і Купала ў каторы раз здзівіўся, як мяняюцца мужчыны, калі пераходзяць на размовы пра жанчын. Можа, ім ні пра што болей і не гаварыць ніколі?..

— Так, з Кацельніцкай, — кіўнуў ён, зразумеўшы, што Сталін і без яго гэта ведае. — І між намі ў той вечар... Ды гэта не важна, што было між намі. Ад яе я таксама стаміўся, але...

Ён пакутліва пацёр скроні, відавочна не жадаючы доўжыць амурную размову.

— Але найбольш я стаміўся ад беларусаў, якія не хочуць быць беларусамі. Невыносна стаміўся. Насмерць. Што ні казаў, што ні рабіў... Не хочуць.

— Хіба? — здзівіўся Сталін. — А што ж тады мне дакладваюць пра... — уперыўся ён у Мяркулава, каб спытаць нешта, але зноў перавёў позірк на Купалу. — А што ім трэба, каб яны захацелі? Якога ражна?

Купала скінуў рукі са скроняў.

— Думаю, справа тут не ў тым, што трэба, а ў тым, хто... — і ён гэтаксама ўперыўся ў Сталіна, як той хвіліну таму ў Мяркулава. — Сталін тут патрэбны. Сталін, які б захацеў стаць беларусам.

Сталін задумаўся. Раз зацягнуўся люлькай, другі. Устаў, прайшоўся. Зноў пыхнуў дымам... Нарэшце ўзняў рукі, нібы здаючыся:

— Не. Я грузін, — і раптам сказаў, вусы пагладзіўшы: — Хіба што Усевалад... Як ты на гэта, Усевалад? Гэта ж лепш, чым ссылка ў Куйбышаў.

Мяркулаў, узрадаваны, што пакуль яго не расстраляюць, шчоўкнуў абцасамі.

— Як загадаеце, таварыш Сталін! Гатовы выканаць любое...

Сталін паморшчыўся.

— Ды што ты зашчоўкаў... Як можна грузіну загадаць стаць беларусам? Ці хай нават рускаму. Гэта ж толькі па поклічы сэрца. Ты адчуваеш покліч?

Відаць было, што Мяркулаў не ведае, адчувае яму покліч сэрца ці не. З аднаго боку, трэба адчуваць, а з іншага — як будзе расцэнена тое, што ён прадасць у сабе грузіна? Вось жа Сталін у сабе грузіна не прадаў. Але ён грузін і Сталін, а Мяркулаў — толькі грузін. І тое напалову.

— Няма ў яго сэрца, — выручыў камісара Купала. — Дык які можа быць покліч?

Сталін прыклаў далонь да грудзей, сціснуў яе і расціснуў, сціснуў і расціснуў...

— Няма дык няма. Для чэкіста яно й не патрэбнае. Чэкіст без сэрца — ідэальны чэкіст. Як Дзяржынскі. Дарэчы, ён беларус ці паляк?

— Паляк, таварыш Сталін, — казырнуў Мяркулаў, і Купала не стаў змагацца за тое, каб запісаць першага савецкага чэкіста ў беларусы: няхай будзе палякам.

Сталін сказаў з жалем:

— Шкада. А то ажывілі б і паставілі. Ён бы справіўся не горш за мяне... — І раптам спытна крутнуўся на адной назе. — А што, калі мы вас паставім, таварыш Купала?

Купала не зразумеў.

— Куды?

— На першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі. На месца Панцеляймона Панамарэнкі! — крутнуўся Сталін на той жа назе, толькі зваротна, у бок Мяркулава. — Дапускае такое рашэнне кадравага пытання член Усесаюзнага ЦК таварыш Мяркулаў? І як ён думае: апраўдае таварыш Купала давер партыі?

Па тым, як успрыняў гэтую прапанову камісар, відаць было, што яму працэй самому застрэліцца, чым такое дапусціць.

— Я думаю, што таварыш Панамарэнка цалкам апраўдвае давер партыі, таварыш Сталін. І не зусім разумею, навошта нам...

Сталін спыніў яго нецярпліва.

— Як гэта не разумееце? Панамарэнка — хто? Украінец! Значыць, не любіць рускіх. І можа ваяваць з Расіяй. А беларус можа ваяваць з Расіяй?.. Вось вы, таварыш Купала, можаце з Расіяй ваяваць?

— Не, — сказаў Купала. — Не магу. Я не ваеннаабавязаны.

— І беспартыйны ён, таварыш Сталін... — каўтнуў адамавым яблыкам пад тлустым падбароддзем камісар, на што Сталін рукі раскінуў:

— Ну і што? Прымем! Вось зараз я напішу рэкамендацыю, ты напішаш... — пайшоў ён да пісьмовага стала, каля якога спыніўся, пачасаў цыбуком люлькі за вухам. — Але трэба тры рэкамендацыі... Панамарэнку пазвані.

Мяркулаў, які ведаў, што ў Сталіна даўнія, яшчэ з грамадзянскай вайны, прыязныя адносіны да Панамарэнкі, сказаў нерашуча:

— Думаю, дастаткова вашай аднэй рэкамендацыі...

— Вось! — зноў раскінуў рукі, гэтым разам да Купалы, Сталін. — Будзем замест трох адну рэкамендацыю даваць, партыйны статут парушаць, савецкі закон парушаць, самавольна арыштоўваць, страляць, а потым казаць: таварыш Сталін суворы. А гэта не Сталін суворы, — пагразіў ён пальцам камісару. — Гэта закон. *Dura lex, sed lex*, — і націснуў кнопку на стале. — Таварыш Паскробышаў, дзе там ваш пісар? Давайце яго сюды...

Адчыніліся дзверы, і ўвайшоў Качарыга. Купала і не пазнаў яго адразу. Падумаў: карла, — гэтак і без таго маленькі Качарыга, увайшоўшы ў кабінет Сталіна, зменшыўся. Стаў не вышэйшым за стол.

— А вы думалі... — задаволена сказаў Сталін, убачыўшы, як здзівіўся Купала. — Сталін таксама жывы чалавек, і, пакуль яго Берыя не знішчыў, можа іншым разам пажартаваць, — падвёў ён Качарыгу да Купалы. — Ну, павітайцеся...

Качарыга сутаргава падаў руку. Купала вяла, але паціснуў.

— Вось і спаткаліся старыя сябры, — касавата зірнуў Сталін на Купалу. — А вы думалі, не спаткаецеся? — пад локаць павёў ён Качарыгу да пісьмовага стала. — Вы ў партыі, таварыш Качарыга? — і калі Качарыга гэтак жа сутаргава, як падаў руку, кіўнуў, Сталін пасадзіў яго за стол. — Тады пішыце рэкамендацыю ў партыю таварышу Купалу.

— Таварыш Сталін... — пачаў Купала і змоўк.

— Што? — яшчэ больш узвесяліўся Сталін. — Хочаце сказаць, што ён данос на вас напісаў? Дык ён жа пісьменнік. Таму і піша. У розных жанрах. Учора — данос, сёння — рэкамендацыя, заўтра зноў данос... На таварыша Сталіна можа напісаць у ЦК, бо рэкамендацыя ў партыю — справа добраахвотная, а таварыш Сталін змусіў... А вось спытайце яго, таварыш Купала, данос ён напісаў добраахвотна?.. Ці змушана?..

Качарыга проста на вачах змяншаўся, нібы ўрастаў у падлогу.

— Пішыце, — падаў яму самапіску Сталін. І сказаў, зірнуўшы на Мяркулава: — Можа, так напіша, што адной хопіць...

Камісар, падбадзёраны позіркам правадыра, дазволіў сабе пажартаваць:

— Так не зможа. Не Пушкін.

— Бо не прызначылі, — нечакана падхапіў банальны жарт Сталін. — А прызначылі б, быў бы Пушкін. Хай бы й нічога, апроч даносаў, не напісаў.

Сталінскага жарту Купала не зразумеў.

— Можна міністра прызначыць міністрам, таварыш Сталін. А Пушкіна прызначыць Пушкіным нельга. Ён нарадзіўся паэтам.

— Паэтам — так, — згадзіўся Сталін. — Але Пушкіным ён прызначаны. Хоць замест яго мог быць прызначаны Баратынскі. Разумееце?.. Ці вы мяркуеце, што Купалам вы сталі, бо нарадзіліся Купалам? Гэта мы вас Купалам зрабілі. Мы вас ім прызначылі. Хоць маглі прызначыць іншага. Так, таварыш Качарыга?

Качарыга, які за сталінскім сталом сталінскай самапіскай пісаў Купалу рэкамендацыю ў сталінскую партыю, падскочыў:

— Так, таварыш Сталін! Я таксама вершы пішу!

Такой пругкай рэакцыі ад, здавалася б, насмерць запалоханага чалавека ніхто не чакаў, Сталін нават трохі разгубіўся:

— Вось бачыце... Таксама піша...

У крытыка Качарыгі была мянушка «Вершнік без галавы». У Мінску ён быў адзіным, калі не лічыць Купалу і Коласа, пісьменнікам, які меў машыну. Калі ён сядаў за стырно, дык праз нізкарослаcць сваю з-за таго стырна амаль не віднеўся, праз што і меў мянушку, узятую з рамана Майн Рыда.

Яго баяліся. Не праз тое, што не бачыў дарогі і мог задушыць. Баяліся, бо мог задушыць, напісаўшы пра тое, чаго не бачыў...

— Та-а-к... — зайшоў яму за спіну Сталін. — Што вы тут напісалі?.. «Даўно ведаю таварыша Луцэвіча Івана Дамінікавіча і рэкамендую яго ў члены партыі вялікага правадыра савецкага народа таварыша Сталіна...» І гэта ўсё? А што вы пра яго ведаеце?.. Тое, што ён памёр, ведаеце? Тое, што фашысты, лютыя ворагі нашай партыі, ягоным іменем вуліцу ў Мінску назвалі, ведаеце?..

Сталін спытаў — і чакаў. Твар Качарыгі стаў зялёным, як сукно на стале.

— Ве...ведаю... — заікнуўся ён аднекуль з-пад стала, і Сталін болей не стаў чакаць:

— Ведаеце? І рэкамендуеце ворага нашай партыі ў нашу партыю? Ды яшчэ мёртвага? Наша партыя, па-вашаму, партыя нябожчыкаў? Партыя мёртвых?

Качарыгі з-за стала не стала відаць.

— Гэта не яго... — ледзь прамовіў ён шэптам, і Сталін нахіліўся: «Што не яго?..» — не ягоным іменем... — дашаптаў Качарыга, — названая вуліца... Але я думаў, што так лепей...

— Каму лепей?

— Вам... мне здалося, што вам... нам... вашай партыі...

— Чыёй партыі?..

Качарыга хліпнуў. Раз, другі...

— Партыі вялікага правадыра савецкага народа таварыша Сталіна...

— І ўгадаў! — весела сказаў Сталін і падаў яму карычневую з чырвонымі кантамі, як у Купалы, насоўку. — Угадаў, а плачаш. Вось калі б не ўгадаў, плакаў бы, а так чаго плакаць? Ну-ну... Ідзі. Можаш сказаць таварышу Паскробышаву, што мы мяняем табе ордар на ордэн.

— На які? — спытаў адразу Качарыга і тут жа зразумеў, убачыўшы, як Сталін насупіўся, што дарма спытаў. Зноў хліпнуў. — Мне б насоўку вашу на памяць, таварыш Сталін.

Насоўкі Сталіну, як здалося Купалу, было шкада больш, чым ордэн, але і скнарай пры беларускім паэце выглядаць не хацелася, таму ён буркнуў:

— Бяры. Але яна з соплямі.

— Мне... — пачаў Качарыга і замоўк, бо далей, відаць, не ведаў, што сказаць. «Не скажаш жа, — падумаў Купала, — што і сталінскія соплі — узнагарода», — а Качарыга, памаўчаўшы, сказаў: Мне і соплі таварыша Сталіна — узнагарода.

Сталін узяў у яго насоўку, высмаркаўся:

— Калі ласка. Свежыя. — Вярнуў насоўку і, чхнуўшы, націснуў кнопку на стале. — Аляксандр Мікалаевіч...

Увайшоў ягоны сакратар, генерал Паскробышаў, Сталін махнуў рукой у бок Качарыгі: «Выдай яму «Знак пашаны».

— А што пасля?.. — спытаў сакратар, выводзячы Качарыгу, і Сталін плячыма пацепнуў, а Мяркулаў сказаў, на гадзіннік зірнуўшы: «Пасля няхай начэпіць ордэн і замест таварыша Купалы ў труне паляжыць. Бо людзі там ужо збіраюцца, а труна пустая, могуць няправільна зразумець».

Сталін кіўнуў. «Няхай паляжыць. Мы тут яшчэ падумаем. Магчыма, замест таварыша Купалы таварыша Качарыгу пахаваем. Вядома, за дадатковую ўзнагароду», — як бы супакоіў ён абсевага ў дзвярах Качарыгу і зноў чхнуў. Раз, другі, трэці... Стаяў і чхаў, шукаючы на стале, чым бы нос выцерці.

Працяг на старонцы 22.



In memoriam

# Іван Пташнікаў, апошні класік

Пісьменніка не стала 29 ліпеня. Івану Пташнікаву было 83, апошнія гадоў дзесяць, пасля інсульту, ён цяжка хварэў, амаль не выходзіў з хаты і не пісаў.

У асобе Пташнікава было нешта таямнічае. А проза ў яго была густая, непаўторная, кажа гісторык культуры Анатоль Сідарэвіч. Пташнікаў быў вялікім майстрам перадаваць зрухі душы, змены настрою.

«Пісаў ён няшмат, але кожную навелу рабіў з дбайнасцю. Калі я пахваліў Янку Брылю «Львоў» і «Пагоню», Іван Антонавіч спытаў: «А «Французжанак» чытаў?» —расказвае Сідарэвіч. — У Пташнікава адметная рэгіянальная лексіка. Ён майстар мастацкай дэталі. Ягоная проза густая. Што «Лонва», што «Тартак».

Перакладчык Ян Максімюк ставіў Івана Пташнікава ўпоравень з самымі значнымі заходнееўрапейскімі празаікамі XX стагоддзя: «Аповесць пра вёсачку Лонва, згубленую дзесьці ў лясах Меншчыны, я ўспрымаў перш за ўсё як аповесць пра свой свет, які акружаў мяне ад дзяцінства на вясковым Падляшшы. ...Было ў гэтым пісьменніцкім адчуванні нешта глыбіннае, нешта настолькі праўдзівае і непадробнае, што яно перасягала часавыя і прасторавыя — відаць, і культурныя таксама — межы. У Пташнікава, як у Гамсуна і Маркеса, ёсць свой самадастатковы свет, які не зблытаеш ні з якім іншым...

Для мяне Іван Пташнікаў — апошні класік беларускай прозы, апошні майстар слова з пакалення «сена на асфальце», якое жыло ў гарадскім пейзажы, але сніла свой салодкаатрутны сон пра вёску».

Іван Пташнікаў нарадзіўся ў 1932 у Лагойскім раёне.

**Настасся Роўда**

# Купала і Сталін

Працяг са старонкі 21.

— Магу сваю даць, — дастаў насоўку Купала. — Яна, праўда, з крывёй, але на чырвоным не відаць.

Ён не чакаў, што Сталін возьме насоўку, а той узяў, выцерся.

— Без крыві нічога не бывае, — ціха, але выразна сказаў Сталін, пачакаўшы, пакуль Качарыга, як рак, задам, чапляючы нагой за нагу, выпаўз з кабінета. І паўтарыў, узвысіўшы голас: — Нічога, таварыш Купала, не бывае без крыві! Горкі песню пра сокала правільна напісаў. «Ён захлінуўся б маёй крывёю!..» А я паглядзеў, як вы з гэтым смаркачом, з карлам гэтым, які на вас данёс, праз якога вас не стала, за руку паздароўкаліся, і падумаў... — Тут ён рэзка, не зрабіўшы ніякай паўзы, павярнуўся да Мяркулава. — А ты што падумаў, Усевалад?

Мяркулаў ужо зразумеў, што сцэнку з даносчыкам Сталін разыграў не толькі для Купалы, але і для яго, што цяпер ад ягонага адказу залежыць вельмі многае, калі не ўсё, і, адолеўшы імгненную разгубленасць, вырашыў пайсці ва-банк.

— Я падумаў, што Берыя сказаў вам, нібы гэта я запанікаваў у мінулую восень, пабаяўся, што вы здасцё Маскву. А гэта ён запанікаваў і пабаяўся, таварыш Сталін! Усё было так, як я вам напісаў!

Сталін моўчкі паклаў люльку ў попельніцу, узяў са стала рэкамендацыю ў партыю, напісаную Качарыгам, склаў у чатыры столкі, падаў Купалу:

— Вось бачыце, таварыш Купала: усе нешта пішуць. Усеагульная адукацыя... — І павярнуўся да Мяркулава. — А ты паздароўкаўся з Лаўрэнціем, калі з Куйбышава вярнуўся, Усевалад?

Мяркулаў прамаўчаў.

— За руку? — працягнуў праваю руку Сталін. — За руку, Усевалад?

— Так, — адступіўшы на крок, правым кутком рота выцiснуў з сябе камісар. — За руку, таварыш Сталін.

Ён адступіў на крок, каб не казаць гэта Сталіну ў твар, каб не дай Богсліна не пырснула, а выйшла так, нібы адступіў, каб не пацiснуць завіслую ў паветры сталінскую руку...

Сталін гэта скарыстаў. Не апусціў руку. Рука вісела. Мяркулаў стаяў, не ведаючы, што рабіць? Пацiскаць позна. Не пацiснуць... Пацалаваць?..

— Праблема з паэтамі, таварыш Купала, палягае ў тым, што іх, прызначыўшы, даволі цяжка зняць, — не апускаючы руку і гледзячы на Мяркулава, ціха сказаў Сталін. — Складана. Але гэта з паэтамі складаная праблема, а не з міністрамі... — апусціў ён руку, і Мяркулаў бухнуўся на калені: «Таварыш Сталін...»

Сталін сеў за стол, вычысціў лапаткай люльку, прадзьмуў яе, разламаў тры папяросы, набіў люльку тытунём...

— Растлумачце мне, таварыш Купала, як інжынер... — прыпаліў ён і чамусьці не дагаварыў знакамітую, якую любіў паўтараць, фразу: «Інжынер чалавечых душ», — ...як можна з чалавекам, які цябе прадаў, здароўкацца? Юда Троцкі мяне прадаў — я яго забіў. Ці я зрабіў няправільна, трэба было паехаць і паздароўкацца з ім?.. Вось чаму вы гэтаму юду Качарыгу руку пацiснулі?

— Ён падаў... — сунуў Купала ў кішэнь, дзе ляжалі харчовыя карткі, качарыгінскую рэкамендацыю ў партыю. — Я пацiснуў...

— Ён падаў — вы маглі не пацiснуць. І ніхто б яму болей руку не пацiскаў. А цяпер усе пацiскаць будуць, бо пацiснулі вы. І ён, гэты Качарыга, гэты юда, які вас прадаў, данос на вас напісаў, усім казаць будзе, што Купала пацiснуў яму руку нават на тым свеце. Пры Сталіне.

Купала не думаў, пацiскаць руку Качарыгу ці не? Той падаў — і не рабіць жа было з гэтага праблему. Пры Сталіне.

— Казаць, што пры Сталіне, не будзе. Таварыш Сталін неўмiручы, на тым свеце быць не можа.

З тым, што ён неўмiручы, Сталін не стаў спрачацца.

— Ну, добра, пры Мяркулаве, — сказаў ён лагаднейшым голасам. — Мяркулаў на тым свеце можа быць?.. Думаю, можа. Тым больш што ён, можна сказаць, ужо там.

Калі б камісар не стаяў на каленях, ён бы, пэўна, упаў — гэтак яго хіснула.

Купалу, які хоць і разбіўся насмерць, але адчуванне цэхавай салідарнасці ў ім не памерла, стала шкада драматурга Мяркулава. Што той зрабіў яму кепскага? Раз у зубы даў? Дык жа перад тым ажывіў. Адразу ж, праўда, арыштаваў, але ўсё адно тое на тое выходзіць...

«Каб толькі сабе не нашкодзіць», — падумаў Купала, тут жа ўспомніўшы, што нашкодзіць сабе ўжо ніяк не можа, і падышоў да стала.

— Можна вас папрасіць, таварыш Сталін?.. Не расстрэльвайце, калі ласка, таварыша камісара, няхай п'есы піша. А раптам напіша такую, што адной будзе дастаткова, каб...

Сталін падаўся ўперад, нібы хацеў з крэсла падняцца, але не падняўся.

— Каб што?.. Ну, кажыце: каб што?.. Вунь Горкі напісаў «На дне» — і што? Нехта з дна падняўся?

«З крэсла, — падумаў Купала. — Вось што Сталіну зрабіць трэба: з крэсла падняцца. Ён глядзіць на ўсё, седзячы ў крэсле. На тага ж Горкага, даўся яму той Горкі. Нібы іншых пісьменнікаў няма. Пачытаў бы Чорнага, дык не пытаўся б, ці можа знішчыць беларус беларуса...»

Ці ён уголас гэта сказаў, ці Сталін думкі не толькі жывых, але і мёртвых чытаў...

— Чорнага?.. Гэты Чорны хіба пісаў пра беларусаў?.. Я пасылаў яго ў Пскоў, прызначыў намеснікам камісара Паўночнага фронту. А ён збег у Парыж! Антысавецкі часопіс там выдаваў. Мне антысавецкі часопіс ягоны чытаць? — і, убачыўшы на твары Купалы неверагоднае здзіўленне, спытаў: — Што? Не ведалі?.. Вось я і папрасіў французскіх камуністаў, каб яго... — і скончыў весела: — А яны дом яго спалілі! Ён і памёр. Так яму дома стала шкада, што... Што гэта вы глядзіце на мяне вылупіўшыся, таварыш Купала, нібы ў мяне рогі выраслі?

Тое, што Чорны быў намеснікам камісара Паўночнага фронту, а пасля выдаваў антысавецкі часопіс, меў у Францыі свой дом, было такой навіной, што Купала пашкадаваў, што памёр. Да ўсяго ён бачыў Чорнага тры дні таму жывога. Таму і вылупіўся на Сталіна, нібы ў таго выраслі рогі.

— Таварыш Сталін, я бачыў Чорнага тры дні таму. Жывога...

Цяпер ужо Сталін на Купалу вылупіўся. Не так, нібы той абрагаціўся, а так, нібы сказаў нешта такое, чаго не можа быць.

— Дзе вы яго бачылі?.. На тым свеце?

— На гэтым. У Доме літаратара. Пасядзелі з ім, выпілі.

— Выпілі?

— Так.

— З Чорным?

— З Чорным.

— Што пілі?

— Гарэлку. Што яшчэ піць, калі вайна?

— За перамогу?

— Не. За здароўе, — сказаў Купала і адразу пашкадаваў, што не змяніў, бо Сталін сціснуў чашу люлькі ў кулаку. Так, што костачкі пабялелі.

— Я ніколі не давяраў французскім камуністам, таварыш Купала. Мексіканскім давяраў, а французскім не... А вы?

У Купалы не было ні французскіх, ні мексіканскіх знаёмых камуністаў, і ён не ведаў, каму з іх можна давяраць, таму не адказаў нічога, а Сталін падняўся, пракрочыў да Мяркулава.

— Вайна. У Маскве шпіёны. А ты па Маскве??? з нябожчыкамі цягаешся?.. Знайдзі мне гэтага Чорнага. Вершаплёта гэтага, які прыдумаў, што ў Сталіна калматае сэрца. Хоць жывога, хоць мёртвага.

Ён сказаў «вершаплёта», і Купала ўспомніў, што апроч беларускага празаіка Чорнага, у якога Сталін мог нешта прачытаць пра беларусаў, ёсць рускі паэт Чорны, у якога прачытаць пра беларусаў Сталін нічога не мог, таму і спытаў: «Чорны хіба пісаў пра беларусаў?..» — а значыць, гэта зноў блытаніна з прозвішчамі, рускі паэт Чорны сапраўды памёр і, здаецца, памёр недзе ў замежжы, так што ніякага шпіёна Чорнага ў Маскве няма, але ёсць беларускі пісьменнік Чорны, з якім можа стацца тое самае, што сталася тры дні таму з Купалам, на пахаванні якога ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў зараз амаль усе беларускія пісьменнікі — і сярод усіх Кузьма Чорны, якога ўжо ледзь не знішчылі ў Мінску, кінуўшы за краты, у адзіночку, каб там ён калі не сканаў, дык звар'яцеў...

Трэба было нешта рабіць.

— Пара мне ў труну, заляжацца ў маёй труне Качарыга! — рашуча падняўся Купала. — Не прынята ў беларусаў замест нябожчыкаў хаваць жывых. Мяне чакаюць.

— Хто? — жэстам спыніў Сталін камісара Мяркулава, які арлом узляцеў з каленяў, каб выканаць загад, злавіць Чорнага, жывога ці мёртвага. — Чорны чакае?.. Кузьма?.. Дык ён жа разам з усімі даў на вас паказанні. Вас таксама маглі пасадзіць, вы харакіры сабе праз тое ўчынілі, жывот узрэзалі... І што цяпер? Спяшаецеся яго ратаваць? Папярэдзіць, — кіўнуў Сталін на Мяркулава, — што арол ляціць, каб задзяўбаць яго да смерці? Дык хай задзяўбе. Гэта ж адплата. У вас і паэма ёсць, якая так называецца. І гэта справядліва, хіба не?

— Не, — не згадзіўся Купала і хацеў сказаць, што Чорнага катавалі, што ў адзіночнай камеры ён ледзь не звар'яцеў, што справядлівай была б адплата не яму, а ягоным катам, але падумаў: «Каму я ўсё гэта казаць буду?..» — і нічога не сказаў, апроч «не».

Тое, што Сталін прачытаў ягоныя думкі, гэтым разам Купалу не ўразіла. Ну, прачытаў і прачытаў. Ён сам ужо чытаў Сталіна як кнігу. Такую, якую б ніколі не напісаў, бо нават не ўяўляў, што такая можа быць.

Пра ўсё, што цяпер чуў ад Сталіна, Купала не раз думаў раней. Думаючы пра гэта, не спаў, ірваў нервы, піў, ледзь трываючы боль, які не заглушаўся ні самаўгаворамі, ні гарэлкай — нікім і нічым. Боль здрады. Боль страты. Здрады і страты сяброў. Паплечнікаў. Каханых. У рэшце рэшт ён, гэты боль, які пасяліўся там, дзе была душа, выцесніў душу з яе жытла, з маленькага гняздзечка на сэрцы, у якім яна спявала, і боль гэты, заняўшы месца душы, як бы стаў ёю, душою, якая развучылася спяваць, а толькі крыкам крычала, гэтак драпаючы сэрца, што кроў, здавалася, пырскала з вачэй, якімі ўжо глядзець на свет не хацелася, бо ўдзень і ўночы ў іх было цёмна, чорна, — дык вось гэты боль, які ў ім жыў і які ім стаў, а не ён, не Іван Луцэвіч і не Янка Купала, пачаў шукаць шлях з невыноснага святла ў цемру, у чарнату... І проста так выйшла, што гэты шлях супаў з тым, які выбраў для яго таварыш Сталін. Але не казаць жа пра тое Сталіну.

— Я не пісаў паэму «Адплата». Я напісаў паэму «Адплата каханнем», таварыш Сталін. Яшчэ та-

## Культура сцісла



Да Дня горада на плошчы Свабоды ў Мінску паставяць скульптурную кампазіцыю «Жыхары Мінска XIX стагоддзя: кампазітар Станіслаў Манюшка і драматург Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — стваральнікі беларускай нацыянальнай оперы». Дзень горада ў Мінску святкуюць у пачатку верасня.

### Стала вядома, чым скончыцца «Гульня тронаў»

Адзін з найпапулярнейшых серыялаў апошніх гадоў — «Гульня тронаў» па матывах серыі фэнтэзійных раманаў Джорджа Марціна «Песня лёду і полымя» — скончыцца ў 2018 годзе пасля выхаду восьмага сезона, сказаў кіраўнік аддзела праграм кабельнага тэлеканала HBO Кейсі Блойс.

Сюжэтныя лініі апошніх сезонаў сыдуць ад апісанага ў кнігах Марціна.

### Выйшла восьмая кніга пра Гары Потэра

Такім чынам Роўлінг зрабіла сабе своеасаблівы падарунак: 31 ліпеня ёй спаўняецца 51 год. Дарэчы, згодна з сюжэтам кнігі, дзень народзінаў Гары Потэра — 31 ліпеня.

Многія кніжныя крамы ў Брытаніі працавалі ў ноч на нядзелю ў сувязі з выхадам кнігі. Новая кніга — гэта п'еса.

У верасні яна выйдзе на рускай мове. На беларускую, на жаль, «Гары Потэр» так аператыўна не перакладаецца, і афіцыйных перакладаў наогул няма.

Дзеянне п'есы адбываецца праз 19 гадоў пасля падзей фінальнага рамана сагі «Гары Потэр і дары смерці».

СМ

## Моцная кніга Уладзіміра Някляева




Уладзімір Някляеў. Толькі вершы. — Мінск: Кнігазбор, 2016.

У свой сямідзясяты год паэт выдаў зборнік «Толькі вершы». Першая частка «Падманы празрыстай вады» — філасофская. Тут прысвячэнні, рэфлексіі, а ў другой частцы «Турэмная бібліятэка» — накшталт анталогіі сусветнай турэмнай паэзіі.Тут Фідзій і Цыцэрон, Оскар Уайльд і Сервантэс — і асэнсаванне таго, чым ёсць гэтыя краты для кожнага з іх. І лёс кожнага з іх праз верш Някляева падаецца трошачкі беларускім, як у Коласа, Статкевіча, Бяляцкага, Дашкевіча, пра якіх таксама тут ёсць.

* * *

Каму сказаць пра тое, што вайна?
Не слухаюць. Баяцца. «Не палохай!»

Эпоха курваў. Голая яна —
І ўсе савакупляюцца з эпохай.

Яна любому выррадку дае,
Калі свайго пазнае ў ім па твары.
І хто на свет з'яўляецца? Пачвары!..

І раптам з жахам бачыш, што твае.

2015

ды, калі быў малады. І цяпер напісаў бы, каб у маленькім гняздзечку на сэрцы...

Яго ўсё ж цягнула выказаць тое, што хвіліну таму падумалася, і ён запнуўся, бо казаць пра душу, якая стала болем, пра песню, якая стала крыкам, можна было толькі самому сабе, а Сталін спытаў з цікаўнасцю: «Што ў маленькім гняздзечку на сэрцы?..» — і Купалу кальнула пад сэрцам, хоць яно не білася, ва ўсякім разе ён не адчуваў, што яно б'ецца.

— Нічога ў гняздзечку... Я памёр, таварыш Сталін. Памёр, так і не пабачыўшы той новай Беларусі, пра якую марыў усё жыццё. Не сустрэўшы тых новых людзей, якіх спадзяваўся сустрэць, не дачакаўшыся той новай беларускай літаратуры, якой чакаў. І не пабачыўшы, не сустрэўшы, не дачакаўшыся гэтага ў жыцці, я хачу пабачыць, сустрэць, дачакацца гэтага ў смерці. На тое ў мяне цяпер ёсць і вечны час, і вечная надзея.

Сталін расчаравана, нібы чакаў нечага іншага, уздыхнуў.

— Гэта вашы беларускія сны... Усё, што ў вас ёсць, 1-я лабараторыя. А ў ёй тое, што мы для вас прыдумаем. І мы для вас, таварыш Купала, прыдумалі, нібы ў маленькім гняздзечку на сэрцы, дзе была душа, пасяліўся боль, які выцеснуў душу з жытла, у якім яна спявала, і боль гэты, заняўшы месца душы, як бы стаў ёю, душою, якая развучылася спяваць, а толькі крыкам крычала, гэтак драпаючы... ну, працягвайце... — паклаў Купалу руку на плячо Сталін, і Купала працягнуў, бо ўсё ж невыносна хацелася гэта выказаць, — «...гэтак драпаючы сэрца, што кроў, здавалася, пырскала з вачэй, якімі ўжо глядзець на свет не хацелася, бо ўдзень і ўночы ў іх было цёмна, чорна, і я пачаў шукаць шлях з невыноснага святла ў цемру, у чарнату, дзе сыходзяцца ўсе шляхі, дзе сыдуцца некалі мой з вашым, як сышоўся той, які я шукаў, з тым, які вы для мяне выбралі... але вы памыляецеся...» — зрабіў ён намаганне, каб сказаць тое, што яшчэ не сказаў, і Мяркулаў тут жа скарыстаў момант, каб заняць страчаныя пазіцыі: «Таварыш Сталін не памыляецца!» — на што Сталін ніякай увагі не звярнуў, спытаў: «У чым памыляюся?..» — і Купала дагаварыў: — «...Вы памыляецеся, маркуючы, нібы ўсё гэта па вашай волі, што выбралі шлях для мяне вы, што вы мяне прыдумалі — вы прыдумалі самога сябе!»

Сталін выслухаў усё, ходзячы па кабінеце, і, калі Купала скончыў, стаў насупраць яго. Твар у твар.

— Няхай так. У нечым кожны з нас сам сябе выдумляе. І што?

— А тое, што, як толькі самі сябе выдумляць вы ўжо не зможаце, вас пачнуць выдумляць іншыя — і зусім іншае ў вас жыццё настане. Пра пяты дзень сакавіка не забыліся?.. Вашы паплечнікі, вашы выхаванцы з той трыбуны, за якой вы ў аваціях стаялі, будуць зневажаць вас, прости здзекавацца з вас...

Мяркулаў, счырванеўшы, ужо набраў паветра ў грудзі, каб крыкнуць: «Тое, што ты мёртвы, не значыць, што не можаш стаць яшчэ мярцвейшы!» — але Сталін апярэдзіў яго:

— А з вас, думаеце, не?.. Думаеце, вас будуць услаўляць? Гэта я думаю, як вас уславіць! Стварыць з вас не проста паэта — неўміручую легенду! Бо гэта і мая неўміручасць, мая легенда! Бо я такую, з адных легенд, стварыў краіну! Вечную ў легендах! А Хрушчоў падумаў: парушу легенду пра Сталіна — і стану легендай сам. Ідыёт. Легенда — не кукуруза. Легенда можа вырастаць толькі з легенды! Ці з крыві, што тое самае. Дзе кроў, там легенда! З гною легенды не вырастаюць. Дык Хрушчоў дурань, невук, як і большасць тых, хто са мной. Але я не пра іх. Я пра тых, што з вамі... Кніг панапісваюць, за мяжой атабарацца, вучэльні ўсялякія там пасканчаюць. На розных мовах забалбочуць. І што? Ведаеце, як вас на розных мовах назавуць? Каян Лупака! Куды да іх Хрушчу з ягоным культам! Нацыянальны геній, народная легенда — Каян! Га?.. Вось вы рускіх не любіце, а скажыце: рускія перарабілі б Пушкіна ў якога-небудзь Пукніша? Вінавацілі б яго ў тым, што ён не тое напісаў, не так жыў і не так загінуў, як ім хацелася б? Учынілі б здзек з ягонай памяці?..

Сталін упершыню за ўвесь час, які яны размаўлялі, узнерваваўся, наліў з графіна вады...

— За што? — збялелымі губамі спытаў Купала. І нязмена паглядзеў на Сталіна. — Хто? Маладзейшыя? Броўка?.. Глебка?.. Танк?..

Сталін зрабіў глыток, другі, трэці...

— З гэтым не да мяне. Усевалад, хто ў цябе там наперад запісаны?.. — памаўчаў і дадаў: — Цікавы вы народ, беларусы. А яшчэ здзіўляецеся, чаму ніяк не можаце людзьмі назвацца?

Выглядала, ён някепска ведаў тое, што напісаў Купала.

— Я не здзіўляюся, таварыш Сталін. Я пытаюся.

Сталін, усё яшчэ ўзнерваваны, паставіў шклянку:

— У каго?..

З задняй кішэні галіфэ Мяркулаў дастаў нататнік, пагартаў.

— Не Броўка і не Глебка запісаныя. І не Танк. Абы-хто, таварыш Сталін. — І, хаваючы натанік, сказаў на неадрыўны позірк Купалы: — Кніга лёсаў. Пры кожным, хто прададзены, тыя, хто прадаў.

— І ведаеце, што яны скажуць?.. — наліў Сталін вады Купалу. — Што калі б вы застрэліліся ці зарэзаліся, засталіся б паэтам. А так — не. Так вы здраднік. Застаўшыся жыць, здрадзілі паэзіі... Вы тут нават мёртвы Чорнага бароніце, будучыню новай беларускай літаратуры ратуеце, а гэтая будучыня, гэтая новая літаратура, яшчэ нават не нарадзіўшыся, вас ужо прадае! Дык нашто вам яе ратаваць?

Купала выпіў вады — зубы прастукалі па шклянках.

— Не разумею... — адной рукой трымаючы шклянку, другой рукой стаў шукаць ён па кішэнях насоўку, якую аддаў Сталіну. — Я не разумею... Калі б яшчэ Качарыга... А гэтых я не ведаю... Хто яны?..

Сталін забраў у яго шклянку, паставіў каля графіна, прайшоў за свой стол.

— Вам жа сказалі. Абы-хто. Качарыга на вас жывога даносы пісаў, а яны — на мёртвага. Дык нашто вам паміраць? Ажывілі мы вас — і жывіце сабе. Вечна. Жывы з імі вы справіцеся, не піскнуць, а мёртвы...

Купала паківаў, падышоў да стала і стаў выкладваць з кішэняў цёмна-карычневага, тонкага сукна ангельскага гарнітура тое, што ў іх было: з левай унутранай кішэні пінжака пасведчанне сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў, харчовыя карткі і качарыгінскую рэкамендацыю ў партыю, чорны скураны партаманет, з правай — яшчэ адзін скураны партаманет, карычневы, абанемент у сталовую літар «А», нататнік з алоўкам у пазалочаным наканечніку, з бакавых кішэняў — партабак з тытунём «Эліт», пушачку з папяроснай паперай, запальніцу, пачаты пачак ізафеніну, памацаў, ці не засталося нечага ў кішэнях, паправіў цёмна-чырвоную агатавую шпільку на гальштуку, цёмна-чырвоныя агатавыя запінкі на абшэўках белай кашулі і сказаў:

— Я не хачу жыць.

Абразкі

## Любка, парэж яшчэ сала...

Адзіная на дзве вёскі маладзіца нават на саракавінах не адчувае сябе самотнай.

— Можа, вам селядца пакласці? — клапоціцца сусед злева.

— Каўбаскі во паспытайце, — прапануе сусед справа.

Нават стары гаспадар-удавец, што сядзіць насупраць, камплімент зрабіў:

— Паглядзіце, колькі ў вас кавалераў!

Аднак голас зяця нябожчыцы ўмомант вяртае зямлякоў да рэгламенту бяседы:

— Перастаньце! Гэта жалобны стол, а не вечар «Для тых, каму за трыццаць...»

* * *

Дурнаваты Пятрок разам з сябрам наняўся ў заробкі да мясцовай дачніцы. Падправілі павалены плот. Селі піць магарыч. Гаспадыня не пакрыўдзіла: самагонку паставіла моцную, а ўжо закуска — Пятрок такой і на Вялікдзень не бачыў. Харошая жанчына і пры грашах — пенсію палучае. Ля стала — вунь як завіхаецца! А Пятрок за рукі яе хапае і крычыць на ўсю хату:

— Любка, я хачу табе нешта сказаць, Любка, я хачу табе нешта сказаць!

— Ну, дык кажы! — не сцярпела кабета.

— Я на вушка, — інтрыгуе Пятрок і, нахіліўшыся, натхнёна шэпча: — Любка, парэж яшчэ сала!

## Гісторыі са шчаслівым канцом

Адзін жыхар Шклоўскага раёна ведаў безліч неверагодных гісторый і ахвотна расказваў іх усім ахвотным, асабліва нападпітку. Але ўсе тыя прыгоды мелі агульную адметнасць: хоць і пачыналіся па-рознаму, але заканчваліся заўжды аднолькава:

— Мы пайшлі і выпілі.

## Што ходзіць, а што плавае

Зімою Валера працаваў вартаўніком, а ўлетку ўладкоўваўся на адзіны ў горадзе прагулачны цеплаход, што мясцоваму камунгасу належаў. Рака абмялела ў спёку, дык летась тая пасудзіна мо якія два рэйсы толькі і зрабіла.

— Ну што, хутка ізноў плаваць? — пытаецца ў Валеры знаёмы.

— Плавае сам ведаеш што, а мы ходзім, — з гонарам марскога ваўка суседняе краіны адзначае Валера, пагардліва скрывіўшыся ў бок субяседніка.

Ягоны апанент, аднак, не згаджаецца з высноваю, выяўляючы адрозную ментальнасць сапраўднага беларуса:

— Не, гэта брага ходзіць, а ты плаваеш!

## Казлоў шкадуе

— Падстрэліў я на выходных казла дзікага, — распавядае ў аўтобусе калегам паляўнічы-аматар. — Прынёс дадому, скуру злупіў, разабраў. А сястра як пабачыла — дык у слёзы!

— Харошая ў цябе сястра, жаласная. Казлоў шкадуе, трэба з Васем пазнаёміць, — прапануе нехта на апошніх сядзеннях.

## Грузін і цыганка

На кіраўскай аўтастанцыі грузін беспаспяхова дасцёбваецца да цыганкі з вялізнымі клумкамі:

— Пагадай, пагадай.

Покуль ёй, зморанай дарогаю і гандлем, гэта не надакучвае:

— Хочаш знаць, што ўперадзі? Нагніся і паглядзі!

## Воін-інтэрнацыяналіст

Падвыпіўшы і нахабны пасажыр дызеля не дае спакою ўсяму вагону. Чапляецца да людзей, прапануе выпіць, крычыць субяседнікам у самае вуха, абражае. Аднак ніхто не спяшаецца даць яму адлуп, звязвацца неахвота. Боўдзіла падскоквае да чарговай ахвяры і, тыцкаючы ёй у твар нейкай чырвонай корачкаю, працягвае драць зяпу:

— Я воін-інтэрнацыяналіст! А ты хто такая ?

— Я маці траіх дзяцей, — годна адказвае жанчына і працягвае яшчэ больш рашуча і пагрозліва: — А зараз гэтай кніжачкай ды па мордзе!

* * *

Дванаццацігадовая школьніца дзеліцца ўражаннямі ад першай паездкі ў цягніку:

— Мне спадабалася адной ездзіць, і кампанія па дарозе туды нармальная была. Пакуль нейкі п'яны дзядзька не падсеў. Усё хваліўся, што дужа круты і багаты. А я гляджу: чаравікі падраныя!

## Казка пра крэдыт

На ўроку чытання настаўніца пытае вучняў:

— Дзеці, чаму ў казцы «Пра рыбака і рыбку» стары адпусціў рыбку, спачатку адмовіўся ад выкупу?

— Падумаў: а раптам гэта крэдыт?

## Хамяк мне сябар?

Вярнуўшыся са школы, другакласніца нават за сталом сядзіць у глыбокім задуменні.

— Што здарылася? — цікавіцца маці.

— Ды ўчора задалі прачытаць кніжку пра сяброў. Паўкласа не прачытала, бо дома кніжак пра сяброў не знайшлі. Тады настаўніца кажа: дык можна было пра хатніх жывёлаў прачытаць. Яны таксама верныя сябры чалавека. Шмат карысці прыносяць. Вось я цяпер думаю: хамяк мне сябар ці не?

## Ганаровая спецыяльнасць

Вучаніца расказвае пра сем'і сваіх аднакласніц:

— Кацiна мама ў казіно працуе. Алесіна — насмяцецывым заво-дзе, толькі не кажа нікому, каб не смяяліся. А Аліпіна — зусім нідзе. Ёй грошы бабуля і новы тата даюць!

## Дзявочая мара

Дзяўчо дзеліцца мараю з сяброўкай:

— Калі мне споўніцца васямнаццаць, хачу паспытаць піва «Бургер» цёмнае.

## Мышы не знаюць

— Зачыні дзверы ў залу, а то мышы з сенцаў ускочаць, — загадвае бабуля ўнучцы.

— Дык калі яны захочуць, то й праз кухню ўлезуць, — упарціцца ленаватая ўнучка.

— Не, там яны не знаюць! — упарта настойвае на сваім старая.

## Красавіца

— Ой, я ж у маладосці красавіца была! А кавалераў у мяне было колькі, — пахваляецца пенсіянерка суседцы.

Аднак тая не надта верыць успамінам:

— У цябе ж, Маня, і цяпер уся морда ў больках! А ўжо тады, дык я прадстаўляю!

## Мяў

Бабуля, едучы ў дызелі, размаўляе па тэлефоне з кранальнаю пяшчотай:

— Ну, як там без мяне мой маленькі? Не сумуе? Ці кушаў ён сёння? Дай яму трубачку. Алё, мой салодзенькі, мой харошы...

— Мяў!

## Забралі ў войска

— Ты ж там усё еш: і капустачку, і кашу. Гэта карысна. А я да цябе ў суботу прыеду і смачненькага прывязу... — абяцае ў слухаўку кабета.

— Што, унук? Меншы ў садзік пайшоў ці большы ў лагер паехаў? — цікавіцца знаёмая побач.

— Ды не, сына ў войска забралі.

## Праўдзівая рэклама

Рэклама караоке-бара гучыць на ўвесь гандлёвы цэнтр, не пакідаючы сумневу ў сваёй праўдзівасці:

—Нашая ўстанова вартая вашых вакальных здольнасцяў. Караоке-бар «Гістэрыка»!

## З абвесткі

На дзвярах доктарскага кабінета: «Прыём ажыццяўляецца строга па часе, пазначаным у талоне. Час пазначаны прыблізна».

**Запісала Таццяна Барысік**



**Таццяна Барысік**

Нар. 1977. Скончыла факультэт дашкольнага выхавання Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1999). Працавала ў школах Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Цяпер жыве ў Магілёве. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар самвыдатаўскага зборніка паэзіі «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» (Асіповічы, 2003), зборніка апавяданняў «Жанчына і леапард» (2014). Лаўрэатка 2-й прэміі Ежы Гедройца — 2015.






ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Незвычайную акцыю правёў «Малады фронт» 27 ліпеня. А 8:30 раніцы актывісты прыйшлі на плошчу Незалежнасці з нацыянальнымі сцягамі. Акцыя была прымеркаваная да 26-х угодкаў падпісання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Міліцыя складала пратаколы, але нікога не затрымлівала.**



ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

**Ініцыятыўная група кандыдата ў дэпутаты па Сухараўскай акрузе Мінска Алеся Лагвінца правяла пад адкрытым небам канцэрт Лявона Вольскага. У Сухарава прыехалі сотні людзей. Лявон выканаў як новыя, гэтак і ўсімі любімыя хіты. Ярмошыну гэта раз'юшыла, яна рыхтуецца вынесці Лагвінцу папярэджанне.**




**8-гадовы хлопчык са Століна Даніла Басавец трапіў у эскорт футбалістаў на Еўра-2016. У сябе на шчацэ ён намаляваў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. У паўфінале Партугалія–Уэльс беларус выводзіў на гульню Гарэта Бэйла — галоўную зорку валійцаў.**



**Беларуская біятланістка Дар'я Домрачава і нарвежскі біятланіст Уле-Эйнар Б'ёрндален афіцыйна зарэгістравалі адносіны. «Які цудоўны дзень», — падпісаў гэты здымак нарвежац.**



**Гады не маюць улады! Здымак 49-гадовай амерыканскай акцёркі, уладальніцы прэміі «Оскар» Холі Бэры выклікае сапраўднае захапленне.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Выйшла беларуская версія папулярнай гульні.

У ёй пакемонаў можна не толькі лавіць, але і складаць на іх пратаколы, даваць штраф і нават саджаць на пятнаццаць сутак.

* * *

Калі цябе акружылі, то не здавайся, а станавіся ў карагод.

* * *

А мне не падабаюцца новыя лямпачкі: на іх шкарпэткі цыраваць нязручна!

* * *

— Тата, а праўда, што мяне ў капусце знайшлі?

— Праўда, сынок! А ўчора — за гаражамі. А пазаўчора — на прыпынку. Хопіць гарэлку жлукціць, сыне!

* * *

Была ў псіхолага, расказала яму пра сваё жыццё. Ён плакаў! Доўга не магла супакоіць.

* * *

— Колькі табе гадоў?

— Дваццаць сем.

— Якое дасягненне ты лічыш самым значным у сваім жыцці?

— Дабег да кухні раней за кошку.

* * *

На будучых выбарах не будзе датэрміновага галасавання.

Дастаткова будзе кіўнуць галавой тэлевізару, калі ў ім выступае кіраўнік краіны.

* * *

— Як ты думаеш, мужчынам можна верыць?

— Можна, хай вераць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вінцэнтава. Вілейскі павет.** У нашым кутку не звяліся даўнейшыя забабоны, у каторыя ўжо ўсюды нават цёмныя людзі стыдаюцца верыць. Да такіх перажыткаў цемнаты належыць вера ў «заломы». І вось, аказваецца, знайшлася ў нашым кутку яшчэ адна кабеціна, якая дае веры байкам аб заломах і ўвесь свой шнурок убрала заломамі, пакідаючы не зжатым тое жыта, каторае пераблуталі, бегаючы па полі, сабакі. Паверце, людцы, што ніякіх заломаў не бывае і нікому яны шкодзіць не могуць, а ўсе страхі, якія баяць бабкі, — гэта пустыя выдумкі.

**«НН». №31—32. 1911.**

**Віталь Тарас:** Незалежнасць за даляглядам. У беларускага народа шанец пабудаваць свабодную і незалежную дзяржаву не толькі быў, але і застаецца.

**«НН». №30. 2006.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 30 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 02.08.2016.
Замова №3146.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

